

# Наша Вясна

Праваабарончы цэнтр «Вясна»
Гісторыя ў асобах

Вільнюс
Выдавецтва
«GUDAS»
2012

У выданні выкарыстаны фотаздымкі Праваабарончага цэнтра «Вясна»,
асабістых архіваў сяброў арганізацыі,
Licvin-INFA, svaboda.org, photo.bymedia.net і іншых крыніц.

«НАША ВЯСНА» — гэта зборнік інтэрв'ю з 18 актывістамі Праваабарончага цэнтра «Вясна», праз якія прасочваецца асабісты шлях кожнага з іх да праваабарончай дзейнасці, гісторыя ўсёй арганізацыі, а таксама гісторыя барацьбы за каштоўнасці правоў чалавека ў Беларусі ў найноўшай гісторыі краіны.

Выданне задумвалася да 15-годдзя Праваабарончага цэнтра «Вясна», але выйшла ў свет амаль на год пазней у сувязі з драматычнымі падзеямі, якія адбываліся ў краіне і з самой арганізацыяй на працягу апошняга часу.

Ініцыятар зборніка —нязменны кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі — сустракае выданне кніжкі за кратамі, «там, дзе акурат і мусіць знаходзіцца праваабаронца ў такой паганай сітуацыі».

Праваабарончы цэнтр «Вясна», 2012

Электронную версію кнігі можна знайсці на сайце: spring96.org

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Выданне гэтай кніжкі планавалася намі яшчэ год таму — да 15-годдзя стварэння Праваабарончага цэнтра «Вясна». Падрыхтаваць яе да красавіка (26 красавіка 1996 года лічыцца своеасаблівым «Днём нараджэння» арганізацыі) не паспявалі па аб'ектыўных прычынах: паслявыбарчыя падзеі 2010 года проста завалілі нас працай — за кратамі знаходзіліся дзясяткі палітзняволеных, па ўсёй краіне няспынна ішлі затрыманні, допыты, вобыскі, і вясноўцам неабходна было своечасова рэагаваць на гэтыя выклікі. Ды і саму «Вясну», яе сяброў па ўсёй краіне захліснула хваля рэпрэсіяў: вобыскі і канфіскацыі аргтэхнікі ў цэнтральным офісе ў Мінску і рэгіёнах, у кватэрах і дамах, пасля якіх патрабаваліся дадатковыя намаганні, каб узнавіць паўнавартасную працу.

Думалі: вось завершацца судовыя працэсы «дзекабрыстаў», сітуацыя крыху стабілізуецца, тады і юбілей адзначым, і гісторыяй «Вясны» зоймемся. Прыкладна так і атрымалася. Падрыхтоўку кніжкі пачалі з пачатку лета, і ўсе інтэрв'ю, якія зараз сабраныя пад адной вокладкай, зроблены якраз у чэрвені-ліпені 2011-га.

Ініцыятарам выдання з'яўляецца Алесь Бяляцкі — заснавальнік і нязменны кіраўнік «Вясны». «Усё, што не пакладзена на паперу, не зафіксавана — лічы, што яго і не было,» — казаў ён. А на прыкладзе «Вясны» можна адсочваць важныя працэсы найноўшай гісторыі Беларусі: барацьбу за правы чалавека і дэмакратычныя каштоўнасці, супрацьстаянне асобы і аўтарытарызму, станаўленне і развіццё праваабарончага руху. Гэтая кніжка, па меркаванні Бяляцкага, таксама павінна быць адказам на шалёную дыскрэдытацыю праваабаронцаў, разгорнутую праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Хто на самой справе гэтыя людзі па сваіх перакананнях, каштоўнасцях і прафесіі, які іх шлях да праваабароны і

якой яны бачаць будучыню краіны — гэта таксама можна пабачыць з партрэтных інтэрв'ю, сабраных у гэтым выданні.

Калі ішла праца над гэтай кніжкай, мы ўжо ведалі, што над «Вясной» згушчаюцца хмары: у сярэдзіне чэрвеня стала вядома, што Міністэрства юстыцыі Літвы перадало беларускім спецслужбам інфармацыю пра рахункі Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча, на якія паступалі сродкі для аказання дапамогі палітычным рэпрэсаваным і іншую дзейнасць арганізацыі (аналагічныя запыты на яшчэ чарытох вясноўцаў літоўскі бок не задаволіў; пазней стала вядома, што Генпракуратура Польшчы таксама прадставіла беларускаму боку інфармацыю пра рухунак Бяляцкага ў гэтай краіне). Паўтары месяцы напружанага чакання: якім чынам перададзеная інфармацыя будзе скарыстана беларускімі ўладамі, што будзе з нашымі калегамі і сябрамі? Колькі разоў казалі Алесю: «Варта з'ехаць на нейкі час, перачакаць небяспеку». Ягоны адказ заўсёды быў адназначны: «Не, я гатовы прайсці свой шлях да канца — якім бы ён ні быў».

4 жніўня 2011 года. А палове на пятую кароткае тэлефанаванне ад жонкі Бяляцкага Наталлі: «Алесь арыштаваны. Зараз у нас дома вобыск. Потым будзе вобыск у «Вясне». Нягледзячы на тое, што сказанае не было цалкам нечаканым, у першыя імгненні гэта выклікала шок. Што рабіць, што прадпрыняць? Праз некалькі хвілін я кіравалася да офіса. Алеся пабачыла ўжо пад вартай; ён паспеў сказаць, што яго падазраюць ва ўтойванні прыбыткаў у асабліва буйных памерах. Перадаючы мне ключы ад вясноўскай кватэры, ён коратка сказаў: «Трымайце «Вясну!» Гэта прагучала як своеасаблівы запавет: як бы ні склаліся далейшыя падзеі — «Вясна» павінна працаваць далей і выконваць сваю місію.

Да гонару маіх калег-вясноўцаў трэба сказаць, што гэты запавет зняволенага кіраўніка арганізацыі выконваецца: ні адзін з сяброў «Вясны» не спыніў сваёй дзейнасці, не зачынілася ніводнае рэгіянальнае прадстаўніцтва, не знік ніводзін з накірункаў нашай традыцыйнай працы. Выданне гэтай кніжкі, хоць і запозненае — таксама доказ гэтаму. Выпрабаванні толькі зрабілі працу «Вясны» больш зладжанай і эфектыўнай, з'яднала калектыў, яшчэ больш навучылі цаніць і берагчы адзін аднаго. І

гэта — вынік агульнай перакананасці ў справядлівасці нашай дзейнасці, паказчык таго, што «Вясна» аб'яднала глыбока ідэйных людзей, аднадумцаў. Гэтую думку я заўсёды імкнулася перадаць у лістах да Алеся ў турму, і гэта ён мог пабачыць на ўласныя вочы падчас суда, на кожнае паседжанне якога нязменна з ўсёй краіны прыязджалі вясноўцы, каб падтрымаць і выказаць салідарнасць са зняволеным кіраўніком арганізацыі.

24 лістапада. Абвяшчэнне прысуду Алесю Бяляцкаму. Суддзя зачытвае: чатыры з паловай гады калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Алесь успрымае прысуд спакойна, з годнасцю. Калі на руку яму надзяваюць кайданкі, паспявае крыкнуць: «Жыве «Вясна»!» І чуе ў адказ: «Жыве!»

У першым лісце пасля суда Алесь напісаў мне: «Я ўвесь гэты час моцна адчуваў сябе падтрыманым і адчуваў гэтую падтрымку літаральна кожны дзень і кожную гадзіну. Думаю, што ўсе гэтыя месяцы (пасля арышту — **Т.Р.**) былі найвышэйшым пілатажам для ўсіх нас. Зараз я спакойны, чаго і вам усім жадаю. Час эмоцыяў патроху праходзіць. Таму — жывем і працуем далей».

* * *

Безумоўна, калі б не зняволенне Алеся Бяляцкага, прадмову да гэтай кніжкі пісаў бы кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна». «Але я зараз там, дзе акурат і мусіць знаходзіцца праваабаронца ў такой паганай сітуацыі» (з ліста — **Т.Р.**).

Паўплывала ізаляцыя Бяляцкага і на структуру выдання, у якое лагічна дадалося ягонае апошняе слова ў судзе, дзе ён аналізуе ролю і месца праваабаронцаў у грамадстве, прадстаўляе гісторыю і метады пераследу і савецкіх дысідэнтаў, і праваабаронцаў сённяшняга часу. Фактычна ў апошнім слове Алесь прадставіў шырокую карціну няпростай, а часам трагічнай барацьбы за ўсталяванне правоў чалавека пры таталітарных рэжымах, а таксама дадаў новыя старонкі да гісторыі асобнай арганізацыі — Праваабарончага цэнтра «Вясна».

**Таццяна Рэвяка, сябра Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна»**



Акцыя ў знак пратэсту супраць закрыцця Праваабарончага цэнтра «Вясна». Мінск, Вярхоўны суд. Кастрычнік 2003 года.

# Час зрабіў нам выклік. Мы яго прынялі

**Алесь БЯЛЯЦКІ,** Мінск

# Алесь БЯЛЯЦКІ

Алесь Бяляцкі нарадзіўся 25 верасня 1962 года ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна Карэліі, куды ягоныя бацькі выехалі з Беларусі на заробкі. У 1964 годзе сям'я Бяляцкіх вярнулася ў Беларусь, абраўшы месцам жыхарства горад Светлагорск. Там Алесь скончыў сярэднюю школу № 5.

У 1979 годзе Алесь Бяляцкі паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе распачаў літаратузнаўчую і грамадскую дзейнасць. У 1984 атрымаў дыплом выкладчыка філалогіі. Перад паступленнем у аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі Навук БССР працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці. У 1984 годзе Алеся Бяляцкага прызвалі ў Савецкую Армію. Служыў пад Свярдлоўскам.

Пасля вяртання з войска А. Бяляцкі працягваў вучобу ў аспірантуры, займаўся навуковай, літаратурнай і грамадскай дзейнасцю. У 1986 годзе ён быў адным са стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», з 1986 па 1989 год з'яўляўся старшынёй гэтай арганізацыі.

У 1988 г. выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралог Беларусі», быў сябрам Арганізацыйнага камітэту Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», сакратаром Управы і намеснікам старшыні БНФ. У 1988 годзе з'яўляўся заяўляльнікам адной з першых масавых акцый «Дзяды»; у 1990 годзе выступіў адным з арганізатараў Беларускай Каталіцкай Грамады.

Аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі Навук БССР скончыў вясной 1989 года, ад абароны кандыдацкай дысертацыі адмовіўся. На яе аснове ў 1991 годзе выдаў кнігу- манаграфію «Літаратура і нацыя».

Непрацяглы час працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Музея гісторыі беларускай літаратуры. У 1989 годзе быў абраны дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. На гэтай пасадзе працаваў да 1998 года. Пад яго кіраўніцтвам была адчыненая экспазіцыя літаратурнага музея і трох яго філіялаў.

У 1991-1995 гадах Бяляцкі з'яўляўся дэпутатам Мінскага гарадскога Савета.

З 1996 года — старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна». У 2007 годзе абраны віцэ-прэзідэнтам FIDH (The International Federation for Human Rights).

У 2000-2004 гадах узначальваў Рабочую групу Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі.

Адзначаны міжнароднымі ўзнагародамі: 2006 год — шведскай прэміяй імя Пера Ангера, Прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава (Нарвежскі Хельсінскі камітэт), прэміяй Homo Homini чэшскай арганізацыі People in Need («Чалавек у нядолі»). Муніцыпалітэт горада Генуя (Італія) ў 2010 годзе надаў Алесю Бяляцкаму званне «ганаровы грамадзянін Генуі». У 2011 годзе ўганараваны Прэміяй Свабоды Атлантычнай Рады ЗША. Алесь Бяляцкі двойчы быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру: у 2006 і 2007 гадах.

А. Бяляцкі з'яўляецца дзейным сябрам Саюзу беларускіх пісьменнікаў (1995), Беларускага Пэн-цэнтра, Беларускай асацыяцыі журналістаў. У 2006 годзе выдаў кнігу нарысаў і эсэ «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера».

Жанаты, мае сына.

**— Спадар Алесь, згадайце, з чаго пачыналася «Вясна»? Як узнікла сама яе ідэя?**

— «Вясна» пачыналася тады, калі цэлую вясну 96-га года ішлі масавыя акцыі, якія адбываліся з розных прычынаў. У красавіку — у сувязі з так званай Саюзнай дамовай з Расіяй, якую Лукашэнка збіраўся заключаць з Ельцыным. Перад гэтым адзначалася 15 сакавіка — Дзень Канстытуцыі, затым 25 сакавіка — Дзень Волі, калі прайшла вялікая дэманстрацыя па праспекце Незалежнасці да Опернага тэатра і будынку Белтэлерадыёкампаніі на Чырвонай, дзе патрабавалі прамога эфіру, бо тады ўжо былі праблемы з інфармацыяй і яе распаўсюдам. Тады была ўзбуджана крымінальная справа за парушэнне парадку, але яна



Дома з жонкай Наталляй і сынам Адамам. 2006 год.

нічым не скончылася. А 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа сабралася 40-50 тысяч чалавек, якія пайшлі затым па праспекце Незалежнасці да цырка і па вуліцы Багдановіча да Палацу спорта, дзе былі праведзены мітынгі. Падчас гэтай дэманстрацыі міліцыя перакрыла дарогу машынамі, былі выстаўлены кардоны АМАПу, і ўсё гэта суправаджалася жорсткімі сутычкамі з людзьмі. У той дзень было арыштавана больш за 200 чалавек, узбуджана чарговая крымінальная справа. У СІЗА апынуліся Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык як заяўляльнікі акцыі. Востра ўзнікла пытанне тэрміновай дапамогі ў зборы інфармацыі і давядзенні яе да сваякоў затрыманых, бо паніка тады была нават большая, чым мы бачылі ў 2006-м і ў 2010-м гадах падчас падобных масавых арыштаў. Проста тады гэта было ўпершыню. Я хачу падкрэсліць, што да гэтага акцыі, за выключэннем «Дзядоў» 1988 года, у нас фактычна не разганяліся. Так, былі затрыманні, быў нейкі млявы пераслед, але

так масава, нахабна і жорстка, як гэта адбылося ў красавіку 96-га года — такога не было. Мне падаецца, менавіта тады Лукашэнка вырашыў жорсткасцю сілавых дзеянняў спыніць масавыя акцыі.

У гэтай сітуацыі ўзнікла група людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі, а таксама матэрыяльнай дапамогай: мы шукалі грошы, прадукты харчавання для тых, хто сядзеў па крымінальнай справе і на «сутках». У прыватнасці, адзін чалавек перадаў нам харчы і мы потым іх раздавалі сем'ям рэпрэсаваных. Гэта было не так шмат, але — чым маглі... Гэтая група працавала прыкладна месяц.

«Закручванне гаек» у той час ішло па розных накірунках. Напачатку красавіка быў затрыманы і сядзеў у СІЗА Славамір Адамовіч. Узнікла патрэба ў дапамозе яму, бо ягоная маці, пенсіянерка, сама не спраўлялася. На адным з мітынгаў мы сабралі пэўную суму грошай і перадалі ёй — на перадачы для Славаміра.

**— Сапраўды, я памятаю, у той час на акцыях хадзілі людзі са скрыначкамі і збіралі ахвяраванні для палітвязняў...**

— Так. Цэнтральным накірункам нашай працы стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі. Усё рабілася на абсалютна добраахвотных пачатках. У той час я працаваў дырэктарам Літаратурнага музея

Падчас акцыі ў падтрымку палітвязня Зміцера Дашкевіча. Жураўлікі ад «Міжнароднай Амністыі» ў прыёмнай МУС. Снежань 2007 года.



Максіма Багдановіча, быў сакратаром Управы БНФ. Улічваючы, што тады Фронт быў асноўнай актыўнай вулічнай сілай, найбольш ахвяраў было якраз сярод сяброў БНФ.

У 97-м годзе да гэтай працы далучыліся некалькі дзяўчат-валанцёрак з ліку супрацоўніц музея — напрыклад, Паліна Сцепаненка. Паступова мы пашыралі сваю працу і пачалі шукаць кантакты ў рэгіёнах, таму што рэпрэсіі разгарнуліся па ўсёй Беларусі. Нам патрэбны былі людзі, гатовыя працаваць у праваабарончым накірунку па ўсёй краіне, і на працягу 97-га года мы фактычна адбудавалі рэспубліканскую структуру. 23 лютага 1998 года мы зарэгістравалі «Вясну-96» як мінскую гарадскую арганізацыю і адначасова рыхтавалі дакументы для стварэння

Затрыманне Алеся Бяляцкага падчас Дня Волі. Мінск. 25 сакавіка 2004 года.



нацыянальнай. У 1999 годзе «Вясна» была зарэгістравана як арганізацыя рэспубліканская і ў такім статусе існавала да 2003 года, калі рашэннем Мінюста і Вярхоўнага суда яна была зачынена за ўдзел у назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. З тых часоў працуем без рэгістрацыі. Мы ўжо тры разы падавалі дакументы на рэгістрацыю «Вясны», але Міністэрства юстыцыі кожны раз адмаўляла — у 2007 годзе і двойчы ў 2009-м. Пры гэтым у 2007 г. Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне, згодна з якім пазбаўленне рэгістрацыі «Вясны» прызнана парушэннем права на свабоду асацыяцыі сяброў нашай арганізацыі. Камітэт таксама заклікаў урад Беларусі аднавіць нашы правы, зарэгістраваўшы «Вясну», але гэта рашэнне да сённяшняга дня не выканана, і мы працягваем працаваць у незарэгістраваным статусе.

**— Вы задаволены тым, чаго дасягнулі за паўтары дзясяткі гадоў?**

— «Вясна» ўжо пасля скасавання афіцыйнай рэгістрацыі стала сябрам Міжнароднай Федэрацыі правоў чалавека — FIDH, а мяне абралі віцэ-прэзідэнтам гэтай арганізацыі, і я ўжо другі тэрмін ім з'яўляюся. За час нашай дзейнасці мы займелі шмат замежных партнёраў. Варта адзначыць, што наша праца і ўвогуле праваабарончая дзейнасць ва ўсім свеце будуецца на міжнароднай салідарнасці і супрацоўніцтве. Дзякуючы гэтаму мы павялічылі эфектыўнасць сваёй працы, маючы сяброў і шматгадовых партнёраў у розных краінах Еўропы і свету, якія дапамагаюць нам ставіць пытанні Беларусі, напрыклад, у такіх інстытуцыях, як ААН, Рада Еўропы, Еўразвяз. Міжнародная праваабарончая супольнасць садзейнічае таму, што «Вясна» фігуруе як значная праваабарончая сіла, якая ўспрымаецца вельмі сур'ёзна, што дазваляе нам, у сваю чаргу, уздымаць праблемы Беларусі на розных узроўнях.

За 15 гадоў мы значна пашырылі сваю працу, і, акрамя традыцыйных, у нас з'явіліся новыя накірункі. Сюды трэба аднесці і назіранне за выбарамі: з 2000 года мы рэгулярна ажыццяўляем маніторынг выбараў у Беларусі, а таксама бярэм удзел у

міжнародным назіранні. З 2001 года «Вясна» з'яўляецца сябрам Еўрапейскай сеткі арганізацый па назіранні за выбарамі — ENEMO, і вясноўцы маюць досвед назірання за выбарамі ў такіх краінах, як Кіргізія, Азербайджан, Украіна, Польшча, Швецыя, Сербія, Косава, Казахстан і іншых. Вопыт міжнароднага назірання, канечне ж, дазваляе нам параўноўваць выбарчыя законы, умовы правядзення выбараў у розных краінах і дапамагае праводзіць унутранае назіранне на больш высокім і прафесійным узроўні.

Яшчэ адзін важны накірунак нашай дзейнасці — навучанне правам чалавека. Перш за ўсё нашы адукацыйныя праграмы накіраваны на моладзь, якая найбольш успрымае каштоўнасці правоў чалавека і імкнецца атрымліваць веды ў гэтай галіне. Мы працуем і над няспынным падвышэннем прафесійных кампетэнцый калег-праваабаронцаў і юрыстаў, а таксама іншых зацікаўленых мэтавых груп — так што аб'ём працы тут даволі вялікі.

Сябры «Вясны» рэгулярна ўдзельнічаюць у міжнародных праваабарончых канферэнцыях і мерапрыемствах, каб данесці аб'ектыўную інфармацыю пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Такім шляхам, нават не маючы на сённяшні дзень ніякіх стасункаў з беларускай уладай (апроч таго, што яна займаецца дыскрэдытацыяй праваабаронцаў — метадычна і паслядоўна), мы адчуваем наш відавочны ўплыў на яе. Напрыклад, заявы ўладаў пра магчымае ўвядзенне забароны на выезд з Беларусі для палітычных і грамадскіх апанентаў сведчаць, што нас успрымаюць як рэальную сілу, з якой немагчыма не лічыцца.

У прынцыпе, я задаволены вынікамі нашай працы за 15 год. Мы шмат зрабілі для разумення важнасці правоў чалавека палітыкамі і грамадскасцю Беларусі — тых людзей, якія пасля змянення сітуацыі будуць арыентавацца на гэтыя правілы і стандарты ў сваёй дзейнасці, у адрозненне ад цяперашняй улады. Гэта вельмі важна. А другі момант — гэта тое, што мы з'яўляемся важным фактарам успрымання грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, бо наша праваабарончая інфармацыя і ацэнкі займаюць годнае месца і ўспрымаюцца вельмі сур'ёзна.




Адкрыццё помніка бацьку Максіма Багдановіча — Адаму Ягоравічу. Травень 1997 года.

З другога боку, канечне, ёсць пэўная незадаволенасць, таму што асноўная мэта, дзеля якой працуе наша арганізацыя — павага і захаванне правоў чалавека ў краіне, яшчэ не дасягнута. Наадварот, у апошнія месяцы сітуацыя яшчэ больш ускладнілася, і краіна яшчэ далей адышла ад цывілізаваных нормаў, а правы чалавека згадвацца прадстаўнікамі ўладаў выключна ў нейкім здзеклівым сэнсе. Сам Лукашэнка іх разумее выключна як права на працу і права гаварыць на кухні з жонкай. Гэта, канечне, вельмі жахліва і ўвогуле паказвае вельмі нізкі ўзровень — культурны, цывілізацыйны — сённяшняй беларускай улады. Таму нам трэба яшчэ шмат працаваць.

**— За 15 гадоў мне давялося чуць вельмі шмат словаў удзячнасці на адрас праваабаронцаў, але ў той жа час я сустракала і такія закіды, што праваабаронцам ніколі не даюць**

**«суткі», іх не караюць так, як тых, каго яны абараняюць. І што праз гэта праваабаронцы не разумеюць дакладна таго, што насамрэч адбываецца з людзьмі ў нашай краіне. Як бы вы гэта пракаментавалі? Я ведаю, што вы самі траплялі на Акрэсціна, як і іншыя сябры «Вясны», а цяпер увогуле фактычна пад пагрозай крымінальнай справы (пасля папярэджання Генпракуратуры) ходзіце. Якая ж рэальна ступень небяспекі для саміх праваабаронцаў?**

— Небяспека існуе. Аднак мы — не палітычная партыя, мы не ўдзельнічаем у палітычных працэсах наўпрост. Калі, напрыклад, былі выбары, мы не працавалі на карысць нейкага кандыдата, а ажыццяўлялі назіранне за выбарчым працэсам. Гэта нейтральная дзейнасць, на якую і арыентаваныя якраз няўрадавыя арганізацыі, у прыватнасці, «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт.

Што датычыцца акцыяў, якія маюць праваабарончы характар — у іх, вядома, мы бярэм актыўны ўдзел. Падкрэсліваю, не ў палітычных акцыях, а ў праваабарончых. Гэта і Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання, бо мы заўсёды выступалі і выступаем супраць выкарыстання гэтага віда пакарання. 10 снежня, у дзень прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, які адзначаецца ва ўсім свеце, мы ў Беларусі таксама

Падчас навучання сёстраў-місіянерак беларускай мове. Кляштар у Польшчы. 1993 год.





Вацлаў Гавел уручае прэмію
«Homo Homini Award».
Чэхія, Прага. Сакавік 2006 года.

традыцыйна праводзім розныя мерапрыемствы. А, напрыклад, у 1998-м годзе мы правялі вялікую дэманстрацыю, накіраваную супраць неафашызму, бо на той час РНЕ набіраў сілу ў Беларусі і нават былі выпадкі збіцця людзей прыхільнікамі гэтага руху. На гэтую дэманстрацыю сабралася некалькі тысяч чалавек, і ў выніку я атрымаў 10 сутак зняволення як арганізатар. Можна ганарыцца, у прынцыпе, што я атрымаў «суткі» за антыфашысцкую акцыю.

З праблемамі мы сутыкаемся на працягу ўсёй нашай дзейнасці, а апошнім часам ціск толькі ўзмацняецца. Напрыклад, за пяць месяцаў пасля выбараў на офісе «Вясны» ўжо тройчы адбывалісяператрусы, канфіскавана ўся кампутарная тэхніка. Таксамаператрусы прайшлі ў нашых аддзяленнях — Маладэчне, Гомелі, Горадні, Рэчыцы. Гэта ўсё гаворыць пра тое, што ўлады вельмі нервова рэагуюць на праваабарончую дзейнасць і спрабуюць гэткім жа чынам, як палітычным апанентам і журналістам, заткнуць раты і праваабаронцам. Я атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад Генеральнай пракуратуры за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі — гэта ўжо апошні крок перад узбуджэннем крымінальнай справы па 193-м артыкуле. Але, тым не менш, мы працягваем працу, улічваючы тое, што яна мае вялікі міжнародны



З актрысай Катрын Дэнёў і прадстаўнікамі Калумбіі Луісам Гільерма (злева) і Алірыя Урыбе (справа) падчас святкавання 60 гадавіны Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Парыж. 2008 год.

рэзананс і можа вельмі сур'ёзна, найперш праз уплыў і ціск міжнародных арганізацый, паўплываць на сітуацыю ў Беларусі.

Я б не стаў моцна дзяліць праваабаронцаў з іншымі актывістамі па тым, што мы знаходзімся ў нейкіх больш ільготных умовах. Наадварот, пасля 19 снежня так атрымалася, што калі палітычныя сілы даволі доўгі час заставаліся ў разгубленым стане, калі знізілася палітычна актыўная дзейнасць, менавіта праваабронцы і журналісты апынуліся на перадавой змагання за дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі. Недарэмна завялі крымінальныя справы на Пачобута і Салея, папярэджанне мне таксама недарэмна было вынесена. Мы проста бачым, што на сённяшні дзень журналісты і праваабаронцы выконваюць функцыю гэткага грамадзянскага сумлення і займаюцца надзвычай важнай справай, а менавіта — распаўсюдам інфармацыі: што ж на самой справе адбываецца ў краіне. Улады баяцца гэтай інфармацыі. Нашы негвалтоўныя метады змагання за дэмакратыю і правы чалавека з'яўляюцца для ўлады, па ўсім відаць, вельмі небяспечнымі.

**— Я ведаю, што «Вясна» ў межах сваёй інфармацыйнай дзейнасці выдае некалькі друкаваных выданняў. Распавядзіце, калі ласка, пра іх падрабязней.**

— Найперш трэба згадаць наш бюлетэнь «Права на Волю», які выходзіць з 1998 года і рэгулярна асвятляе сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Ён таксама размяшчаецца ў нас на сайце spring96.org, які на сённяшні дзень наведваюць некалькі дзясяткаў тысяч чалавек штомесяц — гэта дастаткова шмат для вузкапрофільнага сайта. Мы таксама пачалі карыстацца новымі магчымасцямі распаўсюду інфармацыі, стварыўшы свае старонкі ў папулярных сацыяльных сетках — Фэйсбуку і Твіттэры. Кожны год, пачынаючы з 1998, мы выпускаем перыядычнае выданне — нашы Агляды-хронікі парушэнняў правоў чалавека і аналітычныя Агляды. І калі ў 1998 годзе гэта была невялічкая брашурка старонках на 70, то ў апошнія гады Агляды заўсёды peравальваюць за 200 старонак дробнага шрыфту і з'яўляюцца дастаткова ўнікальнымі, таму што ніхто з праваабарончых арганізацый больш такога не робіць. Па нашых Аглядах, па тых яго 13 выданнях, якія выйшлі за гэтыя гады, можна ацаніць і зразумець увесь драматызм той сітуацыі, якую перажывае Беларусь, пачынаючы з прыходу да ўлады Лукашэнкі. Бачна, як ідзе адчайнае змаганне грамадскіх актывістаў, дэмакратычных палітычных партый, проста неабыякавых людзей з таталітарным рэжымам за свабоду і дэмакратыю. Вал масавых рэпрэсіяў, адлюстраваны на старонках нашых Аглядаў, паказвае, наколькі цяперашняе кіраўніцтва дзяржавы баіцца згубіць уладу і наколькі яно баіцца актыўных людзей. Дзеля гэтага ўлады гатовы ўжываць любыя сродкі. Хаця, як мне падаецца, гэта вельмі неперспектыўны і нават небяспечны шлях...

Мы выдаем таксама розныя іншыя кніжкі: пра лёсы зняволеных, навучальныя дапаможнікі, праваабарончыя тэматычныя выданні і дакументы, якія з'яўляюцца актуальнымі сёння для беларускіх грамадзян.

**— Я ведаю кнігі, выдадзеныя «Вясной», якія датычыліся не толькі непасрэдна правоў чалавека, але і значных для грамадства падзей. Скажам, пра трагедыю на Нямізе...**

— Так, выданне было падрыхтавана нашымі супрацоўніцамі Палінай Сцепаненка і Таццянай Рэвяка. Кніга прысвечана

трагедыі, якая так і не была, па сутнасці, расследавана да канца, а вінаватыя так і не былі пакараны — па прамым указанні Лукашэнкі справа фактычна была спушчана на тармазах. Мы паспрабавалі паглядзець на тое, што здарылася, з боку чалавечай трагедыі, нечаканай трагедыі, і ў гэтай кніжцы сабраны інтэрв'ю як пра саму падзею, так і інтэрв'ю сваякоў загінулых і тых, хто непасрэдна там пацярпеў.

**— Цікавая і важная была праца. І нялёгкая... Хацела яшчэ задаць асабістае пытанне. Вы нарадзіліся па-за межамі Беларусі, потым доўга жылі на Гомельшчыне, пабачылі не толькі Беларусь у сваім жыцці. Ваша праваабарончая праца базуецца на агульначалавечых каштоўнасцях, пры гэтым вакол вас людзі, якія размаўляюць па-беларуску, што даволі рэдкая з'ява ў нашай краіне. Што тут усё-ткі прэвалюе: беларускае альбо агульначалавечае? Для ўлады праваабаронцы, якія размаўляюць па-беларуску — гэта адназначна «ворагі», апазіцыя.**

— Для нашай улады праваабаронца, які размаўляе і па-руску, таксама з'яўляецца апазіцыяй. Тут, трэба сказаць, розніцы вялікай не робіцца. Я ж сваю грамадскую дзейнасць пачаў яшчэ ў часы Савецкага Саюза, калі мы стваралі так званыя нефармальныя аб'яднанні студэнцкай моладзі. Я маю на ўвазе першую і другую палову 80-х. У незалежніцкім падпольным руху я з 82-га года, фактычна з 20 гадоў. Калі праглядаеш нашы праграмныя дакументы, то бачна, што ставілася задача — дабіцца дэмакратычнай незалежнай Беларусі, у якой бы паважаліся правы чалавека. Для мяне вельмі важным ужо тады было разуменне: не можа быць Беларусі без дэмакратыі і не можа быць правоў чалавека без незалежнай Беларусі. Гэта для нас моцна звязана гістарычна, таму што на працягу апошніх некалькіх сотняў гадоў любыя папярэднія ўлады мэтанакіравана знішчалі беларусаў як народ, знішчалі беларускую культуру. У нас былі рэдкія перыяды развіцця, і ўвогуле, усё, што звязана з беларушчынай, развівалася вельмі няпроста і ў складаных умовах. Інтэлігенцыя спалячвалася, зрусіфікоўвалася. Мы зараз бачым, што працэс

русіфікацыі працягваецца і сённяшнімі ўладамі як спадчыннікамі былога савецкага рэжыму, які таксама прыгнятаў усё беларускае. Таму для нас прынцыпова важна падтрымліваць беларускую мову і культуру. Гэтым самым мы таксама выказваем свой праваабарончы погляд на права беларусаў мець і развіваць сваю культуру і сваю мову, бо тут у нас сітуацыя катастрафічная. Нават датычна толькі нашай працы гэта відавочна: на сённяшні дзень на беларускую мову не перакладзены ніводзін кодэкс... Гэтых дакументаў, на якіх базуецца судовая вытворчасць, судовае справаводства — іх проста няма! І гэта пазіцыя дзяржавы, якая толькі дэкларуе афіцыйна дзвюхмоўнасць і дзяржаўнасць беларускай мовы. Дадзеная сітуацыя паказвае грэблівыя адносіны цяперашніх уладаў да беларускай мовы, з чым я абсалютна не згодны.

Маё жыццё непарыўна звязана з беларускай мовай, хаця вучыў я яе пасля рускай школы, ва ўніверсітэце, але тым не менш загаварыў у 20 год і вось ужо амаль 30 год паслядоўна стараюся гаварыць па-беларуску. Фактычна гэта не проста мова, гэта мая грамадзянская пазіцыя, гэта мой погляд на працэсы, звязаныя са

Алесь Бяляцкі ў войску пад Свярдлоўскам. 1984 год.



знішчэннем беларускай мовы і культуры ў Беларусі. Мая жонка і сын гавораць па-беларуску, гэта мова нашай сям'і.

Да таго ж гэта мова і маёй прафесіі: я пачынаў сваю працу ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, а як літаратурны крытык маю літаратурныя, крытычныя артыкулы, эсэ даследчага плана. Я з'яўляюся сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і ПЭН-цэнтра, але, на жаль, не маю дастаткова часу, каб займацца асабістай творчасцю... Быў у свой час старшынёй таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», сябры якога з'яўляюцца зараз ядром беларускай літаратуры. Дарэчы, у гэтым годзе будзем святкаваць 25-годдзе з дня ўтварэння «Тутэйшых», якраз у снежні 1986 года мы запачаткавалі гэту арганізацыю.

**— Скажыце, калі ласка, ці лёгка знаходзіць аднадумцаў, не толькі ў плане мовы, вядома, але і ў плане разумення важнасці правоў чалавека?**

— Стварэнне «Вясны» было нашым адказам на той выклік, які паставіў перад намі час. Мы гэты выклік прынялі. У нас ёсць яшчэ некалькі актыўных праваабарончых арганізацый — сама сітуацыя падштурхнула неабыякавых людзей да стварэння такіх аб'яднанняў альбо супрацоўніцтва з імі.

Трэба адзначыць, што першая праваабарончая арганізацыя ўзнікла ў Беларусі ў 1988 годзе — «Мартыралог Беларусі», якая займалася рэпрэсіямі 30-50-х гадоў і тэмай дэкамунізацыі. Я ўдзельнічаў у працы «Мартыралогу», і мы спрабавалі расплюшчыць вочы людзям, каб яны пабачылі, што на самай справе ўяўляе з сябе савецкі камуністычны рэжым, якія злачынствы ўчынены ім і якія былі ахвяры. На жаль, не да канца паспелі гэта зрабіць, але ў любым выпадку — імкнуліся да гэтага.

Моцны пераслед грамадзянскай супольнасці значна абмяжоўвае рост гэтай самай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Гэта датычыцца і праваабарончых арганізацый. Шмат хто з людзей асцерагаецца адкрыта супрацоўнічаць з намі, але ў той жа час нямала актывістаў, якія працуюць ужо не адзін год — у нас сітуацыя не самая горшая. За гэты час і юрысты, і грамадскія

абаронцы, якія не маюць юрыдычнай адукацыі (як я, напрыклад) дасягнулі ўжо дастаткова высокага ўзроўню прафесіяналізму. Мы ўжо ведаем, як вырашаць тыя праблемы, якія паўстаюць перад намі, і яшчэ лепш разумеем, што трэба для таго, каб змяніць сітуацыю з тым, каб прынцыпы павагі да правоў чалавека ляглі ў аснову грамадскага жыцця і грамадскага ўладкавання ў Беларусі, што вельмі важна на перспектыву.

**— А што для гэтага трэба?**

— Патрэбны комплексныя змены — і ў дзяржаўным ладзе, і ва ўзаемаадносінах дзяржавы з людзьмі ў Беларусі. У нас ёсць добрыя прыклады краінаў, якія перайшлі ад таталітарнага ладу да дэмакратычнага — гэта нашы суседзі Літва і Польшча, Славакія і Чэхія, у пераходным перыядзе знаходзяцца Балканскія краіны. Еўрапейскі Звяз, напрыклад, распрацаваў дастаткова высокія стандарты, каб павага да правоў чалавека ўвайшла ў юрыдычную базу, ва ўсе існуючыя законы — нам таксама трэба імкнуцца да гэтага. Тут не трэба нечага выдумляць, а варта карыстацца добрым вопытам: як пераходзіць з цяжкай сітуацыі ў лепшую, як гэта развіваць надалей.

На сённяшні дзень мы вымушаны даганяць еўрапейскія краіны. Пры гэтым, займаючыся гісторыяй праваабарончага руху ў Беларусі, я дакладна ведаю: былі такія часы ў канцы 18 стагоддзя, калі наша краіна ішла ледзь не наперадзе ўсёй Еўропы па пашане, павазе, разуменні значэння правоў чалавека і па ўкараненні гэтых правоў у рэальнае жыццё. Фактычна мы ішлі за Францыяй след у след. Але на той час Францыя была гэткім бастыёнам дэмакратызму, распаўсюду дэмакратычных ідэяў па ўсім свеце. А Беларусь, якая ўваходзіла тады ў Рэч Паспалітую і была цэнтральнай часткай, сэрцам Вялікага Княства Літоўскага, з'яўлялася адной з перадавых краін. Страта нашай незалежнасці была паказальнікам барацьбы абсалютысцкіх манархій, якія задушылі Рэч Паспалітую менавіта з той прычыны, што баяліся распаўсюду дэмакратычных ідэяў на свае краіны. Але гэта было даўно, зараз сітуацыя іншая, не безнадзейная.

Я вельмі аптымістычна гляджу наперад і думаю, што штодзённая няпростая праца беларускіх праваабаронцаў будзе значным унёскам у змяненне сітуацыі ў Беларусі — можа быць, і ў самы бліжэйшы час.

**— Ці сустракаюцца сярод беларускіх дзяржслужачых людзі, якія разумеюць важнасць правоў чалавека?**

— Сустракаюцца, але баяцца асабліва выказваць свой пункт погляду на гэты конт. Такое разуменне залежыць шмат ад чаго. Напрыклад, ад таго, ці быў чалавек за мяжой і можа параўнаць узровень свабоды ў іншых краінах і Беларусі. Залежыць ад таго, ці мае чалавек вышэйшую адукацыю, малады ці стары, гэта значыць: вучыўся ён у савецкай школе яшчэ па савецкіх канонах ці ў больш дэмакратычнай беларускай школе 90-х. Цэлы комплекс складальнікаў фармуе пазіцыю чалавека па тым ці іншым пытанні. Хаця выпадкі бываюць вельмі розныя. Ёсць людзі, якія чыста інтуітыўна арыентуюцца на павагу да правоў чалавека, не маючы ніякай адукацыі. А бываюць вельмі адукаваныя людзі, якія свядома топчуць гэтыя правы з матэрыяльных ці кар'ерысцкіх прычын, займаюць разбуральную, варожую пазіцыю. Але я б адзначыў, што не толькі сярод палітычна актыўнай праслойкі, але ўвогуле ў грамадстве сітуацыя змянілася: людзі больш разумеюць, што такое правы чалавека і з большай павагай да іх ставяцца. Правы чалавека паступова становяцца адной з жыццёвых каштоўнасцяў, якую б яны хацелі мець, бо кожны хоча жыць бяспечна, кожны хоча, каб суд судзіў справядліва. Ніхто не выступае за кепскія ўмовы ўтрымання ў турмах, бо ўсе ведаюць, што жыццё скаладаецца па-рознаму: ніхто не хацеў бы, каб месцы зняволення нагадвалі канцлагеры. Так што, нягледзячы на супраціў беларускіх уладаў, настрой людзей, сама структура беларускага грамадства змяняецца ў лепшы бок.

**Гутарыла Таццяна Снітко**



З вядомай расійскай дысідэнткай і праваабаронцай Людмілай Аляксеевай. Валянцін Стэфановіч — справа, Сяргей Мацкевіч — злева. Чэрвень 2011 года.

# Галоўнае — зразумець філасофію правоў чалавека

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ,** Мінск

# Валянцін СТЭФАНОВІЧ

Валянцін Стэфановіч нарадзіўся ў Мінску ў 1972 годзе, скончыў сярэднюю школу №11. Пасля службы ў войску з чырвоным дыпломам скончыў юрыдычны факультэт Міжнароднага інстытута працоўных і сацыяльных адносін, працаваў юрыстам на Мінскім падшыпнікавым заводзе. З 1998 года — юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна», намеснік старшыні арганізацыі. Жанаты, мае двое дзяцей.



На працоўным месцы. Валянцін Стэфановіч — юрыст Мінскага падшыпнікавага завода. 1998 год.

**— Спадар Валянцін, якія моманты Вам найбольш памятныя на шляху ад моладзевага актывіста да аўтарытэтнага праваабаронцы, да слоў якога прыслухоўваюцца не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі?**

— Памятаю, як у канцы 1992 года я вярнуўся з войска — сыходзіў служыць з адной краіны, а вярнуўся ў зусім іншую: на Доме ўраду лунаў бел-чырвона-белы сцяг, была Пагоня, не было ні камуністаў, ні камсамольцаў. Гэта быў цяжкі час, але з іншага боку — менавіта ў тыя гады я ўпершыню адчуў, што тваё жыццё і твой лёс залежаць толькі ад цябе, ніхто табе не ўказвае як і што рабіць. На той глыток свабоды цяжка забыцца і зараз.

І вось у 1996 годзе, калі я вучыўся на юрыдычным факультэце Міжнароднага інстытута працоўных і сацыяльных адносін, пачаліся масавыя акцыі супраць палітыкі Лукашэнкі. Незадаволенасць тым, што рабіў малады, нядаўна абраны прэзідэнт, вывела мяне, як і тысячы-тысячы беларусаў, на вуліцу. Я прымаў удзел фактычна ва ўсіх акцыях пратэсту, пачынаючы з 15 сакавіка, Дня канстытуцыі, затым — 25 сакавіка. Памятаю тыя шматтысячныя мітынгі і калоны людзей, якія годна ішлі па



З Алесем Бяляцкім.
1998 год.

праспекце, шмат студэнтаў і моладзі. Затым было 30 траўня, калі надзвычай жорстка была разагнана мінская моладзь.

Менавіта на гэтай хвалі пачалося ўтварэнне «Маладога Фронту», у дзейнасці якога я прымаў актыўны ўдзел. На той момант так называлася моладзевае крыло Партыі БНФ. Тады адбылося маё знаёмства з многімі актывістамі,у тым ліку — Паўлам Севярынцам, Віталём Рымашэўскім.

А ўвосень 96-га пачаліся новыя падзеі. Быў праведзены канстытуцыйны рэферэндум, адбыўся фактычна дзяржаўны пераварот: брутальны разгон законна абранага парламента і ўжо не абранне, а прызначэнне новага, «кішэннага». Тады ж быў спынены ўдзел Беларусі ў Радзе Еўропы. На жаль, грамадства аказалася негатовым супрацьстаяць гэтаму, людзі не знайшлі сілаў для рашучых дзеянняў і супраціву. Менавіта тады

фактычна выбудавалася аснова таго аўтарытарнага рэжыму, які мы маем сёння.

У той час я ўпершыню сутыкнуўся з Алесем Бяляцкім, пра якога раней толькі даводзілася чуць.

Затым быў 98-год, які мне даўся вельмі цяжка. Па-першае, шмат высілкаў вымагала вучоба на старэйшых курсах, паколькі я быў выдатнікам і скончыў, дарэчы, ВНУ з чырвоным дыпломам. У той год адбыўся канфлікт з кіраўніком «Маладога Фронту» Паўлам Севярынцам (на той час я быў намеснікам старшыні гэтай арганізацыі). З-за фізічнага і псіхалагічнага надлому я нават патрапіў у лякарню, і калі ўсё гэта неяк супакоілася, адназначна вырашыў не займацца больш ні грамадскай дзейнасцю, ні палітыкай. Якраз тады я атрымаў дыплом, мне прапанавалі працу юрыста на Мінскім падшыпнікавым заводзе. Вырашыў: буду жыць як усе звычайныя людзі, хадзіць на працу, атрымліваць заробак і не дурыць сабе галаву.

**— Дык адкуль тады ў Вашым жыцці ўзнікла «Вясна»?**

— Спакойны рытм, як гэта ні дзіўна гучыць, цягнуўся для мяне нядоўга. Я пасябраваў з актывістамі «Задзіночання беларускіх студэнтаў», іншымі цікавымі хлопцамі, з якімі ўсур'ёз намагаліся стварыць культурніцкую арганізацыю пад назвай «Будзіна», якая б займалася рознымі праектамі, выставамі і г.д. На той час без беларускамоўнага свядомага асяроддзя я проста сябе не

З Алесем Бяляцкім у Гаване падчас праваабарончай місіі на Кубе. 2008 год.





Кангрэс FIDH, на якім Праваабарончы цэнтр «Вясна» быў прыняты сябрам Федэрацыі.
Эквадор, Кіта, сакавік 2004 года.

ўяўляў. І тут раптам я атрымаў зусім нечаканую прапанову ад Алеся Бяляцкага — далучыцца да праваабарончай арганізацыі «Вясна-96». На той момант яна была зарэгістравана як гарадское грамадскае аб'яднанне.

Гэтую прапанову я ўспрыняў досыць насцярожана: я не ведаў, чым займаецца арганізацыя, хаця чуў, праўда, што яны збіраюць звесткі пра рэпрэсіі. Аднак Бяляцкі быў настойлівы і тлумачыў, што паколькі я юрыст, то павінен дапамагаць людзям, і што такая праца сёння патрэбная ўсім, а найперш тым, хто патрапіў пад рэпрэсіі. Урэшце я зрабіў свой нялёгкі выбар, парваўшы пры гэтым са звыклым спакойным жыццём. Такім чынам, напрыканцы 1998 года я патрапіў у «Вясну». Але, прызнаюся шчыра, разуменне філасофіі правоў чалавека, іх сутнасці, прынцыпу ўніверсальнасці, прыйшло значна пазней. Вялікую ролю ў гэтым адыграла Польская Хельсінская фундацыя і асабіста

Марэк Навіцкі, калі я навучаўся на некалькіх арганізаваных імі праваабарончых школах — гэта зрабіла на мяне моцнае ўражанне.

Адразу ж я заняўся падрыхтоўкай дакументаў на рэгістрацыю Праваабарончага цэнтра «Вясна» як рэспубліканскага аб'яднання. Працэдура гэтая была няпростая, бо па часе гэта супала з перарэгістрацыяй усіх грамадскіх аб'яднанняў, да таго ж з'явіўся негалосны мараторый на рэгістрацыю новых арганізацый. І нашыя дакументы праляжалі ў Мінюсце, ну як дзіця ў чэраве маці — 9 месяцаў: толькі летам 1999 года мы атрымалі пасведчанне аб рэгістрацыі.

**— На сёння Вы адзін з аўтарытэтных праваабаронцаў у Беларусі. Ці накладвае статус публічнай асобы нейкія павышаныя абавязкі, абмежаванні ва ўчынках, у прыватным жыцці?**

Суд Слуцкага раёна. Валянцін Стэфановіч — грамадскі абаронца па адміністрацыйнай справе аб несанкцыянаваным сходзе сяброў КХБ-БНФ. 1999 год.






Кампанія супраць смяротнага пакарання. Злева-направа: Алег Гулак, Sting, Валянцін Стэфановіч. Кастрычнік 2010 года.

— Безумоўна. Я заўсёды быў прыхільнікам таго, каб «Вясна» была наймацнейшай арганізацыяй, своечасова рэагавала на ўсе выклікі, была на вастрыі ўсіх падзеяў. А гэта, зразумела, не застаецца па-за ўвагай адпаведнах органаў. Таму заўсёды адчуваецца моцны прэсінг: затрыманні, асаблівы рэжым пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы, бясконцыя фінансавыя праверкі мяне і маёй сям'і, брудныя дыфамацыі ў дзяржаўных СМІ. Вось гэта, скажам так, не дазваляе расслабляцца. А з іншага боку адчуваецца вялікая адказнасць за тое, што мы робім.

**— Гэты прэсінг ды яшчэ штодзённы негатыў, звязаны з праваабарончай працай, з людскімі праблемамі, ці аказвае на Вас нейкі ўплыў, ці не чарсцвее душа ад гэтага?**

— Я ўвесь час больш за ўсё баяўся не прэсінгу, а менавіта таго, каб не зрабіцца абыякавым, бо для мяне гэта самае горшае — стаць тоўстаскурым. Магчыма, часам знешне выглядае, што праваабаронцы на многія праявы пераследу рэагуюць спакойна, ды і плакаць па кожным выпадку слёз не хопіць, аднак мы спрабуем рэагаваць хутка, як лекары, каб найхутчэй мінімізаваць кепскія наступствы для людзей, якія б складаныя выпадкі там ні былі. Але ад гэтага я чэрствым пакуль не зрабіўся. Я неаднойчы

Акцыя ў падртымку палітвязня Зміцера Дашкевіча. Жураўлікі ад «Міжнароднай Амністыі». Злева-направа: Валянцін Стэфановіч, Сяргей Сыс, Алесь Бяляцкі. Снежань 2007 года.





На прэс-канферэнцыі з Алесем Бяляцкім па выніках назірання за прэзідэнцкімі выбарамі. 20 снежня 2010 года.

думаў аб тым, што самае цяжкае падчас працы ў «Вясне», і прыйшоў да высновы, што гэта — стасункі з маці. Найцяжэй размаўляць з маці, калі іх дзеці трапляюць у бяду. Вельмі моцна эмацыйна і псіхалагічна мяне «прыбіла» сітуацыя з маці расстралянага Андрэя Жука. Тут і слоў не хопіць, каб апісаць такі стрэс. Цяжка размаўляць, калі маці ведае, што яе сына заб'юць, і ў той жа час чакае нейкіх слоў надзеі, чакае цуду, якога ты зрабіць не ў сілах. І абнадзеіць яе не можаш. Аднак ты не мусіш гэтага казаць, ты мусіш супакоіць чалавека.

**— Каб стаць праваабаронцам, як кажуць па-прызванні, што найперш патрэбна?**

— Галоўнае — зразумець філасофію правоў чалавека. Можна быць таленавітым юрыстам, але не стаць праваабаронцам. Асноўны з прынцыпаў, якім мы мусім кіравацца — гэта прынцып універсальнасці правоў чалавека. Мы не можам рабіць градацыі,

дыферэнцыяцыі: вось гэтым мы будзем займацца, а гэтым — не, таму што нашу думку, скажам, сёння не падзяляе большасць грамадства. Як, напрыклад, са смяротным пакараннем. Аднойчы мая знаёмая, калі я нешта ёй распавядаў аб тым, што часам непаразуменне з праваабаронцамі ўзнікае не толькі з боку ўлады, але і з боку нейкіх рухаў ці апазіцыйных груп, сказала: «Дык гэта і ёсць знак якасці, калі ты не падабаешся ні грамадству, ні ўладам. Гэта адзнака сапраўднага праваабаронцы».

Складана ўспрымаюцца таксама праблемы з асацыяльнымі элементамі, якіх грамадства адвяргае. Аднойчы на БТ пра мяне так і сказалі: калі я клапачуся пра праблемы алкаголікаў, дык мне гэта самому баліць. Але я сапраўды лічу, што практыка выкарыстання тых жа лячэбна-працоўных прафілакторыяў (ЛТП), дзе ўтрымліваюць алкаголікаў, супярэчыць Канстытуцыі і парушае правы чалавека — гэта незаконная ізаляцыя грамадзян па-за крымінальным пераследам. Калісьці, у трыццатыя гады мінулага стагоддзя, адзін таварыш, якім захапляўся наш прэзідэнт, хацеў вырашыць гэтыя пытанні больш радыкальна — проста знішчыць іх фізічна. Ды і за Саветамі таксама не цырымоніліся: высялялі кудысьці за 101 кіламетр, каб іх не было ў гарадах. Няма алкаголікаў — няма праблемы. Такіх праблемных тэм шмат.

**— На Вашу думку, калі адбудуцца змены тут, у Беларусі, ці зменіцца стаўленне грамадства і дзяржавы да праваабаронцаў?**

— Я б не казаў адназначна, што грамадства негатыўна ставіцца да праваабаронцаў — людзі проста могуць і не задумвацца пра сутнасць правоў чалавека, але ў нашай краіне, ведаеце, ніводзін чалавек не застрахаваны ад таго, што яго можа затрымаць міліцыя, адкалашмаціць пры гэтым, зламаць рабрыну, і з такімі праявамі змагацца вельмі цяжка. Альбо ўзяць праблему ўмоваў утрымання ў турмах, якая закранае досыць значную частку нашага грамадства.

Што датычыцца зменаў, то я лічу — без працы мы не застанемся, паколькі правы чалавека парушаюцца ў любых

краінах. Розніца толькі ў тым, наколькі будуць працаваць механізмы аднаўлення парушаных правоў — як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўнях, якая на тое будзе палітычная воля дзяржавы.

Думаю, што пасля змены рэжыму у нас будзе яшчэ больш працы, але працаваць давядзецца на іншым узроўні — з дзяржавай як з партнёрам. Свае высілкі мы пачнем скіроўваць на трансфармацыю існуючых прававых і іншых сістэм: гэта і пенітэцыярная сістэма, і рэформа судоў, і рэформа адвакатуры. У нас назапашаны шматлікія напрацоўкі, наш вопыт можна будзе паспяхова выкарыстоўваць. А яшчэ важна стварыць механізм грамадскага кантролю над дзейнасцю сілавых структур, каб праваабаронцы маглі ўваходзіць у адмысловыя рады. Заўсёды ж ёсць канфлікт нейкіх інтарэсаў: грамадскіх, дзяржаўных — таму без працы не застанемся. Праваабаронцы не проста крытыкуюць уладу, добрую альбо дрэнную, — яны бароняць людзей.

**— Які ён, Праваабарончы цэнтр «Вясна», праз 15 гадоў сваёй дзейнасці?**

— «Вясна» сёння — цалкам запатрабаваная ў грамадстве арганізацыя, і гэта пацвярджаецца вялізным аб'ёмам нашай працы, якая часам фактычна займае 24 гадзіны ў суткі. Гэта часам стварае праблемы ў сям'і, якой ты, здараецца, і не належыш. Праўда, мне пашанцавала з бацькамі, якія мяне ні ў чым ніколі не абмяжоўвалі і не асуджалі.

«Вясна» ў будучым бачыцца мне ўплывовай арганізацыяй з якасна іншай, свабоднай арганізацыяй працы, з добрым зручным памяшканнем, з новымі накірункамі дзейнасці і ўласнымі адукацыйнымі праграмамі, паколькі распаўсюд ідэяў правоў чалавека — надзвычай важны накірунак.

**— Ствараецца ўражанне, што праваабарончая праца забірае ў Вас увесь час і не застаецца нічога для прыватнага жыцця, нейкіх захапленняў...**

— Гэта не так. Безумоўна, ёсць магчымасць акрамя Выбарчага кодэкса ці нейкай юрыдычнай літаратуры і мастацкую кніжку прачытаць. Вельмі люблю музыку, маю добрую калекцыю дыскаў. Знаходзіцца час пабыць разам з дзецьмі, падзяліць іх радасці, навучыць нечаму карыснаму.

**Гутарыў Сяржук Сыс**




У музеі рэпрэсаваных народаў з чачэнскімі студэнтамі. Інгушэція. 2007 год.

# Разам мы маглі рабіць нешта карыснае

**Таццяна РЭВЯКА, Мінск**

# Таццяна РЭВЯКА

Таццяна Рэвяка нарадзілася ў 1968 годзе ў Салігорску. У 1990 годзе скончыла філалалічны факультэт (беларуская і руская мова і літаратура) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала навуковым супрацоўнікам і загадчыкам аддзела ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (1991-1998 гг.), адкуль сышла ў Праваабарончы цэнтр «Вясна».

У 2006 годзе ўзнагароджана прэміяй імя Анны Лінд (Швецыя). Увесну 2010 года як прадстаўнік «Вясны» абрана прэзідэнтам Беларускага дома правоў чалавека ў выгнанні (Вільня).

**— Таццяна, што прыводзіць чалавека, скіроўвае яго жыццёвы шлях да таго, што ён абараняе правы іншых, на што, мне падаецца, здольны не кожны?**

— Я не магу сказаць, што перада мной стаяў нейкі цяжкі выбар, зрабіўшы які, я пайшла працаваць у праваабарончую арганізацыю. Так склаліся жыццёвыя абставіны, і, відаць, яны былі звязаны, хутчэй, з людзьмі, з якімі я сябравала і працавала. Пасля ўніверсітэта і дэкрэтнага адпачынку ў 1991 годзе я пачала працаваць навуковым супрацоўнікам у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, дырэктарам якога тады быў Алесь Бяляцкі. Апынулася я там не выпадкова, а па рэкамендацыі маіх сябровак-аднагрупніц, найперш Паліны Качатковай (зараз Сцепаненка), якая даўно сябравала з Алесем і пачала працаваць у музеі яшчэ ў студэнцкія гады. Цікавы быў час, мы шмат што паспелі зрабіць: выданне архіўных матэрыялаў і рукапісаў, экскурсіі, творчыя вечарыны, збор экспанатаў для філіі музея ў Ракуцёўшчыне ў этнаграфічнай экспедыцыі, новыя экспазіцыі... Усё гэта адбывалася на фоне вялікіх пераменаў, якія перажывала наша краіна. І мы адчувалі сябе спрычыненаымі да гэтах працэсаў: у нашым музеі пэўны час знаходзіліся рэдакцыі «Нашай Нівы» і «Свабоды», можна было пабачыць Мікалая Статкевіча з сябрамі з БЗВ (Беларускага згуртавання вайскоўцаў — **рэд.**) і шмат якіх цікавых людзей — можна сказаць, што музей прадстаўляў для іх «тэрыторыю».

Але сітуацыя ў краіне мянялася, і мы гэта добра адчувалі — час аптымізму пачатку 90-х сыходзіў. Добра памятаю Чарнобыльскі шлях 1996 года. Мы пайшлі з сябрамі, я была з шасцігадовай дачкой. Калі пабачылі вялікую колькасць мітынгоўцаў і агрэсіўна-рашучы настрой міліцыі, палічылі за лепшае сысці ў музей, каб там чакаць навінаў. Калі пачалі атрымліваць звесткі, што многія з дэманстрантаў збітыя, затрыманыя, іх будуць судзіць — мы разумелі, што адбылося тое, чаго раней не было — людзей за выказванне свайго меркавання пачалі арыштоўваць. Гэта быў пераломны момант.

Потым былі скрыні з прадуктамі на калідорах музея ў адміністрацыйнай частцы, якія прыносілі і прывозілі людзі для



Дзень памяці Максіма Багдановіча. Май, 1996 год.

перадачы родным арыштаваных. На нашых вачах змянілася рэчаіснасць.

Пасля гэтых падзеяў яшчэ два гады мы працавалі ў музеі, але разумелі, што доўга так не можа працягвацца. У 1998 годзе перад Алесем Бяляцкім фактычна быў пастаўлены выбар: або звальненне, або добраахвотны сыход — ён выбраў апошняе, і са жніўня спыніў сваё дырэктарства. Тады ж разам з Алесем сышла Паліна, а я яшчэ на пару месяцаў затрымалася, каб потым далучыцца да іх.

Шчыра сказаць, што я аднойчы вырашыла, што буду праваабаронцам, пачну абараняць правы чалавека — то такога не было. Гэта быў хутчэй выбар на карысць людзей, якіх я любіла, якім давярала і з якімі я хацела далей працаваць і рабіць нешта карыснае. Гэта таксама было непрыманне той сітуацыі, якая пачала складацца ў краіне, і нежаданне прыстасоўвацца пад гэтую сітуацыю.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» нефармальна працаваў з таго памятнага Чарнобыльскага шляху, дапамагаючы людзям, якія апынуліся ў складанай сітуацыі ў сувязі з палітычным пераследам. Дарэчы, называлася наша арганізацыя першапачаткова «Вясна-96» — як фіксацыя «моманту адліку». Запатрабаванасць працы «вясноўцаў» узрастала у той жа прагрэсіі, у якой узрасталі рэпрэсіі, і з'явілася неабходнасць большай прафесіяналізацыі.

**— Праваабаронца — гэта цяжкая праца?**

— Па-рознаму бывае. Бывае, вельмі шмат псіхалагічнай энергіі адбірае. Відаць, за ўсе гады самым вялікім выпрабаваннем была праца з роднымі ахвяраў Нямігі. Я была, напэўна, яшчэ псіхалагічна не гатова да таго, каб так блізка ўспрымаць шмат чалавечага болю і гора. Гэта было ў 1999-м годзе, калі мы з Палінай пісалі кніжку пра гэтыя падзеі і сустракаліся з бацькамі, роднымі і сябрамі загінуўшых.

Выпрабаваннем становяцца кожны раз выбарчыя кампаніі і вялікія грамадска-палітычныя акцыі, калі шмат людзей

Разам з роднымі загінулых падчас трагедыі на Нямізе. 2000 год.





Сустрэча
з дзяржсакратаром ЗША
Хілары Клінтан.
2011 год.

затрыманых, збітых. Канечне, у такія часы бывае цяжка. І найперш, відаць, ад таго, што часта ты можаш проста паспачуваць, параіць зрабіць нейкія захады, каб зменшыць напружанасць, але ў прынцыпе ты разумееш, што не вельмі ўплываеш на гэтую сітуацыю. Гэта вось самае цяжкае. Часам нават бывае нейкая прастрацыя ад разумення таго, што твае магчымасці вельмі абмежаваны...

**— Але ж бывалі і сітуацыі, калі Вы адчувалі маральнае задавальненне ад дасягнутага? Нездарма ж Вам далі ўзнагароду — пра гэта падрабязней, калі ласка!**

— Сапраўды, у 2006 годзе я была ўзнагароджана міжнароднай прэміяй імя Анны Лінд, якая ўручаецца аднайменным шведскім фондам. Чаму менавіта я была абрана для ўзнагароды — не ведаю, таму што мая дзейнасць — такая ж, як і дзейнасць усіх маіх калег. Я лічу, што гэта ацэнка працы ўсіх «вясноўцаў» і ўсяго беларускага праваабарончага руху. Казаць, што ў мяне тут нейкія асаблівыя заслугі — гэта было б няправільна, я так не думаю.

Што датычыць задавальнення ад вынікаў працы, то найбольш я адчуваю аддачу ад працы з моладдзю і студэнтамі. Мы ўжо

шосты год зараз будзем праводзіць летнія школы па правах чалавека — гэта даволі вялікая дзевяцідзённая навучальная праграма, і кожнае лета такіх школ мы праводзім ад чатырох да шасці. Канечне, варта адразу адзначыць, што гэта пачатковы курс, які дае магчымасць зразумець, наколькі для чалавека цікавая і карысная гэта тэма, наколькі набытыя веды могуць быць прыменены ў далейшым жыцці — прафесійным, грамадскім або палітычным. Калі ў людзей фармуецца выразная зацікаўленасць — мы далей працягваем працаваць з імі ў розных формах.

Моладзь — вельмі ўдзячная аўдыторыя, якая здольная ўспрымаць тое, пра што мы гаворым, тое, чаму мы вучым. Падчас такой працы ёсць адчуванне, што дапамагаеш маладым людзям зразумець сваю ролю, сваю каштоўнасць, каштоўнасць кожнай асобы і ролю дзяржавы ў іх жыцці. Мне здаецца, што зараз праца з людзьмі — і выхаваўчая, і адукацыйная — відаць, найбольш удзячная.

Беслан. Школа, у якой утрымліваліся закладнікі. 2007 год.



**— Што гэта за моладзь, хто вашы навучэнцы?**

— Наша аўдыторыя — моладзь ад 18 да 25 гадоў з усёй Беларусі: гэта студэнты або выпускнікі ВНУ, бо праграма даволі складаная і насычаная, засвоіць яе магчыма, калі маеш дастатковую падрыхтоўку. Мы працуем з тымі, для каго набытыя веды карысныя не толькі з пункту гледжання звычайнага чалавека (кожнаму чалавеку карысна ведаць свае правы), але і з пункту гледжання іх будучай працы, таму што сёння яны студэнты, а заўтра скончаць універсітэты, стануць пракурорамі, суддзямі, настаўнікамі, лекарамі — будуць увасабляць сабою тое, што называецца дзяржавай. Мы фактычна імкнемся (хаця магчымасці, будзем казаць шчыра, у нас і абмежаваныя) уплываць на выхаванне новага аблічча дзяржавы — з разуменнем ролі і значэння правоў чалавека. Гэта таксама ўкладанне ў тое, каб дзяржава мянялася, станавілася больш чалавечнай.

Таццяна Рэвяка разам з дачкой каля Мірскага замка. Дзень музеяў. 1996 год.





Суд над Аляксандрам Казуліным. Т. Рэвяка не пускаюць у будынак суда. 2006 год.

Для тых навучэнцаў, якія займаюцца яшчэ і грамадскай або палітычнай дзейнасцю, набытыя веды і навыкі каштоўныя і з практычнага пункту гледжання, бо гэтыя людзі — група рызыкі, якая сутыкаецца з парушэннем іх правоў найчасцей. Веды іх нярэдка засцерагаюць ад брутальных парушэнняў, бо калі чалавек ведае свае правы, не так проста гэта ігнараваць.

**— Вы пабывалі ў многіх краінах за час сваёй працы: і як назіральнік на выбарах, і як выступоўца на розных канферэнцыях. Што найбольш запомнілася? Якія краіны пакінулі найбольшы след?**

— Я ў прынцыпе люблю падарожнічаць і знаёміцца з новымі краінамі. З тых, дзе я пабывала, найбольшыя ўражанні пакінулі на мяне краіны Цэнтральнай Азіі і Каўказа, хаця, напэўна, вы чакалі, што я назаву якую-небудзь цудоўную цывілізаваную і дэмакратычную еўрапейскую дзяржаву. Так, еўрапейскія краіны мне падабаюцца, яны камфортныя, зручныя для чалавека, але




Падчас назірання
за парламенцкімі выбарамі
ў Кыргызстане. 2005 год.

яны і больш зразумелыя, а запамінаюцца тыя, якія адрозніваюцца па культуры і ладу жыцця.

Вялікае ўражанне на мяне пакінуў Кыргызстан. Я там была ў двух місіях: па назіранні за парламенцкімі выбарамі ўвесну 2005 года і ў тым самым годзе — за прэзідэнцкімі, калі працавала як доўгатэрміновы назіральнік улетку. Гэта вельмі прыгожая краіна, незвычайная сваёй прыродай, культурай, рэлігіяй, выхаваннем людзей... Першы ж шок мяне чакаў, як толькі я пасля прылёту ўключыла тэлевізар і пачула самую распаўсюджаную сацыяльную рэкламу, сэнс якой зводзіўся да наступнага: дзяўчаты, калі вас выкраў малады чалавек, то гэта не значыць, што вы павінны выйсці за яго замуж — на яго можна напісаць заяву і пасадзіць за выкраданне... Далей — вытрымкі з Крымінальнага кодэкса. Аналагічная «асвета» гучала і для хлопцаў: калі што — можаце аказацца не шчаслівым жаніхом, а за кратамі... Гэта падштурхнула мяне глыбей даведацца пра мясцовыя жывучыя традыцыі, звязаныя з гэтымі далікатнымі праблемамі.

Таксама мне давялося вывучыць і некаторыя іншыя аспекты культурных і рэлігійных асаблівасцяў краіны, дзе я планавала

правесці даволі працяглы час. Не забудуся, як проста на вуліцы ў Джалалабадзе (гэта на поўдні Кыргызстана — там я правяла паўтары месяцы) да мяне падышоў мужчына ў традыцыйным ісламскім адзенні і спытаў: «Ваша рэлігія дазваляе вам з'яўляцца ў публічным месцы ў такім выглядзе?» Я проста сумелася, не ведаючы, што адказаць, бо, на мой погляд, я была апранута абсалютна прымальна: льняныя белыя штаны і майка без рукавоў — якраз так, каб вытрымаць заўсёдную гарачыню ў 40-50 градусаў. Адказала: «Так, дазваляе», але потым распыталася ў сваёй перакладчыцы, у чым быў сэнс пытання. Аказалася, што з адкрытымі рукамі і валасамі жанчыне з'яўляцца на вуліцы не зусім прыстойна — так да гэтага часу лічаць многія. Канечне, я не пабегла адразу набываць сабе паранджу (у Джалалабадзе, дарэчы, многія жанчыны ходзяць у іх), але некалькі прыгожых усходніх хустак папоўнілі мой гардэроб за час знаходжання ў Ферганскай даліне.

Шмат уражанняў пакінула ў мяне паездка ў Інгушэцію, дзе ў Назрані з Юркам Чавусавым мы праводзілі школу для чачэнскіх студэнтаў. Я ўпершыню сутыкнулася з тым, што па вуліцах могуць хадзіць людзі са зброяй у руках без апазнавальных знакаў, калі ты не ведаеш, ці гэта бандыты, ці — супрацоўнікі праваахоўных органаў, заўсёды знаходзішся ў стане ўнутранага напружання. Калі ў цябе ў пакоі ў гатэлі вісіць плакат з інструкцыяй: «Што рабіць, калі вас захапілі ў закладнікі?» — такія незвычайныя сітуацыі пакідаюць вялікі адбітак у душы.

**— У Вас дарослая дачка. Ці яна падтрымлівае маму? І ўвогуле, сям'я, сваякі як ставяцца да Вашай працы?**

— Мая сям'я мяне любіць, таму ўспрымае мяне з маёй дзейнасцю такой, якой я ёсць. Канечне, што датычыць бацькоў — я стараюся іх не хваляваць, шмат не распавядаю таго, што адбываецца і са мной, і з маімі сябрамі, і з маімі калегамі. Што датычыць дачкі, канечне, яна ведае шмат і пра маю працу, і пра тых людзей, з якімі я працую і сябрую. Яна ўсё разумее, але, відаць, выбера іншы шлях, бо я бачу, што ў сувязі з маёй

загружанасцю, занятасцю ёй заўсёды не хапала маёй увагі. Прынамсі, яна кажа, што будзе значна больш займацца сваёй сям'ёй і дзецьмі. Хаця многія моманты маёй працы праходзяць праз яе, і яна шмат што перажывае разам са мной...

**Гутарыла Таццяна Снітко**



У Вярхоўным судзе разам з Алесем Бяляцкім і Валянцінам Стэфановічам. Працэс па ліквідацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна». Кастрычнік 2003 года.

# У 2001-м я зрабіў адзін з найлепшых і правільных выбараў у сваім жыцці

**Уладзімір ЛАБКОВІЧ,** Мінск

# Уладзімір ЛАБКОВІЧ

Уладзімір Лабковіч нарадзіўся ў 1978 годзе. У актыўнай грамадскай дзейнасці з 1996-га года, калі разам з людзьмі, з якімі сябруе дагэтуль, стваралі «Малады Фронт». У 1997-м годзе ў «Маладым Фронце» ўваходзіў, а потым і ўзначальваў праваабарончую камісію, асноўнымі функцыямі якой былі збор інфармацыі і дапамога тым маладафронтаўцам, якія прыцгваліся да адміністрацыйнай ці крымінальнай адказнасці. З 1998-га года як валанцёр далучыўся да працы Праваабарончага цэнтра «Вясна». У 2000-м годзе скончыў юрыдычны факультэт недзяржаўнага Інстытута сучасных ведаў. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001-га года звязаў сваю працу з праваабаронай і з гэтага часу з гонарам лічыць сябе сябрам «Вясны».

**— Уладзь, чаму менавіта «Вясна»?**

— Вельмі простае пытанне. У першую чаргу таму, што на той момант, калі я рабіў свой выбар, гэта была арганізацыя аднадумцаў, арганізацыя, якая разглядала і разглядае правы чалавека менавіта як частку нацыянальных каштоўнасцяў, а гэта важна для дзяржавы. Потым, канечне, з'явілася і пачуццё сяброўства, якое я вельмі-вельмі цаню. І на той момант, і зараз «Вясна» — тая арганізацыя, у якой людзі гавораць пра адно, і гавораць на адной мове.

**— Ці памятаеце, якія праблемы былі найбольш актуальнымі ў беларускім грамадстве на момант Вашага прыходу ў «Вясну», і ці адбыліся нейкія змены на сённяшні дзень?**

— З вялікім шкадаваннем трэба сказаць, што праблемы, якія стаялі перад грамадствам у канцы 90-х — напачатку 2000-х гадоў, застаюцца і зараз. Калі я прыйшоў у арганізацыю і думаў, чым займуся, то лічыў важным у сваёй дзейнасці абарону палітычных правоў грамадзянаў. Гэта важна для мяне як чалавека, распачаўшага сваю дзейнасць у палітычнай арганізацыі. І зараз для мяне застаецца важнай абарона менавіта палітычных правоў. На жаль, як тады, так і зараз гэта ў аднолькавай ступені актуальна. Гэтыя правы найперш парушаюцца ўладамі Беларусі.

**— Цікава, які выпадак з праваабарончай практыкі Вам найбольш запомніўся і чаму?**

— Думаю, што не буду арыгінальным... Яшчэ год таму я, напэўна, прыгадаў бы іншыя сітуацыі, але мы яшчэ не адышлі ад тых падзей, якія былі пасля 19-га снежня 2010 года. І гэта гучна вядомыператрус на офісе «Вясны», калі мы з калегамі выскоквалі з вакна, пакуль у дзверы ламіліся кадэбісты, а да таго дзве гадзіны «наводзілі парадак», каб было «не сорамна» запусціць гасцей. Гэта, безумоўна, пакінула яскравыя ўспаміны.

Таксама для мяне шмат асабістага звязана з «Вясной»: калі я ад нашага Праваабарончага цэнтра назіраў за прэзідэнцкімі




Кыргызстан. Прэзідэнцкія выбары. Уладзімір Лабковіч у складзе міжнароднай назіральніцкай місіі. Джалалабад, 2005 год.

выбарамі ва Украіне ў 2004-ым годзе, падчас трэцяга тура (паўторны другі тур — **рэд.**) працаваў разам з дзяўчынай, якая была не з Беларусі. Потым яна стала маёй жонкай. Атрымліваецца, што я і ў асабістым жыцці стаў шчаслівым, дзякуючы сваёй праваабарончай дзейнасці.

Такім чынам, негатыўны момант, які надаў шмат адрэналіну, і тое, што ёсць назаўжды — сям'я, якая сфармавалася, дзякуючы працы ў «Вясне», — тыя моманты, якія пакуль узгадваюцца найперш.

**— Вы дыпламаваны юрыст. Але, каб быць праваабаронцам, не абавязкова мець юрыдычную адукацыю. Часам нават даводзіцца чуць, што юрыдычная адукацыя ў чымсьці перашкаджае ў праваабарончай дзейнасці. Так бы мовіць, прафесійная дэфармацыя...**

— Я, дарэчы, згодны з тым, што ёсць памылковы стэрэатып, што праваабаронца павінен быць юрыстам. На маю думку, такая сітуацыя выклікана тым, што беларуская дзяржава ставіцца варожа да правоў чалавека ў прынцыпе, таму ў праваабарончых арганізацыях найбольш запатрабаваныя асобы, якія могуць непасрэдна, маючы прафесійныя юрыдычныя веды, бараніць правы людзей. Але гэта вельмі вузкае разуменне праваабароны. Я лічу, што, сапраўды, часам юрыдычная адукацыя перашкаджае, і спрабую пашыраць гарызонты. Хаця для мяне гэта цяжка, бо, скажам так, я зацыклены выключна на юрыспрудэнцыі і,

З дачкой Адэляй.
Мінск, 2008 год.



дарэчы, спрабую не згубіць форму, увесь час назапашваючы юрыдычныя веды. Але часта губляешся, калі глядзіш на шмат якія парушэнні правоў канкрэтных людзей праз прызму беларускага заканадаўства, якое абсалютна не адпавядае міжнародным стандартам у многіх галінах. У такіх выпадках ты разумееш, што не можаш дапамагчы чалавеку, карыстаючыся сваімі прафесійнымі ведамі. Плюс яшчэ вялікая праблема ў тым, што нашыя юрыдычныя вну зацыкленыя на нацыянальным заканадаўстве і не даюць добрых ведаў па міжнародных механізмах абароны правоў чалавека. Таму вось праз гэта «збудаванне» нацыянальнага права вельмі цяжка пабачыць, што знаходзіцца за ім — тыя магчымасці абароны праз міжнародныя структуры...



Разам з жонкай Нінай
і дачкой Адэляй.
Мінск, снежань
2010 года.




Падчас акцыі салідарнасці з рэдакцыяй газеты «Народная воля». Мінск, 2003 год.

**— А што для Вас найперш у праваабарончай дзейнасці — жаданне дапамагаць людзям ці ўменне рабіць гэта «правільна»?**

— Аднойчы паміж мной і Алесем Бяляцкім адбылася дыскусія адносна таго, што ёсць праваабарончая дзейнасць. Ён таксама запытаўся, што гэта значыць для мяне. Я тады адказаў, што для мяне праваабарончая дзейнасць і праца ў «Вясне» — гэта адна з формаў змагання з тым рэжымам, які існуе ў Беларусі. Ёсць рэчы, якія я магу зрабіць добра — і гэта мая «лінія фронту», мой унёсак у тыя змены, якія, безумоўна, павінны адбыцца ў Беларусі. На гэта Бяляцкі зазначыў, што раней таксама так лічыў, але зараз ён разумее, што праваабарона ёсць значна шырэй: гэта не толькі змаганне з уладай, гэта змаганне за людзей і дапамога людзям. Гэта спроба і жаданне быць карысным людзям. Зараз я думаю, што ён абсалютна правы, і цяпер гэта асноўны матыў маёй дзейнасці. Як бы пафасна гэта ні гучала. Вельмі часта тое, што ты

робіш, нават немагчыма вымерыць нейкім пазітыўным вынікам, таму што пры той сістэме, якая ёсць у Беларусі, ты часта бываеш бяссільны. Але ж адчуванне таго, што людзі табе ўдзячныя, — дарагога вартае.

**— Ці можа праваабаронца парушыць закон, каб абараніць правы іншых людзей, як мяркуеце?**

— Канечне. Мала таго, калі гэта дазволіць абараніць правы людзей, а той закон — кепскі, яго трэба парушаць. Таму праваабаронца не толькі мае права, але і абавязаны парушыць кепскі закон дзеля таго, каб абараніць правы чалавека. Правы стаяць значна вышэй за закон, асабліва калі мы адыходзім ад тэарэтычных разважанняў і глядзім на практыку, напрыклад, у Беларусі.

**— І Вам даводзілася гэта рабіць? Наколькі часта?**

— Неаднаразова. І калі гэта трэба будзе зрабіць яшчэ і яшчэ — я нават задумвацца не буду. Таму што абарона правоў канкрэтнага чалавека, безумоўна, непараўнальна важнейшая за сённяшні беларускі закон...

**— Які з напрамкаў працы «Вясны» Вам бліжэйшы і чаму?**

— Канечне, юрыдычная дапамога людзям, і гэта тое, што даводзіцца рабіць штодзень. Але ёсць рэчы, якія мяне асабіста вельмі цікавяць. Я вельмі ўсцешаны, што пасля ўнутраных дыскусіяў мы прыйшлі да таго, што нашай арганізацыі важна назіраць за ўсімі выбарамі, якія адбываюцца ў Беларусі. Паколькі для мяне гэта вельмі блізкае пытанне, як і пытанне менавіта свабодных і справядлівых выбараў, то мне рэальна прыносяць асалоду кампаніі па назіранні, якія мы ладзім разам з нашымі калегамі з іншых праваабарончых арганізацый. Гэта тое, што мяне шчыра захапляе ў маёй працы.

Кампаніяў па назіранні праведзена ўжо дастаткова, і шмат было зроблена ў гэтым накірунку. Калі мы рабілі назіранне ў 2000-м, 2001-м, 2003-м і 2004-м гадах, то яно было скіравана,

я сказаў бы, на незалежную ацэнку непасрэдна таго, што адбываецца на выбарчых участках. Тады нам не хапала нейкіх ведаў, практыкі (гэта было несістэматызаванае нават унутры арганізацыі назіранне) для таго, каб ахапіць выбарчы працэс цалкам. Падчас апошніх кампаніяў — на парламенцкіх выбарах 2008-га года, а тым больш на прэзідэнцкіх у 2010-м — мы ўжо змаглі метадычна і якасна правесці паўнавартаснае назіранне, якое лічаць вельмі прафесійным у тым ліку нашыя калегі з БДІПЧ АБСЕ. І тым, што назіранне, якое робіць «Вясна», замежныя эксперты лічаць адным з найлепшых у Еўропе прыкладаў у прафесійным і ў метадалагічным плане, па выніковасці, я вельмі ўсцешаны і ганаруся. Гэта кажа пра тое, што мы развіваемся, увесь час спрабуючы палепшыць сваю працу.

Уладзімір Лабковіч у Стамбуле. 2011 год.



**— Вы даволі малады, амбітны і мэтанакіраваны чалавек. Якім чынам у Вашым жыцці і разуменні суадносяцца паняцці «кар'ера» і «праваабарона», і што для Вас азначае «кар'ера праваабаронцы»?**

— Напэўна, самае складанае пытанне... Сапраўды, я лічу сябе ў здаровым сэнсе амбітным і ў добрым сэнсе, канечне, кар'ерыстам. І маё самалюбства цешыць тое, што я працую з цудоўнымі людзьмі (магу казаць пра тое, што ўвахожу ў кіраўніцтва «Вясны») і што мне неаднаразова ўжо даручалася кіраванне вялікімі кампаніямі (тое ж назіранне за выбарамі). Усё гэта цалкам задавальняе і амбіцыі, і пачуццё ўласнай годнасці і запатрабаванасці ў арганізацыі.

**— На сённяшні дзень ёсць нейкая планка, да якой яшчэ трэба імкнуцца?**

— У праваабароне, напэўна, не... Нейкі час, калі гэта стане магчымым (і гэта, можа быць, будзе адрозніваць мяне ад маіх калегаў па арганізацыі), я хацеў бы папрацаваць на дзяржаву. Безумоўна, не ў тых дзяржаўных інстытутах, якія ёсць сёння, бо для мяне прынцыпова немагчыма ніякая праца ў цяперашнім дзяржаўным апараце. Але ж у дэмакратычнай краіне, асабліва на этапе, калі мы ўжо будзем мець дэмакратычны ўрад, дэмакратычны парламент і (я часта пра гэта думаю) нам трэба будзе мяняць усё, і ўсяму трэба будзе вучыцца амаль што з нуля. Бо ў нас усё настолькі разбурана і знішчана, што давядзецца шмат што адбудоўваць. І пры наяўнасці на гэта палітычнай волі кіраўніцтва дзяржавы я б хацеў нейкі час папрацаваць на дзяржаву.

**— А калі больш акрэслена — якая пасада і ў якой установе?**

— Нейкі час я марыў увайсці ў следчую камісію па расследванні злачынстваў сённяшняга рэжыму (*усміхаецца*). На дадзены момант я з задавальненнем больш бы засяродзіўся на забеспячэнні правядзення першых-другіх-трэціх (і пакуль мне гэта будзе цікава) дэмакратычных, свабодных выбараў у краіне.

**— Ооо! Цэліце на месца Лідзіі Ярмошынай?**

— Я лічу, што ў нас дастаткова экспертаў-юрыстаў, якія займаюцца менавіта выбарчым правам і маглі б быць старшынёй Цэнтрвыбаркама. Я б дакладна не хацеў займаць гэтую пасаду. Я хацеў бы менавіта практычна — спачатку на ўзроўні стратэгіі, а потым і яе рэалізацыі — займацца рэфармаваннем выбарчага заканадаўства і практыкай яго прымянення.

**— Ці хацелі б паспрабаваць сябе ў праваабарончай дзейнасці ў якой-небудзь іншай краіне?**

— Так, хацеў бы нейкі час — у тых краінах, якія нельга лічыць дэмакратычнымі, і якія, скажам, мне бліжэй да сэрца, у якіх я бываў. Геаграфічна — гэта Каўказ, Азербайджан, Грузія, Арменія. З задавальненнем нейкі час у гэтых краінах падзяліўся б сваім досведам, практычнымі навыкамі, калі ў гэтым сапраўды будзе патрэба. Але пакуль усё ж лічу сябе патрэбным тут.

**— У чым бачыце розніцу ў працы паміж беларускімі і заходнееўрапейскімі праваабарончымі арганізацыямі?**

— Велізарная розніца.

Перш за ўсё, беларускія праваабаронцы вымушаны быць практыкамі і практычна бараніць правы чалавека. Нашыя калегі і сябры ў дэмакратычных краінах пераважна скіраваныя на аабарону правоў чалавека не ўнутры сваіх краінаў, яны ў асноўным праваабаронцы-стратэгі, якія распрацоўваюць канцэпцыі, праграмы, займаюцца (у добрым сэнсе гэтага слова) лабізмам на макраправаабарончым узроўні. Мы ж знаходзімся ў сітуацыі, калі для нас гэта з'яўляецца другасным, а першаснае — абарона канкрэтных людзей у канкрэтных сітуацыях.

**— Уладзь, ці змаглі б Вы ў нейкі момант каардынальна змяніць сваё жыццё і пайсці ў нейкую іншую прафесію, не звязаную ні з праваабаронай, ні з юрыспрудэнцыяй?**

— Не. Тое, што я юрыст, мяне цалкам задавальняе, і я не расчараваны ні ў сваёй прафесіі, ні ў сваёй дзейнасці. Іншыя галіны пакуль не цікавяць. Мяне цалкам задавальняе тое, што, як мне падаецца, у мяне не заўсёды кепска атрымліваецца.

**Гутарыла Ірына Пракопчык**



На працоўным месцы.
Інфармацыйны аддзел
ПЦ «Вясна». 2004 год

Баюся, мая праваабарончая дзейнасць не скончыцца да канца жыцця...

**Паліна КАЧАТКОВА,** Мінск

# Паліна КАЧАТКОВА

Паліна Качаткова (Сцепаненка) нарадзілася ў 1968 годзе. Падчас вучобы ў Беларусім дзяржаўным універсітэце (1985-1990) брала ўдзел у дзейнасці нелегальных нацыянальна арыентаваных моладзевых аб'яднанняў. З 1990 па 1998 год працавала ў музеі Максіма Багдановіча. Падчас працы ў музеі далучалася да праваабрончай ініцыятывы «Вясна-96» — займалася падрыхтоўкай перадач для рэпрасаваных удзельнікаў масавых акцый пратэсту і складаннем спісаў затрыманых. У жніўні 1998 года звольнілася з музея і перайшла на сталую працу ў Праваабарончы цэнтр «Вясна».

З'яўляецца сцэнарыстам праваабарончых фільмаў «Прычына смерці — прочырк» (2011) і «Свечка праўды Алеся Бяляцкага» (2011), відэасюжэтаў «Не — смяротнаму пакаранню ў Беларусі» (2010) і «Акрэсцінскія дзённікі» (2009).

**— Паліна, Вы адна з тых, хто стаяў ля вытокаў стварэння і станаўлення «Вясны». Ці свядомым быў выбар на карысць праваабарончай дзейнасці? Як Вы прыйшлі да гэтага?**

— У 1996-м годзе, калі праходзілі масавыя акцыі, сапраўды была такая сітуацыя, што няясна было, колькі людзей затрымалі, куды іх вязуць. Гэта зараз ужо ўсе гэтыя назвы — Акрэсціна ці СІЗА КДБ — на слыху, а раней людзі гэтага не ведалі, бо не было масавых затрыманняў. Людзі шмат ведалі пра сталінскія рэпрэсіі, што тады ў Курапаты вазілі, а куды вазілі ў 96-м — фактычна было невядома. І вось тады з'явілася ініцыятыўная група, якая збірала гэту інфармацыю, дапамагала сваякам, насіла перадачы (на той час, відаць, быў толькі Беларускі Хельсінкскі камітэт, які не займаўся такімі практычнымі пытаннямі, як перадачы, складанне спісаў затрыманых). Усе людзі, якія ўваходзілі ў гэту ініцыятыўную групу, працавалі яшчэ недзе на дзяржаўнай працы — тады гэта было магчыма. Мы вось працавалі ў музеі Максіма Багдановіча.

Аднойчы я ўбачыла, як Алесь Бяляцкі нясе нейкае сала, кажа: «Дапамажы мне парэзаць». Запытваюся: «Навошта?». Кажа: «На перадачы». Мы сталі наразаць сала, раскладаць часнык, а пасля павезлі ўсё гэта на Акрэсціна. І Бяляцкі мне ўсю дарогу казаў: «Ты перадаеш перадачу Барысу Хамайду. Запомні — Барысу Хамайду!» Барыса Хамайды я на той момант ніколі не бачыла і ўвогуле ўпершыню ўбачыла яго дзесьці ў 2010-м годзе, а дагэтуль для мяне ён быў такі міфалагічны чалавек. Для адміністрацыі спецпрыёмніка, відаць, гэта таксама была новая з'ява. Мы прыехалі на Акрэсціна, нас запрасіў да сябе начальнік. Ён пасадзіў нас, прапанаваў гарбаты, стаў распытвацца, што новага ў музеі, прычым не толькі ў нашым, але яшчэ і ў музеі гісторыі беларускай літаратуры, ці не плануем мы абнаўляць экспазіцыю... Мы вырашылі, што ён даводзіўся сваяком камусьці з супрацоўнікаў музея, бо вельмі добра ведаў усё. Потым ён стаў у мяне дапытвацца, дзе я пазнаёмілася з Хамайдам, ці ведаю яго асабіста. Кажу, што ведаю. Пытаецца, як гэта магчыма: ён жа з Віцебска, а я з Мінска. Кажу, што пазнаёміліся ў оперы, чым




Нью-Ёрк, ААН. Канферэнцыя па папярэджанні канфліктаў. З палітолагам Дзянісам Мельянцовым. Жнівень 2005 года

нечакана здзівіла яго. Карацей, перадачы мы перадалі, і гэта было яшчэ не раз.

Але адчуванне таго, што праваабарончыя арганізацыі вельмі патрэбныя, да мяне прыйшло дзесьці праз год. Гэта быў ужо 97-мы год, вясна, таксама ішлі акцыі, хаця яны былі не такія масавыя, як у 96-м. Я трапіла ў нечаканую сітуацыю. Жыла я тады на праспекце Скарыны (вуліца Леніна, 9) і пайшла на

Галоўпаштампт. Раптам бачу, што каля Чырвонага Касцёла акцыя — там пудзіла Лукашэнкі спальвалі. Людзей было няшмат, але я вырашыла пайсці паглядзець. Пабачыла Бяляцкага з сынам Адамам. Алесь мне кажа: «Ты тут пастой з малым на ганку касцёла, а я натоўп расхістаю». Як стаў расхіствацца натоўп, сталі амапаўцы з'яўляцца. І неяк гэты натоўп рушыў. Да мяне падышоў Сіўчык і сказаў: «Не стойце тут — вас забяруць». Сапраўды, людзей ужо сталі біць-заганяць. Мы з Адасём, прабраўшыся праз атачэнне амапаўцаў, вуліцай Валадарскага выйшлі на праспект і бачым, што там людзі бегаюць туды-сюды, а іх збіваюць, прычым вельмі моцна. Нам трэба было прайсці перакрыжаванне каля Макдональдса, а там ужо ўсё ўзята ў кола, праспект проста перакрыты. Мы ідзем, і я малому ўвесь час распавядаю штосьці пазітыўнае, хаця карціна наўкол жахлівая — было бачна, што людзей збіваюць укроў. Мяне з дзіцёнкам неяк прапусцілі ў арку на Леніна, 9. Але я ўсё думала, што Бяляцкі хутка прыйдзе.

Адасю тады гадоў 8 было. Памятаю, запыталася ў яго, што будзем глядзець па тэлевізары. А там усяго дзве праграмы — па адной ішлі мульцікі, па другой — навіны. І ён кажа, што навіны. Я ўключаю навіны, а там распавядаюць, што ў Мінску такія падзеі, ёсць ахвяры і, магчыма, забітыя. Я кажу яму, што, відаць, перабольшваюць, як заўсёды, і думаю, што зараз Бяляцкі прыйдзе, а таксама што трэба схадзіць набыць чаго паесці. Ужо зусім цёмна, а Бяляцкага ўсё няма. Я выходжу на вуліцу, а там на Карла Маркса нейкая «апорка», каля яе людзі стаяць, а побач яшчэ была крама «Каўбаса», у якую я зайшла. Каля гэтай крамы знаходзіўся тэлефон-аўтамат. Ну, куды званіць? Я тэлефаную на Фронт і пачынаю дастаткова гучна апісваць сітуацыю. Кажу, што я калега Бяляцкага, што ў мяне яго сын, а Алеся няма. Мне адказваюць, што ўсё нармальна, акцыя скончылася, і Бяляцкі пайшоў дахаты. Кажу, што дахаты ён не пайшоў, прайшло ўжо паўтары гадзіны... Там пачынаюць: «Ну!...» Карацей, я разоў пяць выходзіла да гэтага аўтамата і вяла размовы. Прычым людзі ля «апоркі», якія фактычна і забіралі пратэстоўцаў, на

мяне дзіка глядзелі. Да мяне пачало даходзіць, што мяне таксама могуць забраць. Тады такога яшчэ не было, але яны чулі ўсё, што я кажу, і, відаць, думалі, што са мной рабіць, бо я фактычна крычала там. Атрымлівалася, што я тэлефаную, а мне ўвесь час кажуць, што Бяляцкі дома. Я запытваюся, куды патэлефанаваць, каб даведацца, дзе шукаць затрыманых. Тады я і зрабіла для сябе выснову, што мусіць быць нейкае месца, куды можна патэлефанаваць і даведацца, дзе знаходзіцца чалавек. На той момант для мяне гэта быў шок...

Прыходзіць раніца, і, зразумела, ніхто не прыходзіць. Я іду з малым на працу — калектыў у шоку. Пачынаем тэлефанаваць па судах і даведваемся, што Бяляцкага судзяць у судзе Цэнтральнага раёна. Мы з Таццянай Рэвяка прыходзім туды — бачым, сядзіць Бяляцкі без шнуркоў. Ён, канечне, узрадваўся, калі нас убачыў...

Пасля гэтага ў мяне з'явілася думка, што праваабарончая арганізацыя не можа, канечне, узяць штурмам турму, але яна патрэбна, каб распавесці людзям, якія ніколі не сутыкаліся з гэтай сістэмай, хаця б некаторыя абавязковыя рэчы, якія трэба ведаць. Падчас працы ў «Вясне» я дзяжурыла на тэлефонах пасля акцый і спрабавала людзей супакоіць у аналагічных сітуацыях, таму што ў свой час мяне гэта вельмі моцна ўразіла. Хацелася хоць нейкай інфармацыі, а яе не было...

**— Вы прыгадалі дзве гісторыі, і ў абедзьвюх — Алесь Бяляцкі. Відаць, ён і спрычыніў Вас да праваабарончай дзейнасці?**

— Вядома. Праз Алеся Бяляцкага я і прыйшла да праваабароны. Мы разам працавалі ў музеі, разам хадзілі на акцыі і разам пайшлі ў праваабарону. Адзінае — я не думала, што гэта так надоўга. Здавалася, што нейкіх пару гадоў — і ўсё стане на свае месцы, і я зноў буду працаваць у музеі. Гэта вельмі цяжка, калі расцягваецца ў часе. Але рэжым такі. У 90-я гады верылася, што Лукашэнка ненадоўга, што пройдуць гэтыя акцыі, здаровы сэнс пераможа, і ўсё стане як мае быць.

**— Паліна, «Вясна» 90-ых і «Вясна» сённяшняя — якія адрозненні, акрамя адсутнасці легальнага юрыдычнаа статусу, Вы можаце адзначыць?**

— Зразумела, што за гады працы назапасіўся прафесійны досвед, і зараз гэта ў пэўным сэнсе прафесійная арганізацыя, якая можа браць да сябе вучыцца інтэрнаў з усіх краінаў і перадаваць ужо свой досвед. У 90-я гады мы яшчэ шукалі нейкія шляхі, і некаторыя з іх былі абраныя правільна. Тады ўсё даводзілася рабіць упершыню.

**— Вы прысвяцілі праваабарончай дзейнасці дзесяць гадоў. Якое месца гэтаму дзесяцігоддзю адводзіце ў сваім жыцці?**

— Я б сказала, што правааабарончай працы, звязанай з офісам «Вясны», было восем гадоў. Таму што два гады мы

У аўтазаку пасля затрымання на полі Аршанскай бітвы. Паліна Качаткова тэлефануе Алесю Бяляцкаму. Верасень 2009 года.





Дзень Канстытуцыі. Мітынг, з якога пачаліся акцыі пратэсту. Каля тэлебачання. З паэтам Анатолем Сысом. 1996 год.

займаліся праваабаронай, яшчэ працуючы ў музеі. І зноў-такі, праваабаронца — гэта ўсё ж стан душы і стан розуму. Хоць я зараз не працую ў офісе «Вясны», але прымаю ўдзел у ініцыятывах арганізацыі. Напрыклад, з'яўляюся актывістам кампаніі супраць смяротнага пакарання. Таму я не скажу, што мой праваабарончы досвед скончыўся дзесяццю гадамі. Баюся, што ён не скончыцца для мяне да канца жыцця...

**— Наколькі гэта проста ці складана — быць праваабаронцам па жыцці?**

— Вельмі складана — калі не ўспрымаць гэта як працу, а калі гэта стан душы. Таму што шмат у свеце несправядлівасці, і праваабаронца — гэта якраз той чалавек, які не можа думаць толькі пра сябе. А калі чалавек думае не толькі пра сябе, то зразумела, што ён штосьці губляе ў сваім жыцці, таму што шмат часу прысвячае праблемам іншых.

**— Чаму тады Вы займаецеся праваабарончай дзейнасцю надалей, па-за «Вясной»?**

— Я магу сказаць абсалютна шчыра, што ў 2006-м годзе я сыйшла з працы ў праваабарончым цэнтры, бо ў мяне адбыўся нервовы зрыў якраз на глебе тагачасных рэпрэсій. Гэта ўжо быў юбілейны год для мяне (*усміхаецца*) Тады я ўсё прымала вельмі блізка да сэрца: было шмат ахвяраў, шмат нюансаў, былі

раз'юшаныя маткі, якія тэлефанавалі (а я сядзела на тэлефоне) і абяцалі разарваць нас на шматкі за тое, што мы вывелі іх дзяцей на Плошчу, хаця асабіста я нікога нікуды не выводзіла.

У нас няма праграм псіхалагічнай рэабілітацыі для праваабаронцаў, хаця, відаць, недзе яны ёсць, мусяць быць. Таму што ў людзей узнікае фрустрацыя, з'яўляюцца расчараванне, трывога, развіваецца дэпрэсія, на гэтым фоне чалавек папросту эмацыйна выгарае і ўжо не можа дапамагаць не тое што іншым, але і сабе. Чаму ў праваабарончых арганізацыях няма псіхолагаў — для мяне дагэтуль загадка. Бо мне здаецца, што яшчэ дзесяць гадоў дыктатуры — і мы згубім шмат каго.

**— Вы зараз закранулі адзін са складаных аспектаў праваабарончай працы. Што датычыць стасункаў праваабаронцаў і насельніцтва, то людзі часта разглядаюць праваабаронцаў як змагароў за каштоўнасці, якія абсалютная**

У Белавежскай пушчы з Яўгенам Вапам. 2005 год.



**большасць у нашым грамадстве не падзяляе. Ці даводзілася Вам асабіста сутыкацца з такім стаўленнем да сябе і сваёй працы?**

— Я ўвогуле думаю, што ёсць людзі, якія не ведаюць, хто такія праваабаронцы. І часта нават у журналісцкіх матэрыялах — прычым у незалежных СМІ, што мяне заўсёды здзіўляла — блытаюць праваабаронцаў з праваахоўнікамі, могуць напісаць «праваабарончыя органы», маючы на ўвазе міліцыю. Дарэчы кажучы, калі мы пачыналі працаваць, якраз стаўленне да праваабаронцаў было іншае. Таму што, відаць, яшчэ не было гэтай прапаганды пра тое, як «праваабаронцы жыруюць». Якраз у праваабаронцах бачылі людзей, якія «спяшаюцца на дапамогу», і да нас шмат людзей звярталася. Калі мы пачыналі працаваць, то не толькі палітычнымі справамі займаліся. Да нас звярталіся несправядліва абылганыя на працы, звольненыя, і тады была яшчэ магчымасць ім рэальна дапамагаць. Я думаю, што тое, пра што вы кажаце, хутчэй, вынік прапаганды. Прычым, у нас грамадства ўсё ж дастаткова беднае, і калі людзям паказаць па тэлебачанні, што праваабаронцы, напрыклад, багатыя — адсюль гэтае негатыўнае стаўленне.

Калі казаць пра канкрэтныя выпадкі, то мяне ўразіў, выклікаў нейкую рэфлексію наступны. Калі «Вясну» закрывалі ў 2003-м годзе і забралі калег, якія на знак пратэсту селі на падлогу ў зале суда, мы з Юркам Чавусавым на таксоўцы павезлі ў міліцыю ім перадачы. Таксіст зразумеў, што мы едзем у міліцыю, бо бачыў гэтыя перадачы, і падумаў, што мы да нейкіх крымінальнікаў. А мы не хацелі, каб ён так думаў, і тады Юрка сказаў яму, што праваабаронцаў забралі. На гэта таксіст сказаў: «Распавядзіце, каго вы абаранілі». І пакуль мы ехалі да аддзялення міліцыі, я распавядала таксісту, каго мы абаранілі. Распавяла пра прэс-канферэнцыю па справе Мікалуцкага (я лічу, што тады яна сапраўды шмат значыла, бо гэтыя людзі маглі б быць расстраляныя), распавяла пра людзей, якіх з дапамогай нашых юрыстаў аднаўлялі на працы. І таксіст слухаў — было бачна, што яму цікава... Насамрэч я думаю, што ў людзей ёсць цікавасць да

праваабаронцаў як да такой альтэрнатывы, што можа дапамагчы ў неправавой дзяржаве.

**— Паліна, зараз Вы займаецеся больш літаратурнай дзейнасцю — мастацкія тэксты, сцэнары да дакументальных фільмаў. Ці ўплывае Ваша праваабарончая практыка на гэтую працу?**

— Уплывае. Я напісала сцэнар фільма для кампаніі супраць смяротнага пакарання — пра катаванні ў адносінах да сваякоў расстраляных, у прыватнасці, пра практыку нявыдачы целаў, чаго няма ва ўсіх краінах. На працягу ўсяго фільма маці ходзіць і шукае магілу сына, які і не надта добры чалавек быў, бо ўсё ж здзейсніў злачынства, але маці хоча ведаць, дзе ён пахаваны. Рабіла сцэнар фільма «Гастарбайтэр» — пра людзей, якія шукаюць шчасця за межамі нашай краіны, таму што не могуць працаваць у Беларусі. Рабіла рэпартажы пра вязняў. Зразумела, што праваабарончы досвед у гэтым мне дапамагае — я ведаю фактуру і магу нармальна арыентавацца ў падобных рэаліях. Іншыя людзі часам бяруцца за нейкі фільм праваабарончай тэматыкі, але вельмі часта (зараз кантактую з рэжысёрамі-дакументалістамі) самі не зусім добра разумеюць, што такое правы чалавека, і не настолькі добра ведаюць асобаў, якія пацярпелі ў нашай краіне.

**— Што, па-Вашаму, неабходна зрабіць, каб простыя людзі ведалі, што такое правы чалавека, і як іх можна абараняць?**

— Трэба больш адукацыйных праграм — гэта адно. І другое: пакуль у нашым грамадстве будзе раскол, пакуль праваабарончыя арганізацыі будуць знаходзіцца па-за законам — гэтага вельмі цяжка дамагчыся, таму што і людзям дапамагаць амаль немагчыма ў такой сітуацыі — тут хто б табе дапамог. А калі праваабаронцы займаюцца абаронай праваабаронцаў — гэта вельмі неабходна, але ў грамадстве часам выклікае іронію. Хаця ізноў, хутчэй, ад неразумення сітуацыі. Трэба, каб агульны клімат у грамадстве быў нармальным, і каб развівалася грамадзянская супольнасць. Таму што цікавасць у людзей да правоў чалавека

вельмі моцная насамрэч, людзі мала што ведаюць пра свае правы, прычым у розных сферах. І, мяркую, хацелі б ведаць больш. Але нават сувязі з праваабаронцамі тут таксама могуць быць небяспечнымі.

**Гутарыла Ірына Пракопчык**




Алена Лапцёнак трымае ў руках кнігу «Прага вясны: Крымінальныя прысуды, вынесеныя ў 2007 годзе па палітычных матывах». Мінск, 21.10.2009 г.

# Жанчына ў ролі праваабаронцы — з'ява натуральная

**Алена Лапцёнак,** Мінск

# Алена Лапцёнак

Алена Лапцёнак нарадзілася ў 1968 годзе. У 1985 паступіла на філалагічны факультэт БДУ імя Леніна, які скончыла ў 1990 г. Яшчэ студэнткай пятага курса была прынята на працу ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча навуковым супрацоўнікам, дзе працавала да 1999 г. У 1999-2002 гг. вучылася ў аспірантуры Інстытута літаратуры НАН РБ, працавала над тэмай «Мемуарны жанр у сучаснай беларускай літаратуры». З'яўляецца адным з заснавальнікаў Праваабарончага цэнтра «Вясна», з 2005 г. — супрацоўнік інфармацыйнага аддзела арганізацыі. Сябра БАЖ з 2005 г. Выхоўвае дачку і сына.

**— Спадарыня Алена! У Беларусі нямала жанчын займаюцца праваабарончай дзейнасцю, хаця такая праца не пад сілу часам і многім прадстаўнікам моцнага полу. З чым Вы гэта звязваеце?**

— Па-першае, не існуе дакладнага азначэння таго, хто ёсць праваабаронца. Гэта найперш чалавек, які адстойвае свае правы і правы іншых грамадзян. У прынцыпе, гэта людзі, датычныя да «трэцяга» сектара. І вось якраз у трэцім сектары, як мне падаецца, найбольш актыўнымі з'яўляюцца жанчыны, бо гэтая праца руплівая, не заўсёды ўдзячная і паспяховая. Калі казаць пра трэці сектар, дык тут нельга весці гаворку пра нейкі кар'ерны рост, хаця і ён магчымы, ды яшчэ пра нейкія там дасягненні матэрыяльнага кшталту. Менавіта гэтая сфера і з'яўляецца для жанчын больш натуральнай.

Ну, а па-другое, ранейшы штамп пра моцны і слабы пол даўно ўжо не адпавядае рэчаіснасці. Сеня ўжо нават асаблівых спрэчак наконт таго, які пол з'яўляецца моцным, не вядзецца, бо жанчыны зараз мала ў якіх сферах дзейнасці саступаюць мужчынам. Зразумела, спаборнічаць у падняцці цяжару тут бессэнсоўна, а вось наконт моцы духу паспрачацца можна. Я лічу, што сутнасць жанчыны сыходзіць у першую чаргу ад яе прыроды і абумоўлена тым, што менавіта жанчына дае пачатак новаму жыццю. А гэта значыць, што і ахоўваць, і бараніць сваё яна таксама будзе апантана.

**— Калі закрануць гісторыю стварэння Праваабарончага цэнтра «Вясна», дык бачна, што пэўная частка калектыву прыйшла з Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Гэта і сам старшыня Алесь Бяляцкі, і Таццяна Рэвяка, і Паліна Сцепаненка. Вы таксама працавалі ў музеі. Што падштурхнула Вас далучыцца да ранейшых калег?**

— Кажучы лаканічна: мабыць, гэта лёс. Так склалася жыццё. Але ў той жа час нельга казаць, што я надоўга адрывалася ад сваіх калег. Калі ў 1996 годзе была створана «Вясна-96», на той час мы ўсе разам яшчэ працавалі ў Літаратурным музеі Багдановіча, і я прымала ў гэтым удзел, хоць на той момант



У гасцях ва Ульяны Рыгораўны Захаранка, маці зніклага міністра унутраных справаў Юрыя Захаранкі. Васілевічы, 07.05.2008 г.

знаходзілася ў адпачынку па догляду за дзіцём. Натуральна, тады нейкія каардынальныя змены ў грамадскім жыцці адышлі на другі план, бо на першым было ўласнае сямейнае жыццё і выхаванне дачушкі. На працу ў музей я вярнулася вясной 1997 года, калі дачцэ споўнілася 3 гады. Праз год Алесь Бяляцкі прыняў канчатковае рашэнне аб сыходзе з музея і засяроджванні выключна на працы на праваабарончай ніве. Мае аднакурсніцы Таццяна і Паліна падтрымалі ягоную ідэю сыходу з музея, бо немагчыма стала сумяшчаць адно з другім. Зразумела, што Бяляцкі за сабой нікога не цягнуў, разумеючы няпэўнасць становішча ў матэрыяльным і сацыяльным плане. А што тычыцца мяне, то ў той час мой муж фактычна з'ехаў «вяртаць» Беларусі Вільню, дзе тады актывізавалася культурнае жыццё беларусаў. Там быў зарэгістраваны Беларускі інфармацыйны цэнтр, які мусіў стаць цэнтрам беларускага нацыянальнага асяродку і над якім супольна

працавалі Сяргей Дубавец, Сяргей Харэўскі, Віктар Корзун і Андрэй Лапцёнак, распачынаўся радыёпраект «Балтыйскія хвалі»'. Мая праца ў музеі забяспечвала пэўную стабільнасць, якую страшна было губляць на той момант. Ды і перспектывы сямейнага жыцця былі не зусім акрэсленыя: ці то перабірацца ў Вільню, ці заставацца ў Мінску. Дарэчы, так цягнулася амаль два гады, Андрэй жыў у Вільні, а я з дачкой тут. Ён намагаўся як мага часцей прыязджаць да нас, адлегласць жа не надта вялікая — 180 км. Але мяжа забірала шмат часу. Такое жыццё на колах атрымлівалася. Часам вяртаўся ўначы, я толькі хвалявалася, як там ён у дарозе? Мабільнікаў яшчэ не было. Адным словам, даволі складаны быў перыяд. Таму сталая праца заставалася для мяне пэўным падмацаваннем, гарантам стабільнасці.

Пасля сыходу з музея маіх калег, недзе цягам года, паступова я адчула сябе няўтульна. Мне стала ў музеі не зусім камфортна. Нягледзячы на тое, што новы дырэктар быў зацверджаны на пасаду з ліку супрацоўнікаў музея па рэкамендацыі Алеся, тым не менш атмасфера паступова змянілася. І калі раней я ляцела на працу

На беразе Нёмана з Палінай Сцепаненка. Літва, жнівень 2010 г.





Падчас візіту Генеральнага сакратара Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека ў Беларусь. Злева направа: А. Бяляцкі, А. Лапцёнак, Луіс Перас, Т. Рэвяка, В. Стэфановіч. Ракаў, 02.09.2008 г.

нібыта на крылах, дык тады я проста прыходзіла выконваць свае працоўныя абавязкі. Я адчувала сябе самотна, душа патрабавала перамен. Трэба было нешта вырашаць. Алесь вучыў нас не толькі ствараць экспазіцыі, збіраць і зберагаць спадчыну, але і заахвочваў да навуковай і даследчыцкай працы. Мне гэта падабалася, і я вырашыла паступіць у аспірантуру, скарыстаўшы магчымасць навучання менавіта на дзённым аддзяленні, бо, згадзіцеся, складана працаваць, даглядаць сям'ю ды яшчэ пры гэтым вучыцца. Лічу, што калі чалавек за нешта бярэцца, ён мусіць імкнуцца рабіць гэта дасканала, выкладвацца на 100 адсоткаў.

У 1999 годзе я паступіла ў аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук. У мяне была загадзя вызначаная тэма — напісанне дысертацыі на падставе апублікаваных успамінаў бацькі Максіма Багдановіча — Адама Ягоравіча, у расчытванні

рукапісаў якіх я прымала непасрэдны ўдзел. Праўда, потым у выніку абмеркаванняў тэма гэтая значна пашырылася і вылілася ў вельмі абагуленую — «Мемуарны жанр у беларускай сучаснай літаратуры», бо ў 90-я гады друкавалася вялікая колькасць успамінаў, асабліва забароненых за Саветамі беларускіх пісьменнікаў. Я складала бібліяграфічны каталог, праводзіла сістэматызацыю твораў, напісала першы раздзел, але замест дысертацыі ў 2002 годзе ў мяне з'явіўся іншы твор — сын. На гэтым мая навуковая дзейнасць скончылася. І не толькі з-за новых сямейных клопатаў, былі і іншыя прычыны, па якіх вяртанне да дысертацыі ўжо не мела сэнсу. Калі ж адпачынак па догляду за дзіцём у 2005 годзе скончыўся, мяне паклікалі мае ранейшыя калегі, і я далучылася да сваёй «вялікай сям'і» — на той час ужо пазбаўленай рэгістрацыі «Вясны».

**— Якія якасці, на Вашу думку, мусяць быць галоўнымі ў характарах людзей, што займаюцца праваабарочай дзейнасцю?**

— Мяркую, тыя самыя, якія звычайна цаню ў людзях — шчырасць, сумленнасць, мэтанакіраванасць, абавязковасць,



Каля Сабора Святой Сафіі. Стамбул, травень 2011 г.




Спаборніцтвы падчас «Бажынак»
на лясным хутары Барок
пад Валожынам. 30.07.2010 г.

прынцыповасць. Праваабаронцам таксама ўласціва непахіснасць, упартасць, чалавек павінен быць моцным, як кажуць, са стрыжнем.

**— Не сакрэт, што ўлады прэсуюць праваабаронцаў, нярэдка падчас нейкіх акцый іх затрымліваюць, складаюць пратаколы па надуманых абвінавачваннях. Ці патраплялі Вы самі пад гэты дзяржаўны прэс?**

— Паколькі я ў Праваабарончым цэнтры «Вясна» займаюся найбольш інфармацыйным забеспячэннем і падчас

Падчас прэс-канферэнцыі, прысвечанай 15-годдзю «Вясны»
чэрвень, 2011 г.






Прэзентацыя кнігі «Палітвязні: Крымінальныя прысуды, вынесеныя ў 2008 годзе па палітычных матывах». Злева направа: А.Лапцёнак, А.Волчак, В. Стэфановіч, С. Парсюкевіч, Т. Кім. Мінск, 21.10.2009 г.

масавых акцый знаходжуся ля кампутара, ля тэлефона — не затрымлівалася, да адміністрацыйнай адказнасці не прыцягвалася. На санкцыянаваныя акцыі хадзіла спачатку з дачкой, потым ужо і з сынам. Дзякуй Богу, абыходзілася.

**— Вы шмат год у Праваабарончым цэнтры «Вясна». Ці не прыйшла за гэты час стома ад тых праблемаў, з якімі звяртаюцца да праваабаронцаў людзі? Ці не хочацца вам махнуць рукой на ўсё і проста пабыць жанчынай?**

— Шчыра кажучы, я не бачу супярэчнасці ў тым, каб быць жанчынай і яшчэ кімсьці ў плане прафесійным, таму, маю спадзяванне, застаюся жанчынай, і Праваабарончы цэнтр мне ў гэтым не перашкаджае. Але калі казаць пра праблемы, з якімі звяртаюцца да нас людзі, казаць пра інфармацыйны шквал, то, безумоўна, стамілася. І, ведаеце, тут стома хутчэй не столькі




Пасля ўручэння «Прэміі Свабоды». Вроцлаў, чэрвень 2011 г.

ад нейкай аднастайнасці (бо людзі на любой працы ад гэтага стамляюцца), колькі ад пэўнага негатыву. Людзі прыходзяць да нас з праблемамі, якія не здольныя вырашыць самі, яны пакрыўджаныя ці моцна расчараваныя, таму часам чакаюць не толькі вырашэння сваіх пытанняў, канкрэтнай дапамогі, але і спагады. Мне згадваецца адзін з момантаў 2006 года, калі мая сяброўка Паліна дзяжурыла на тэлефоне, а я здабывала звесткі ў судах па шматлікіх адміністрацыйных працэсах. І недзе ўжо каля апоўначы хтосьці, шукаючы сваяка сярод затрыманых ці асуджаных, патэлефанаваў і запытаўся, ці вядома што-небудзь нам пра ягоны лёс. Паліна знайшла патрэбнае прозвішча ў спісах і паведаміла інфармацыю, а ў адказ замест «дзякуй» пачула: «Что-то я не чувствую сочувствия в вашем голосе». Праваабаронцы такія ж людзі, як і ўсе, а не машыны. І калі зранку да ночы сядзець на тэлефоне, адказваць на пытанні, звяраць спісы, рыхтаваць інфармацыю для інтэрнэта, каб многія маглі хоць нешта даведацца

пра сваіх родных ва ўмовах інфармацыйнага вакууму, ужо не да эмацыйнай рэакцыі! І мы ж не жалезныя.

Часам людзям, якія прыходзяць да праваабаронцаў, неабходна простая псіхалагічная дапамога ў тым сэнсе, каб даць магчымасць выказацца, прыняць удзел у іх становішчы, паспачуваць, прапанаваць альтэрнатыўныя погляды на праблему і т.п. І тут няма нічога дзіўнага, бо нармальная псіхалагічная дапамога сёння патрэбная палове насельніцтва — дастаткова толькі звярнуцца да статыстыкі, каб пераканацца ў гэтым. Зараз надзвычай імклівы час, і часам без спецыяліста справіцца са стрэсам проста не выпадае. Толькі нашае грамадства, на жаль, пакуль не дайшло да падобнага зняцця псіхалагічнага напружвання. Між тым, самі псіхатэрапеўты, якія працуюць з людзьмі, мусяць праз нейкі перыяд часу праходзіць сеансы ў іншых псіхолагаў. І гэта нармальна. Гэта дапамагае вызваліцца ад негатыву, прыслухацца да самога сябе. Мне неаднаразова прыходзілася выступаць у падобнай ролі, праводзячы працяглыя размовы з некаторымі з тых, хто звяртаецца ў Праваабарочы цэнтр. Не заўсёды, праўда, удала.

**— Ці адчуваеце Вы задавальненне, калі ўдаецца хоць у нейкай ступені дапамагчы чалавеку?**

— Безумоўна, калі чалавек сыходзіць суцешаны і задаволены, я таксама адчуваю, што не марна патраціла час і высілкі. Мне ў прынцыпе не падабаецца, калі нехта злуецца альбо крыўдуе на мяне. Трэба імкнуцца, каб адносіны былі пазітыўнымі, каб стасункі неслі карысць абодвум бакам, а канфлікты вырашаліся мірным шляхам.

**— У праваабаронцаў самыя разнастайныя сферы дзейнасці. Што асабіста Вас найбольш прыцягвае? Я, напрыклад, часам заўважаў Ваша прозвішча ў кнігах, якія выдаюць праваабаронцы.**

— Мяне найболей прыцягвае праца на вынік: калі ты ўкладаеш сваю энергію ў пэўную справу і праз нейкі час бачыш вынік гэтай

дзейнасці. Безумоўна, гэта не толькі надае ёй сэнс, гэта прыцягвае і зацягвае. Што тычыцца кніг, то адным з першых выданняў, над якім я працавала, была кніга «Верым. Можам. Пераможам» пра падзеі, звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі 2006-га года. Мне было асабліва складана, улічваючы першы такі вопыт. Зборам і пераапрацоўкай інфармацыі мы займаліся з журналісткай Марыяй Савушкінай, а непасрэдна ўкладаннем і рэдагаваннем іншыя. Пасля гэтай спробы прыйшоў досвед, і далейшыя выданні даваліся ўжо лягчэй, займалася імі самастойна. Гэта публіцыстычныя зборнікі пра беларускіх палітвязняў «Прага вясны» і «Палітвязні», іншыя выданні. Нешта падобнае рыхтуецца і зараз.

Журналістыка, у якую я патрапіла воляй лёсу, мне таксама падабаецца, але гэта рамяство, якім трэба займацца ўвесь час. Я маю толькі філалагічную адукацыю і за гады працы ў «Вясне» каардынатарам сайта наведала шмат спецыялізаваных курсаў і семінараў, каб авалодаць спецыфікай гэтай прафесіі. Навуковая дзейнасць падабаецца. Цікавага шмат, але нельга адначасова рабіць многае, трэба вызначацца, каб вынік быў адпаведны.

На дадзены момант «у сувязі з вытворчай неабходнасцю» кола маіх абавязкаў зноў крыху змянілася. Цяпер я займаюся прасоўваннем ідэі правоў чалавека, калі так можна сказаць, праз розныя сродкі масавай інфармацыі сярод беларускага грамадства.

Такім чынам, як і падчас працы ў музеі, прыходзіцца вучыцца нечаму новаму, засвойваць новыя накірункі дзейнасці.

**— Ваша стаўленне да праблемы смяротнага пакарання, якое дагэтуль існуе ў Беларусі? Што Вы самі робіце, каб змяніць сітуацыю?**

— Пазіцыя мая не адрозніваецца ад стаўлення да гэтай праблемы маіх калег: лічу, што дзяржава не мусіць забіраць жыццё нават у злачынцаў. А пакаранне на тое і існуе, каб чалавек усвядоміў, што ён зрабіў, і шчыра пакаяўся. Толькі зняволенне можа да гэтага прывесці, а ніяк не растрэл. Да таго ж, я лічу, што пажыццёвае зняволенне куды больш жорсткая мера пакарання і

чыста псіхалагічна нават жудасная: уявіць сабе, што ты ніколі не выйдзеш на свабоду — гэта фактычна страта сэнсу жыцця.

Разам з іншымі сябрамі арганізацыі я ўдзельнічала ў інфармацыйных акцыях «Вясны» супраць смяротнага пакарання, а яшчэ напісала некалькі артыкулаў на гэтую тэму. Адзін з іх — «Вакол вышкі», надрукаваны ў часопісе «Абажур», нават заняў другое месца ў міжнародным конкурсе на лепшую публікацыю аб талерантнасці, інтэграцыі, узаемапавазе і ўзаемаразуменні ў грамадстве, заснаваным Усходне-Еўрапейскай Сеткай Глабальнага Партнёрства по папярэджанні ўзброеных канфліктаў (GPPAC).

**— Часам людзі мараць... Пра што марыце Вы?**

— Цікавае пытанне... «Юнацтва — час прыгожай светлай мары...» Гэты час, на жаль, даўно ўжо мінуў. Сапраўды, мара, летуценне — гэта вітаць недзе ў аблоках. Бываюць нейкія такія хвіліны часам, але звычайна «я цвёрда стаю на зямлі», бо падымацца ў аблокі не дае груз звычайных клопатаў. Занадта моцная сіла прыцягнення Зямлі.



На акцыі ў Дзень правоў чалавека. Мінск, 10.12.2000 г.

Добра, было б, насамрэч, трапіць у рай, каб недахопы зямнога жыцця кампенсаваліся дабротамі нябёсаў. Прыгадваюцца радкі аднаго з маіх любімых вершаў Анатоля Сыса «Мая белая лебедзь», які, дзякуючы Касі Камоцкай, стаў цудоўнай песняй:

*Надта хочацца ў вырай,*
*Мая белая лебедзь.*
*А ці хочаце вы ў рай?*
*Мне так хочацца ведаць.*
*Мне так хочацца верыць...*

У ёй столькі светлай тугі, нечага невыказанага. Часам у адпаведным настроі я слухаю гэтую песню разоў 20 запар. І адкрыю адзін свой сакрэт: яна — мой псіхатэрапеўтычны сродак ад тугі, самоты, расчаравання... Такая «плакацельная» песня, слухаючы якую, сапраўды, мая душа вызваляецца з путаў будзённых праблем і падымаецца высока ў аблокі.

Калі яшчэ гаварыць пра мары, то, напэўна, цікава было б апынуцца ў машыне часу і зазірнуць не ў будучыню, а ў мінулае. Убачыць на ўласныя вочы нейкія эпахальныя гістарычныя падзеі, выбітных асобаў...

А так маю канкрэтныя звычайныя жаданні, што ніяк не датычыцца мараў: вельмі хочацца давесці да ідэалу ўтульнасць свайго жытла. То часу няма, то сілаў, то жаданне знікае — і цягнецца гэта ўжо каторы год. Банальна.

А калі сур'ёзна, то адзінае, што насамрэч з'яўляецца для мяне галоўным і самым істотным у жыцці, як для жанчыны і маці, гэта — мае дзеці. Я змагу быць шчаслівай толькі тады, калі ў іх усё будзе добра, і кожны дзень прашу ў нябёсаў, каб шляхі іх былі не надта пакручастымі, каб лёс быў спагадлівым, каб яны выраслі годнымі, самарэалізаванымі і самадастатковымі людзьмі. Гэта не зусім мара, гэта — вера, надзея і любоў.

**Гутарыў Сяржук Сыс**




5-я Дублінская платформа праваабаронцаў. Уладзімір Вялічкін з Маргарэт Секагія, спецдакладчыкам ААН па сітуацыі з праваабаронцамі. Люты 2010 года.

# З тымі, хто маўчыць, адбываюцца больш жахлівыя рэчы

**Уладзімір ВЯЛІЧКІН,** Брэст

# Уладзімір ВЯЛІЧКІН

Уладзімір Вялічкін у 1987 годзе скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў, дзе на ваенным факультэце прайшоў 3-гадовы курс па спецыяльнасці «Спецпрапаганда» (праца з жывой сілай праціўніка, ваеннапалоннымі і насельніцтвам на акупаваных тэрыторыях). Падчас знаходжання на ваеннай службе быў у наўпроставым падпарадкаванні Міністэрства абароны СССР, меў службовыя паездкі ў Лівію і Сірыю. Выкладаў англійскую мову ў Беларусі і Польшчы.

У 1986-1987 гг. працаваў у Нараўлянскім раёне Гомельскай вобласці на ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

З 1994 года прымаў актыўны ўдзел у мясцовых і парламенцкіх выбарах у якасці кандыдата, удзельнічаў у нацыянальных кампаніях па назіранні за выбарамі, назіраў за выбарамі ў міжнародных місіях (ва Украіне, Азербайджане, Кіргізіі, Казахстане, Германіі, Косава).

1998-2003 гады — старшыня Рады Брэсцкага абласнога аддзялення Грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр «Вясна». Пасля судовай ліквідацыі «Вясны», ад пачатку 2004 года з'яўляецца старшынёй Рады Праваабарончага грамадскага аб'яднання «Брэсцкая вясна», якая знаходзіцца ў стане перманентнай рэгістрацыі.

У 2007 годзе скончыў Каледж дзяржаўнага кіравання імя Станіслава Сташыца ў Беластоку (Польшча) па спецыяльнасці «грамадскае самакіраванне».

**— Спадар Уладзімір, што вас падштурхнула заняцца праваабаронай?**

— Калі Савецкі Саюз распаўся, я, як ваеннаслужачы, які служыў па-за межамі Беларусі, вярнуўся на Радзіму і пабачыў перамены, якія тут адбываліся. Калі праходзілі першыя прэзідэнцкія выбары, мяне цікавілі кандыдаты, якія ў іх удзельнічалі, партыі, іх праграмы. Я тады працаваў у 25-й школе Брэста і падчас выбарчай кампаніі запрасіў у школу прадстаўнікоў БНФ, тады практычна адзінай альтэрнатыўнай сілы, для сустрэчы з настаўнікамі. Самае цікавае, што дырэктар на словах не быў супраць і моўчкі ўспрыняў гэтае запрашэнне. Але, калі настаўнікі ўжо сабраліся, каб пагутарыць з гасцямі (а яны, дарэчы, былі выкладчыкамі нашага Брэсцкага ўніверсітэта), дырэктар заходзіць у залу і робіць абвестку: «Камуністы, на партыйны сход!». Канечне, палова залы адразу паднялася і пайшла, засталіся пераважна жонкі афіцэраў, якія працавалі настаўніцамі (сама школа знаходзілася побач з Паўднёвым гарадком, былой вайсковай базай). Мяне гэтая сітуацыя тады вельмі здзівіла, я быў далёкі ад палітыкі.

Падчас той сустрэчы з прадстаўнікамі БНФ настаўнікі задавалі пытанні, вялікая частка якіх тычылася мовы. Беларусь — незалежная дзяржава з беларускай дзяржаўнай мовай, а настаўніцы ў большасці ёю не валодаюць, бо яны — жонкі афіцэраў і прыехалі з усяго Савецкага Саюза... Таму і стаяла пытанне: як авалодаць беларускай мовай, каб нармальна выконваць свае прафесійныя абавязкі.

Для мяне гэта сустрэча была пэўным штуршком да беларускасці, беларускага адраджэння. Цікавасць да ўсяго альтэрнатыўнага саветчыне ў рэшце рэшт стала першым крокам на той шлях, які прывёў мяне пазней у «Вясну».

**— Вы былі афіцэрам, а сталі праваабаронцам. Якім быў гэты шлях? І ці дапамагае вам афіцэрскае мінулае ў гэтай працы?**

— Афіцэрскае мінулае — гэта проста афіцэрскае мінулае. Людзі ўсе розныя: адным падабаецца маляваць, другім — пісаць вершы, камусьці — трэба бараніць Айчыну...




«Чарнобыльскі шлях» у Брэсце. 2004 год.

Чаму я заняўся менавіта правамі чалавека? Таму што ў мяне заўсёды было неабыякавае стаўленне да несправядлівасці. І з гэтай несправядлівасцю я ўпершыню сутыкнуўся пасля інстытута. Калі ў школе ты яшчэ мала што разумееш і можна было чагосці не заўважаць, то па-іншаму многае бачыцца пазней. Я навучаўся ў мінскім «ін'язе», пасля заканчэння якога мяне накіравалі ў раёны, пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. І менавіта тады я сутыкнуўся з хамствам чыноўнікаў, пачаў бараніць спачатку свае правы, потым — іншых. Канечне, немагчыма было заплюшчыць вочы, калі старшыня калгасу ў гэтай самай Чарнобыльскай зоне, дзе я працаваў, падключаў свой гараж да ацяплення будынка

На вайсковых зборах пад Бабруйскам. 1986 год.





Уладзімір Вялічкін — удзельнік «Еўрапейскага маршу». Мінск, 2007 год.

школы: у выніку ў гаражы было цёпла, а ў школе халодна, і дзеці ў футрах сядзелі. Як можна было маўчаць?...

Потым было войска... Я служыў за мяжой. Усе зараз пра Лівію гавораць, а я там пэўны час знаходзіўся — у тыя, савецкія часы... У тых рэгіёнах, дзе давялося служыць і пазней, мы заўсёды бачылі шмат несправядлівасці і гора — і гэта з нашым досведам, набытым у, можна сказаць, экстрэмальных кропках... Напрыклад, у Грузіі падчас маёй службы жаўнеры лапатамі забівалі жанчын. 19 чалавек забілі, адну ў царкве нават... Як можна было пра гэта маўчаць? Я хацеў бы, каб такіх жаўнераў з лапатамі па вуліцах больш не хадзіла.

Будынак ААН. Жэнева, красавік 2009 года.





Прызрэн, Косава. Уладзімір Вялічкін з афіцэрамі KFOR NATA: злева палкоўнік Пауль, справа — обер-лейтэнант Баўн. Снежань 2009 года.



Брэст. Мітынг да 60-х угодкаў прыняцця Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Удзельнікі (злева направа): Зінаіда Міхнюк, Юрый Жыдовіч, Уладзімір Вялічкін. 10 снежня 2008 года.

Мне здаецца, што вялікая праблема заключаецца ў абыякавасці людзей: многія проста існуюць у сваім вузкім свеце, і пакуль іх не закране бяда, то яны шмат пра што не думаюць.

**— Я так зразумела, што Вы былі абаронцам Айчыны, а абаронцам людзей засталіся. Скажыце, калі ласка, якія справы найбольш характэрныя для Вашага рэгіёна?**

— Найбольш тыповае і абуральнае для мяне — гэта тое, што не працуюць адпаведным чынам дзяржаўныя органы, адказныя за абарону чалавека і права. Праваахоўныя органы ёсць, ёсць суды, пракуратура, і сама назва «праваахоўныя органы», здаецца, мусіць сведчыць пра іх функцыю — ахову права, але на самой справе

гэта не так. Для мяне гэта непрыймальна. Дзе пракуратура, якая павінна стаяць на варце законнасці ў гэтай краіне? Ізноў жа — суды... Суддзя павінна бачыць, хто правы, хто вінаваты, і мусіць прыняць адпаведнае — справядлівае — рашэнне. Але рашэнне прымаецца па тэлефанаванні ці па ўказанні, ці па нейкай толькі ім вядомай мэтазгоднасці. Як можна з гэтым мірыцца?

Калі сёння ідуць разборкі менавіта з неабыякавымі людзьмі, якія не баяцца сказаць «Не!» у такой цяжкай сітуацыі, то што казаць пра людзей, якія заўсёды маўчаць, баяцца ўсяго? З імі адбываюцца яшчэ больш жахлівыя рэчы, і пра іх ніхто не ведае.

**— Ці патраплялі Вы самі пад рэпрэсіі? І такое філасофскае пытанне: на Вашу думку, ці карысна для праваабаронцы хоць раз патрапіць у скуру таго, каго ён абараняе?**

— На гэтае пытанне хачу сказаць наступнае: было б вельмі карысна ў гэтую скуру патрапіць усім тым катэгорыям нашых дзяржструктур, якія займаюцца палітычным ці супрацьзаконным пераследам. І зазнаць гэты досвед на асабістай скуры. Пабываць у тых умовах, якія яны ствараюць для іншых.

Што тычыцца мяне, падчас выбараў 2006 года мяне затрымалі і вазілі на машыне па горадзе з мяшком на галаве каля гадзіны.




Косава. Каля помніка ў Джаковэ «Фенікс з міру». Лістапад 2009 года.

Потым пасадзілі на «суткі». Выпусцілі і ізноў пасадзілі, сустрэўшы на ганку. Потым, напярэдадні нашага агульнанацыянальнага свята 25 сакавіка затрымалі на вуліцы — абылгалі і зноў пасадзілі...

**— Колькі сутак агулам вы адседзелі?**

— Зараз наўскідку і не скажу, не згадаю. Затрыманні і пасадкі, на жаль, ужо даволі будзённыя падзеі... Як у тым кіно. Толькі ў кіно паказваюць часта, што там, за кратамі — рамантыка. Ніякая гэта не рамантыка, таму што дома застаецца сям'я, якая цябе чакае, хвалюецца, перажывае.

Ізноў жа, людзі розныя бываюць, не кожны разумее, што гэта ў пэўнай ступені ўчынак з вялікай літары — апынуцца за кратамі за свабоду, за правы чалавека. Часта людзі думаюць: «Ай, не проста так ён там сядзіць! Не проста так яго туды забралі!..» Нават быў такі выпадак з нашым юрыстам Уладзімірам Малеем, калі ён сеў на «суткі» і мне асабіста давялося пераконваць ягоную сям'ю, што нічога кепскага ён не здзейсніў, што апынуўся ў няволі за сваю праваабарончую дзейнасць. Сёння ягоная ўся сям'я лічыць, што ён правільна робіць і падтрымлівае яго.

**— Вас як праваабаронцаў добра ведаюць у горадзе?**

— Для ўладаў і многіх простых людзей правабаронцы часта ўяўляюцца гэткімі апазіцыянерамі — нават калі ты не займаешся палітыкай. Наша вядомасць часам ілюструецца кур'ёзнымі выпадкамі. Самы красамоўны з іх звязаны з бардам Зміцерам Бартосікам. Калісьці запрасілі мы яго да нас у Брэст — канцэрт зладзіць, песень паспяваць. Ён сеў у цягнік, паехаў і па шляху... згубіў адрас. Зміцер прыблізна ведаў, што месца, куды яго запрасілі, знаходзіцца непадалёк ад гатэля «Беларусь». Ён падышоў да гатэля і спытаўся ў мінакоў: «Гэй, людзі, а дзе тут якая апазіцыя?» І людзі паказалі яму на нашыя вокны! Думаю, гэта дастаткова красамоўны прыклад таго, што нас у горадзе шмат хто ведае. І, відаць, гэта і ёсць наш галоўны набытак...

**Гутарыла Таццяна Снітко**




Акцыя салідарнасці з Алесем Бяляцкім. Баранавічы, 2011 год.

# Зычу ўсім надзеі на лепшае!

**Сяргей ГОЎША,** Баранавічы

# Сяргей
# ГОЎША

Сяргей Канстанцінавіч Гоўша нарадзіўся 18 сакавіка 1949 года ў вёсцы Востраў Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Востраўскую сярэднюю школу ў 1966 годзе, пасля чаго два гады працаваў у Мінску аператарам газаразмеркавальных станцый. З восені 1968 па восень 1970 года праходзіў службу ў войску. З пачатку 1971 года па ліпень 1995 года працаваў на Баранавіцкім заводзе гандлёвага машынабудавання: два гады токарам механічнага цэха, затым, пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага інстытута (дзённага аддзялення) — інжынерам-тэхнолагам, начальнікам тэхналагічнага бюро, вядучым інжынерам-канструктарам.

Ад самога пачатку стварэння Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» з'яўляўся яго сябрам, абіраўся намеснікам і старшынёй Баранавіцкай гарадской Рады Партыі БНФ.

З 1991 па 1995 гады з'яўляўся дэпутатам Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў (вылучаўся ад Таварыства беларускай мовы).

З 1998 года з'яўляецца кіраўніком Баранавіцкага гарадскога аддзялення «Вясны».

Удзельнік міжнародных місій па назіранні за парламенцкімі і прэзідэнцкімі выбарамі на Украіне, адзін з арганізатараў назірання за выбарамі ўсіх узроўняў у Баранавічах.

Жанаты, выхаваў сына і дачку, мае пяць унукаў.

**— Спадар Сяргей, як Вы сталі праваабаронцам?**

— Да ідэі стварэння ў Баранавічах суполкі «Вясны» нас падштурхнуў наступны выпадак. Вясной 1997 года група нашых хлопцаў колькасцю 21 чалавек з розных партый і грамадскіх арганізацый паехала ў Мінск на санкцыянаваны мітынг. Але за дзве гадзіны да пачатку акцыі, калі мы накіроўваліся ў Чырвоны касцёл паслухаць службу, трох нашых сяброў без аніякіх падставаў арыштавалі, пасадзілі ў легкавую міліцэйскую машыну і павезлі ў пастарунак, а затым, як мы пазней даведаліся, на наступны дзень дваіх з іх асудзілі да розных штрафаў. І гэта нягледзячы на тое, што адзін з іх быў інвалідам 2-й групы. Яшчэ адзін наш сябра правёў тры дні ў міліцэйскім пастарунку. На наша пытанне: «За што вы людзей незаконна арыштавалі?» — падпалкоўнік міліцыі адказаў, каб хутчэй ішлі з плошчы, бо «выкліча большую машыну, і ўсіх туды завязуць». Мы запісалі прозвішча гэтага падпалкоўніка і распавялі пра гэты выпадак на мітынгу на плошчы Якуба Коласа. Мы, сведкі гэтых незаконных (злачынных) дзеянняў міліцыі, звярталіся са скаргамі ва ўсе інстанцыі, дайшлі нават да Генеральнай пракуратуры, але абараніць правы нашых сяброў так і не здолелі. Дадзены выпадак стаў апошняй кропляй, і мы вырашылі, што свае правы будзем цяпер бараніць самі.

У лютым 1998 года ў Баранавічах з'явілася суполка праваабарончай арганізацыі «Вясна», пазней была створаная грамадская прыёмная. У 2002 годзе Баранавіцкае аддзяленне ГА ПЦ «Вясна» было зарэгістравана ў Баранавіцкім гарадскім выканаўчым камітэце (пасведчанне №01-264 ад 28.05.2002 г). У зарэгістраваным статусе мы працавалі да 2003 года, пакуль «Вясна» не была закрыта Вярхоўным судом — з таго часу і дагэтуль мы працуем без рэгістрацыі. За час дзейнасці да нас у грамадскую прыёмную звярнулася каля чатырох тысяч чалавек. Ім была аказана юрыдычная дапамога, праведзены кансультацыі па прававых пытаннях. Многім мы дапамаглі скласці заявы ў пракуратуру і суды розных інстанцый. Акрамя таго, мы таксама займаемся пошукам адвакатаў і часам — сродкаў для тых, хто




Перад акцыяй да 60-годдзя Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Справа ад Сяргея Гоўшы — Вячаслаў Болбат, злева — Віктар Цяпін. Баранавічы, 2008 год.

не мае магчымасці аплочваць іх паслугі. Самі прымаем удзел у судовых паседжаннях у якасці грамадскіх прадстаўнікоў і назіральнікаў, збіраем і аналізуем факты парушэнняў правоў грамадзян, распаўсюджваем пра гэта інфармацыю праз наш цэнтральны офіс і незалежныя сродкі масавай інфармацыі.

**— Як самі адчуваеце, змяняецца ступень запатрабаванасці вашай працы?**

— Працы ў нас заўжды хапала, і менш яе не становіцца. Праблема прававой абароненасці чалавека асабліва актуальная ва ўмовах сучаснай Беларусі. Свавольства чыноўнікаў усіх узроўняў узрастае і адначасова змяншаюцца механізмы кантролю за іх дзеяннямі. Суды ў Беларусі не ўяўляюць сабой незалежную галіну ўлады: дзяржаўныя асобы па многіх справах указваюць суддзям, якое рашэнне павінна быць прынята, нярэдка выкарыстоўваецца для гэтага і тэлефоннае права. Квітнее непавага да асобы, няроўнасць перад Законам прадстаўнікоў

розных слаёў насельніцтва, жорсткасць пакаранняў, бюракратызм і валакіта. Нашы грамадзяне бачаць ва ўладзе не абаронцаў ад сваволства, а крыніцу гэтага сваволства.

**— Ці дапамагае Вам асабіста ваша ранейшая біяграфія (прафесія, знаёмствы і г.д.) абараняць правы чалавека?**

— Вядома, дапамагае. Па прафесіі я інжынер-механік. У свой час займаў пасады кіраўніка тэхналагічнага бюро механа-зборачнага цэха Баранавіцкага завода гандлёвага машынабудавання, вядучага інжынера-канструктара СКБ. Да таго ж я заўжды займаў актыўную грамадзянскую пазіцыю. Напрыклад, я быў адным са стваральнікаў Баранавіцкай арганізацыі ТБМ, з 1991 па 1995 год быў дэпутатам Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў (вылучаўся ад ТБМ), а ў 1995 годзе — кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Партыі БНФ па Баранавіцкай-Палескай выбарчай акрузе. Дарэчы, з васьмі прэтэндэнтаў па гэтай выбарчай акрузе я заняў тады другое месца. Мы з сябрамі бачылі, што выбары праходзяць з вялікімі парушэннямі заканадаўства, сабралі мноства такіх фактаў, зафіксавалі іх дакументальна і я адвёз іх у Цэнтральную выбарчую камісію ў Мінск і перадаў спадару Лазавіку. Так, гэтаму самаму Лазавіку, які і цяпер працуе, але вельмі змяніўся. Бо тады

Каля Дома-музея Тадэвуша Касцюшкі. Фальварак Мерачоўшчына Івацэвіцкага раёна. 2009 год.





Сяргей Гоўша з роднымі. Вёска Востраў Ляхавіцкага раёна. 2006 год.

ЦВК адмяніла выбары на маёй акрузе і нават прызначыла новыя! Мабыць, гэта быў ці не адзіны выпадак у Беларусі. Дзіва... Але тады яшчэ гэта было магчыма, цяпер — не.

**— Скажыце шчыра, ці лёгка было працаваць усе гэтыя гады?**

— Абараняць свае правы і правы грамадзян вельмі няпроста, гэта цяжкая праца, якая забірае вельмі шмат нервовай энергіі. Часам так стамляешся, асабліва ў такім узросце, як я... Але мяне трымае тое, што праваабарончая дзейнасць вельмі патрэбная людзям, бо без яе ўлада можа зрабіць людзей рабамі. І тым прыемней, калі ўдаецца аказаць дапамогу чалавеку ў барацьбе за свае правы!

**— Якія справы і выпадкі з вашым удзелам найбольш запомніліся?**

— Я добра памятаю ўсе справы і выпадкі, але, вядома, самым запамінальным стаў самы першы з іх, калі мы дапамаглі дзяўчыне з Баранавічаў. Пад Новы год, ідучы дадому з працы,

яна правалілася ў дзірку каля каналізацыйнага калодзежа, прысыпаную снегам, і моцна пашкодзіла калена. Дзяўчына доўга лячылася, патраціла шмат грошай на лекі і доўга не магла хадзіць. Маці яе не ведала, што і рабіць. Вось тут і спатрэбілася наша дапамога. Мы даведаліся, што дзяўчыне дапамагаў нейкі мужчына вызваць «хуткую дапамогу». Значыць, гэты чалавек мог быць сведкам падзеі. Мы далі абвестку ў мясцовую газету і, на наша шчасце, гэты мужчына адгукнуўся. Далей мы сабралі ўсе квіткі на лекі, даведкі з бальніцы пра стан здароў'я і іншыя дакументы і падалі ў суд. Тую справу мы выйгралі. Баранавіцкія камунальшчыкі, вінныя ў нанясенні шкоды здароўю чалавека, абавязаны былі па рашэнні суда выплаціць пацярпелай кампенсацыю дзесьці каля тысячы даляраў. Дарэчы, на другі дзень, даведаўшыся пра здарэнне, камунальшчыкі вельмі хутка забетаніравалі дзірку і адмаўляліся прызнаваць сваю віну. Але зноў жа дапамаглі суседзі, якія выступілі ў судзе і распавялі пра тое, якую кіпучую працу пабачылі на другі дзень. Справядлівасць узяла верх, і мы былі вельмі задаволены нашай першай перамогай. Гэта дадало нам сілы для далейшай дзейнасці.




Сяргей Гоўша з унукам Максімкам. 2009 год




Баранавічы. Акцыя супраць смяротнага пакараннння. 2010 год.




Падчас назірання за выбарамі прэзідэнта Украіны. Жытомір, 2010 год.

**— Чаму праваабаронцы ў некаторых людзей і ва ўладаў асацыююцца з апазіцыяй?**

— Юрыдычна адукаваныя, сумленныя грамадзяне, якія ўмеюць бараніць свае правы, уладамі ўспрымаюцца як дадатковы раздражняючы фактар. У нашай краіне ўсё ўладай падзелена на белае і чорнае. Той, хто не так думае і робіць, як яны — гэта ворагі. Улада ў Беларусі робіць што хоча, парушае законы, Канстытуцыю, а паколькі ўсе галіны гэтай улады падпарадкаваны аднаму чалавеку, дык ні пракуратура, ні суды гэтага «не заўважаюць». Але гэта заўважаюць праваабаронцы. Мы фіксуем парушэнні Выбарчага кодэкса падчас выбараў усіх узроўняў, прапануем змены ў яго, мы звяртаемся да міжнародных арганізацый. Аднак таму, хто хоча доўга кіраваць беларусамі, гэта не патрэбна, гэта яму перашкаджае асабіста. Вось таму ўсе

На радзіме Ігната Дамейкі. Мядзьведка Карэліцкага раёна. 2009 год.



структуры дзяржаўнай улады, усе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыіі маюць указанне бараніць гэтую ўладу, называюць праваабаронцаў палітыкамі, апазіцыянерамі. Магчыма, недасведчаныя грамадзяне і вераць у гэта. Але далёка не ўсе!

На жаль, чым даўжэй пры ўладзе знаходзіцца адзін чалавек, тым болей парушэнняў законаў, тым болей працы праваабаронцам. На вялікі жаль! Такі стан рэчаў патрэбна мяняць. Перамены саспелі і пераспелі. Мне вельмі хочацца бачыць нашу Беларусь свабоднай, заможнай еўрапейскай дэмакратычнай і прававой краінай, дзе б шанаваліся правы чалавека. У нас наперадзе вельмі шмат працы ў гэтым накірунку.

**— Што б Вы хацелі пажадаць сваім калегам, вясноўцам?**

— Споўнілася ўжо 15 гадоў «Вясне». Я віншую ўсіх сваіх сяброў з нагоды нашага свята, зычу ўсім моцнага здароўя, цярпення, захаваць неяк свае нервы ад стрэсаў, а таксама — кахання і надзеі на лепшае для сябе асабіста і для нашай роднай Беларусі. Жыве Беларусь!




Каля помніка пісьменніцы Ларысы Геніюш. Зэльва, 2010 год.

**Гутарыла Таццяна Снітко**




У навуковай лабараторыі ўніверсітэту Politechnika Warszawska пасля выпрабавання эксперыментальнай канструкцыі. 2011 год.

# Мы не дзелім людзей, а абараняем іх

**Зміцер САЛАЎЁЎ,** Наваполацк

# Зміцер САЛАЎЁЎ

Зміцер Салаўёў нарадзіўся ў 1973 годзе ў Наваполацку. У 1996 годзе скончыў будаўнічы факультэт Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, навучаўся ў аспірантуры, працаваў навуковым супрацоўнікам навукова-даследчага сектара ўніверсітэта. У 2003 годзе з-за актыўнай грамадска-палітычнай пазіцыі страціў працу. У 2004 годзе быў зарэгістраваны прыватным прадпрымальнікам — праектаванне і будаўніцтва. У 2006-2010 гг. працаваў у якасці кіраўніка будоўлі (рэканструкцыя помніка архітэктуры), намеснікам дырэктара (праектна-даследчая дзейнасць). Навучаецца ў дактарантуры (Wydzial Inzynierii Ladowej, Politechnika Warszawska), мае шэраг навуковых публікацый па выніках міжнародных канферэнцый.

З'яўляўся сябрам «Маладога Фронту», у 1998 разам з аднадумцамі заснаваў і ўзначаліў экалагічную моладзевую арганізацыю «Крок разам».

Адзін з заснавальнікаў «Вясны», са студзеня 1999 узначальваў Наваполацкую філію Праваабарончага цэнтра «Вясна» (з 2003 года — Міжрэгіянальны Праваабарончы цэнтр «Вясна паазер'я»).

Удзельнічаў у мясцовых і парламенцкіх выбарах як кандыдат, а таксама ў нацыянальных кампаніях па назіранні за выбарамі. Мае вопыт удзелу ў міжнародных назіральніцкіх місіях (Косава, Польшча, Азербайджан, Латвія, Украіна).

**— Зміцер, Вы былі навукоўцам, а сталі праваабаронцам. Чаму і як гэта адбылося?**

— Адно другога не выключае. Навукоўца — гэта мая прафесійная дзейнасць. Я і зараз з'яўляюся навукоўцам, вучуся ў дактарантуры, збіраюся абараняць доктарскую дысертацыю — у Польшчы, у Варшаве. Але ў Варшаве я буду абараняцца менавіта таму, што стаў праваабаронцам. І як мне было заяўлена рэктарам нашай «вучэльні», Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, «у Беларусі ўжо не абаронішся».

**— А тэма дысертацыі?...**

— Тэма датычыць сферы будаўніцтва. Тое, што я рабіў, паступіўшы ў аспірантуру ў 96-м годзе, і з чым пасля праводзіў эксперымент. Дарабіць усё не атрымалася, бо мяне звольнілі пасля таго, як мы ў 2000-м годзе «злавілі» прарэктара па навуцы, які фальшаваў выбары на адным з універсітэцкіх участкаў. Я і мой сябра Алег Кайдаў былі назіральнікамі. Алег таксама скончыў аспірантуру, але ў Мінску, абараніўся і працуе зараз за мяжой, ён спецыяліст па сонечнай энергетыцы...

А вось тады, у 2000-м годзе, мы з ім злавілі, як прарэктар па навуцы Фёдар Панцялеенка выкрэсліваў са спіса студэнтаў-выбаршчыкаў, каб «падагнаць» лічбу і забяспечыць яўку больш за 50 адсоткаў. Мы гэта зафіксавалі і заклікалі захоўваць законнасць. Некаторыя з сяброў камісіі нас падтрымалі. Напрыклад, Буракоў ад партыі камуністаў, якая зараз «Справядлівы сьвет», напісаў асабістае меркаванне, адзначыўшы, што гэта злачынства. Мы звярнуліся ў пракуратуру — і яна адмяніла вынікі па тым участку! Потым прыязджалі з Цэнтрвыбаркама, і, я так разумею, пракуратуры «параілі» гэтую справу замяць. Я яшчэ папрацаваў крыху ва ўніверсітэце, але калі мы зноў жа з Панцялеенкам сышліся на выбарах, калі балатаваліся ў абласны Савет, пасля гэтага я ўжо і месяц не папрацаваў.

Вельмі добра, што зараз польскі ўрад дае магчымасць навукоўцам, студэнтам, хто зазнаў нейкія праблемы з навучаннем, дысертацыяй, дарабіць свае працы, атрымаць




Зміцер Салаўёў — удзельнік экалагічнай акцыі ў Наваполацку каля крамы Даўгаўпілс. 2001 год.

нармальныя еўрапейскія веды, дыпломы. Я збіраюся недзе ўвосень ужо абараніць сваю дысертацыю і стаць доктарам тэхнічных навук.

**— А як заняліся абаронай правоў чалавека?**

— Я даўно займаўся грамадскай дзейнасцю. Наваполацк наш не вельмі вялікі, але студэнтаў шмат, і мы шмат што рабілі: абаранялі правы студэнтаў, займаліся экалагічнымі правамі. У нашым горадзе вялікія праблемы з экалогіяй, бо шмат прадпрыемстваў, і мы яшчэ ў 98-м годзе арганізоўвалі пікеты па гэтых праблемах. Дарэчы, добрыя пікеты, пасля якіх штосьці змянялася. Напрыклад, на Купалле арганізатары сабралі некалькі самасвалаў старых пакрышак і збіраліся падпаліць іх, а мы якраз у тым самым месцы ладзілі пікет супраць забруджвання... Экалагічнай інспекцыі, якую накіраваў гарвыканкам, мы проста паказалі: глядзіце, некалькі тон аўтапакрышак збіраюцца зараз падпаліць! Які будзе смурод, які будзе чад! Яны ўсхадзіліся, пабеглі кагосьці шукаць, але ўсе, хто загадаў у такім фармаце адсвяткаваць Купалле, нечакана аказаліся ў адпачынку. Тым не менш, самасвалы прыехалі зноў і згрузілі пакрышкі назад.

Мы таксама збіралі подпісы за стварэнне гарадскога пляжа: людзі адпачывалі ў лесе, на возеры, якое паміж горадам і заводамі, дзе вельмі брудна і небяспечна знаходзіцца. Дарэчы, пляж гарадскія ўлады да гэтай пары так і не пабудавалі. Трэба адзначыць, што досыць вялікі экалагічны падатак выплочваецца заводамі, і мы патрабавалі, каб гарадскія ўлады патлумачылі, куды яны грошы на экалогію інвестуюць, бо яны ж мусяць ісці і на здароўе, на яго зберажэнне. Але бюджэт вельмі закрыты, інфармацыю атрымаць складана, чыноўнікі не вельмі любяць распісваць, на што трацяцца грошы. Так што, пэўнай праваабарончай дзейнасцю мы займаліся, але такім саматужным чынам. Калі Алесь Бяляцкі прапанаваў заняцца правамі чалавека, я разумеў, што гэта шмат у чым супадала з тым, што мы з сябрамі рабілі дагэтуль, і мы яго прапанову падтрымалі. Была заснавана Наваполацкая філія «Вясны».

**— Часта людзі блытаюць праваабарончую дзейнасць з палітычнай. А Вы для сябе як паздзяляеце?**

— Я лічу, што ў нашай краіне настолькі дрэнна з правамі чалавека, што, калі чалавек змагаецца за грамадзянскія ці

Зміцер Салаўёў з дачкой Янай Воляй у Бярэзінскім запаведніку. 2011 год.





У бібліятэцы Кангрэса ЗША. 2005 год.

палітычныя правы, гэта часта ўспрымаецца, быццам чалавек займаецца палітыкай. Але калі чалавек за свабодныя выбары змагаецца, то гэта — праваабарончая дзейнасць! Таму што чалавек мае права на тое, каб ягоны голас быў улічаны, ён мае права балатавацца, мае права выбіраць, мець інфармацыю. А калі не лічаць яго голас? Тады парушаюць яго правы. У першую чаргу тое, чым я займаюся, — гэта правы чалавека. А з палітыкай гэта бывае звязана таму, што парушаюцца і палітычныя правы, і правы палітыкаў.

**— Найчасцей з якімі справамі даводзіцца сутыкацца ў вашым рэгіёне?**

— З самога пачатку дэмакратызацыі, адраджэння горад быў моцным у плане наяўнасці і колькасці дэмакратычных актывістаў. І зараз так ёсць: як бы ні запалохвалі людзей, ні выганялі з працы ці вучобы, людзі з'яўляюцца новыя.

У нас шмат спраў звязана са студэнтамі, напрыклад, з парушэннем права на асацыяцыю. Так, Кацярыну Салаўёву (яна мая аднафаміліца) асудзілі па крымінальнай справе за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі «Малады Фронт» па артыкуле 193-1. Пасля гэтага дзяўчыну выключылі з Полацкага

дзяржуніверсітэта. Выключаны таксама шэраг іншых студэнтаў-актывістаў, як Мікола Дземідзенка.

Разам з тым, мы бачым, што наш універсітэт актыўна атрымлівае гранты ад Еўразвязу па праграмах «Тэмпус», «Тасіс», а ўніверсітэцкае чынавенства ездзіць па замежжах. Яны нават развіваюць за грошы Еўразвязу студэнцкае самакіраванне! А насамрэч усё гэта фікцыя: фінансуецца БРСМ, ім набываецца абсталяванне, а пасля пішацца ў справаздачах, як усё добра. Гэта шыльда, на самой справе ніякага самакіравання там няма. Атрымліваецца, што, з аднаго боку, яны адлічваюць студэнтаў, з іншага — ездзяць па сваіх партнёрскіх універсітэтах у Швецыю, у Англію, здаецца, і ў Іспанію, і іх прымаюць там. Я лічу, што павінна быць студэнцкая і акадэмічная салідарнасць, што такога не павінна быць.

Хацеў бы заўважыць, што некаторыя арганізацыі ўлады нібыта не заўважаюць. Некалькі гадоў запар невядомыя асобы размалёўвалі свастыкамі горад. Я тры разы пісаў скаргі ў пракуратуру, каб узбудзілі крымінальную справу па гэтых фактах. Год таму такая справа была ўзбуджана. Як пісалі ў гарадской газеце, злавілі двух ПТВшнікаў, якія малявалі свастыкі на прыпынках. І замест таго, каб сур'ёзна расследаваць неафашысцкія праявы і давесці справу да разумнага канца, следчыя чамусці правялі вобыск у нас на офісе. Пры гэтым казалі: «А можа гэта вы самі малюеце свастыкі, а потым пішаце скаргі?» Сканфіскавалі абсталяванне, вяртання якога мы доўга

Акцыя на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Жнівень 2011 года.



дамагаліся. Пры гэтым следчы Іваноў сказаў, што РНЕ — гэта не фашысцкая арганізацыя. Такім чынам, атрымалася, што замест таго, каб займацца сваёй непасрэднай дзейнасцю, лавіць неафашыстаў, следчыя, скарыстаўшыся выпадкам, прыйшлі на офіс праваабаронцаў. Усё гэта вельмі непрыемна.

Мы бачым тут нейкую дваякасць. Улады не вельмі шчыруюць, каб выявіць неафашыстаў. І наадварот: тых, хто спрабуе звярнуць увагу да такіх праблем, яны спрабуюць прыцішыць.

**— Часта сутыкаецца ваша філія з перашкодамі з боку дзяржаўных органаў?**

— У нас былі два вобыскі, падчас якіх забіралі кампутары. Калі пасля апошняга нам вярнулі абсталяванне, то лёс канфіскаванага ў 2006 годзе невядомы. Пракуратуры ўсіх узроўняў адказваюць, што нічога не ведаюць пра гэта, а пракуратура Мінска напісала, што вобыск праводзіўся супрацоўнікамі КДБ па Віцебскай вобласці і параілі пашукаць там. З КДБ адказу мы так і не атрымалі.

**— Да вас прыходзяць, шукаючы абароны сваіх правоў, і людзі палітычна заангажаваныя, і простыя грамадзяне. Ці сталі б вы абараняць правы чалавека, які, дапусцім, падтрымлівае Лукашэнку?**

— Мы дапамагаем людзям, правы якіх парушаны ў розных сферах: працоўныя правы, жыллёвыя, у спрэчках з ЖКГ. У 2003 годзе мы збіралі подпісы за тое, каб у кватэрах не было халодна. Мы не пыталіся ў людзей пра іх палітычную прыналежнасць. Яны навапалачане, ім халодна — гэтага дастаткова. Некалькі сотняў скаргаў пайшлі ў гарвыканкам і ўлады заварушыліся, нешта пачалі рабіць, а да гэтага толькі аднекваліся... Гэта было маштабна, гэта не толькі адзін дом, а цэлы квартал замярзаў!

Мы ніколі не пытаемся, у каго якія перакананні, за каго чалавек галасаваў. Гэта права кожнага! Мы проста робім сваю справу — абараняем правы.

**Гутарыла Таццяна Снітко**



На брыфінгу ўдзельнікаў місіі назірання ENEMO за парламенцкімі выбарамі ў Малдове, г .Бэлць. 2009 год.

Запрашэнне ад Бяляцкага я лічыў за вялікую ласку і гонар, але гэта быў і пэўны выклік...

**Аляксей КОЛЧЫН,** Магілёў

# Аляксей КОЛЧЫН

Аляксей Колчын нарадзіўся ў 1972 годзе ў горадзе Сакаль Львоўскай вобласці (Украіна) у сям'і савецкіх інжынерных службоўцаў. Сярэднюю школу скончыў у Днепрапятроўску (1989), а вышэйшую адукацыю атрымаў у Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце па спецыяльнасці «інжынер-электрык» (1994). Пэўны час працаваў інжынерам-электрыкам, тэхнолагам, эканамістам. З 1995 — сябра БНФ «Адраджэньне», у 2000-2001 гадах быў сябрам Сойму Партыі БНФ. Паралельна з гэтым удзельнічаў у розных грамадскіх арганізацыях, ініцыятывах. У 2000-2004 гадах уваходзіў у Рабочую групу Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі. У 2009 годзе скончыў магістарскую праграму Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (Вільня), магістр палітычных навук. Сябрам Праваабарончага цэнтра «Вясна» з'яўляецца з 1998-га года, з 1999-га кіруе Магілёўскім абласным аддзяленнем арганізацыі.

Жанаты, выхоўвае дачку.

**— Аляксей, з Вашай біяграфіі бачна, што Вы спрабавалі сябе ў арганізацыях рознага накірунку. Ці свядома быў абраны шлях праваабароны?**

— Пачынаў я сваю дзейнасць з палітычнай актыўнасці, а праваабаронай стаў займацца па прапанове Алеся Бяляцкага. Ён быў для мяне на той час вялікім аўтарытэтам, якім застаецца і зараз. Мы не былі асабіста знаёмыя з Алесем, я бачыў у ім легендарную асобу, якая стаяла ля вытокаў Адраджэння. Канешчне, запрашэнне ад яго я лічыў за вялікую ласку і гонар, але, як я цяпер разумею, гэта быў і пэўны выклік. На той час я цікавіўся праваабарончымі пытаннямі, аднак не быў гатовы займацца гэтым сур'ёзна і прафесійна, і, тым не менш, усё пачалося...

**— То бок, Ваша праваабарончая дзейнасць пачалася менавіта з «Вясны»?**

— Так.

**— Вы кажаце, што на той момант яшчэ не вельмі ўяўлялі ўсе «наступствы» праваабарончай працы? Наколькі яна «абцяжарыла» Вашае жыццё?**

— Цяпер я разумею, што, калі пачынаў, не разумеў нічога насамрэч. Я зусім не ўяўляў, што такое грамадская дзейнасць, грамадзянская супольнасць, слаба ўяўляў усе тыя праблемы, якімі гэта суправаджаецца, асабліва ў нашай краіне. Канечне, тут дапамагла паліталагічная адукацыя, якая, скажам так, шмат што праясніла ў маёй галаве.

Што датычыць розных цяжкасцяў, то ў нашай краіне не толькі праваабарончай, але і любой іншай дзейнасцю займацца вельмі няпроста. Таму што дзяржава ў нас мае сваё ўяўленне пра грамадскую ініцыятыву: усё тое, што ініцыявана не ёй — з'яўляецца шкодным у яе разуменні, у разуменні сучаснага кіраўніцтва. Любая грамадская дзейнасць у нашай краіне няпростая, а тым больш праваабарончая, бо




Вільня, пікет насупраць беларускай амбасады. 2007 год.

праваабаронцы закранаюць самыя непрыемныя праблемы, завастраючы на іх увагу.

**— А ў асяродку звычайных людзей ці проста пазіцыянаваць сябе як праваабаронцу? Ці ўсе Вас разумеюць?**

— Тыя, хто звяртаюцца да нас па дапамогу, разглядаюць праваабаронцу як чалавека, які дапамагае аднавіць справядлівасць (у прынцыпе, і я сваю дзейнасць разумею менавіта так), і з імі кантактаваць дастаткова проста.

А адносна таго, ці лёгка прыйсці і сказаць: «я — праваабаронца», не — нялёгка. Няпроста нават сваякам сваім растлумачыць, бо ў нашым грамадстве яшчэ няма нармальнага разумення таго, хто такія праваабаронцы і чым яны займаюцца. Да таго ж дзяржава актыўна працуе на ўмацаванне негатыўнага іміджу праваабарончых арганізацый, праваабронцаў паасобку. З пункту гледжання дзяржавы праваабарона з'яўляецца маргінальнай дзейнасцю, і, натуральна, гэта мае свой адбітак. У беларускім грамадстве негатыўнага стаўлення да

праваабаронцаў няма, але існуе пэўнае непаразуменне: што гэта за людзі, навошта ім гэта трэба і чаму яны лічаць, што ім трэба камусьці дапамагаць. Тут ёсць над чым працаваць, у тым ліку і нам, праваабаронцам.

**— З якімі праблемамі найчасцей звяртаюцца людзі ў грамадскую прыёмную Магілёўскага аддзялення «Вясны»?**

— Падчас палітычных кампаній мы амаль заўсёды маем справы, звязаныя з палітычна матываваным ціскам, пераследам грамадскіх актывістаў. У перыяд паміж палітычнымі кампаніямі — такімі, як выбары ці нейкія іншыя грамадска значныя падзеі — больш даводзіцца займацца рознымі працоўнымі спрэчкамі, незаконнымі звальненнямі людзей з дзяржаўных прадпрыемстваў.

**— Існуе ўстойлівае меркаванне, што насельніцтва Беларусі найбольш цікавіць сацыяльна-эканамічнае становішча, а гра-**

Аляксей Колчын з дзецьмі. 2006 год.






Осла, назіранне
за парламенцкімі
выбарамі ў Нарвегіі.
2009 год.



Абарона магістэрскай
дысертацыі. ЕГУ, Вільня. 2009 год.



Каля Магілёўскага абласнога суда ў чаканні рашэння па справе
А.Фінькевіча. Аляксей Колчын — у цэнтры, справа — Барыс Бухель,
злева — Валянцін Стэфановіч. 2008 год.

**мадска-палітычныя праблемы — гэта праблемы далёкія для большасці. Некаторыя праваабаронцы пераконваюць, што гэта не так. А што паказвае Ваш досвед?**

— Я, хутчэй, згодны з гэтым. «Палітычныя» справы не вельмі тыповыя для шырокага грамадства. Палітычныя ці грамадскія актывісты, якія стала займаюцца сваёй дзейнасцю, — гэта не вельмі шырокі сегмент грамадства. Магчыма, самы актыўны, але не самы шырокі, на жаль.

Што тычыцца інтарэсаў і патрэбаў звычайных людзей, то абарона сацыяльных правоў, што «бліжэй да цела», можа стаць, скажам, першай прыступкай да таго, каб яны зразумелі, што трэба і варта дбаць пра іншыя свае правы. Верагодна, з часам людзі зразумеюць, што іх права на ўдзел у кіраванні краінай праз выбары ўплывае на выкананне і сацыяльных правоў, што гэтае права важна бараніць і нечага дамагацца. Я спадзяюся, што людзі, якія незаангажаваныя ў грамадскую ці палітычную дзейнасць, будуць актывізавацца менавіта праз дапамогу нашай грамадскай прыёмнай.




Берлін. Падчас назірання за парламенцкімі выбарамі ў Нямеччыне, перадвыбарчы мітынг Сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны. 2009 год.

**— Ці спрабуеце Вы ангажаваць кагосьці ў праваабарончую дзейнасць і, па-вашаму, ці ўдзячная гэта справа?**

— Спрабуем, але пакуль сказаць што гэтыя спробы паспяховыя — не выпадае. З большага мы накіраваны на моладзь, якая пачынае вызначацца са сваёй жыццёвай пазіцыяй, і спрабуем далучыць да нейкай элементарнай праваабарончай працы ці да асяродкаў, у якіх можна атрымаць пэўныя веды. Прынамсі, я заўсёды трымаю гэтую праблему ў галаве, бо гады ідуць, і нехта мусіць быць за намі.

У моладзевым асяродку, мне падаецца, больш развіты дэмакратычныя арганізацыі палітычнай скіраванасці. Магчыма, таму што палітычная дзейнасць больш зразумелая, там больш відавочная матывацыя. У праваабаронцы павінна быць абвостранае пачуццё справядлівасці, у чалавека душа павінна балець за тое, што ў краіне штосьці не так, што нешта не так на гэтай зямлі, некага крыўдзяць, некага трэба абараніць ці падтрымаць, аднавіць справядлівасць...

**— Як мяркуеце, беларускае грамадства і дэмакратычныя каштоўнасці — наколькі яны сумяшчальныя? Ці бывае пачуццё, што адстойваеце тыя каштоўнасці, якія большасць людзей не падзяляе ці ўвогуле не разумее?**

— На маю думку, людзі іх падзяляюць, але, хутчэй за ўсё, не разумеюць.

Трэба яшчэ адзначыць, што людзі ж не з неба зваліліся: яны выраслі і жывуць у той краіне, якая ў нас была і ёсць зараз, а ўвесь досвед прынамсі апошніх дзесяцігоддзяў, на жаль, не дае прыкладаў гэтых самых дэмакратычных каштоўнасцяў, якія б былі ўмацаваны ў дзяржаве. Таму, я думаю, нашыя людзі і ставяцца скептычна да вяршэнства дэмакратычных каштоўнасцяў. Мне падаецца, людзі проста лічаць, што ў нас гэта немагчыма прымяніць.

У пэўным сэнсе той палітычны рэжым, які існуе ў нашай краіне, выбудаваў сістэму, у якой для дэмакратычных каштоўнасцяў месца няма.

**— Увесь час ідзе гаворка пра неабходнасць удасканалення працы праваабаронцаў. На Ваш погляд, што неабходна, каб праваабаронцы ў Беларусі маглі атрымліваць пажаданыя вынікі ад сваёй працы?**

— Я абмяжуюся двума пунктамі.

Першы — лібералізацыя ў пытанні свабоды асацыяцый. Гэта значыць, каб людзі маглі вольна аб'ядноўвацца і легальна займацца сваёй дзейнасцю.

Другі — механізмы сувязі з грамадствам, з простымі людзьмі. Тут я маю на ўвазе вольныя СМІ, якія будуць ажыццяўляць сувязь гэтых асацыяцый з грамадствам. Калі гэтага другога пункту няма, паўстаюць праблемы і непаразуменні наконт таго, хто мы і што мы робім. Натуральна, калі мы ў падполлі і працуем напаўлегальна, то гэтыя пытанні яшчэ і перамнажаюцца паміж сабой.

**— Кожны чалавек мае права займацца праваабарончай дзейнасцю індывідуальна. Для Вас, як праваабаронцы, важна належаць да нейкай арганізацыі?**

— Для мяне важна. І я лічу за вялікі гонар працаваць у такой арганізацыі, як «Вясна».

Лічу важным менавіта супольнае вырашэнне грамадзянамі сваіх праблем, абарону сваіх інтарэсаў, чым яны займаюцца па ўласнай ініцыятыве, незалежна ад палітычных гульцоў, якія ёсць у краіне. Гэта менавіта тое, з чаго пляцецца тканіна грамадзянскай супольнасці, — кропкі агульнага дзеяння, салідарнай працы па любых пытаннях. Без гэтага ў нас не будзе грамадзянскай супольнасці з вяршэнствам дэмакратычных каштоўнасцяў.

**— Калі ласка, дайце азначэнне: Праваабарончы цэнтр «Вясна» — гэта...?**

— Вядучая праваабарончая арганізацыя ў Беларусі.

**— А што «Вясна» значыць для Вас?**

— Гэта родная арганізацыя, у якой шмат сяброў, паплечнікаў, людзей, якімі я магу ганарыцца, ганарыцца тым, што яны робяць. Спадзяюся, што і яны мною таксама. Гэта асяродак, у якім цябе разумеюць.

**Гутарыла Ірына Пракопчык**



Падчас акцыі салідарнасці з арыштаваным Алесем Бяляцкім у ягоны Дзень нараджэння. 25 верасня 2011 года.

# Іду па жыцці з «Вясной» у душы

**Марына Статкевіч,** Барысаў

# Марына Статкевіч

Першую палову свайго жыцця Марына Статкевіч пражыла ў Санкт-Пецярбургу (на той час ён яшчэ быў Ленінградам), дзе скончыла палітэхнічны інстытут па спецыяльнасці «інжынер-сістэматэхнік». У 1983-м годзе па сямейных абставінах пераехала ў Беларусь, у Барысаў. Мае беларускія карані — маці родам з Пінска. У праваабарончую дзейнасць прыйшла ў 2003-м годзе і прызнаецца, што з той пары ідзе па жыцці з «Вясной» у душы.

— Так атрымалася, што на працу ў «Вясну» ў 2003-м годзе я прыйшла зусім выпадкова: мая папярэдніца не бачыла сябе ў ролі праваабаронцы і прапанавала мне паспрабаваць...

**— Вось такім раптоўным быў Ваш прыход?**

— Так, сапраўды. Праўда, на той момант я ведала ўжо пра існаванне праваабарончай арганізацыі «Вясна». І толькі пра яе! Мне вельмі падабаўся Алесь Бяляцкі, я заўсёды чытала ягоныя інтэрв'ю — і там не было нічога, што б мне не спадабалася. Усё, што ён кажа і робіць — пераканаўча, узважана... І, напэўна, я пагадзілася на прапанову менавіта таму, што Алесь Віктаравіч мне вельмі падабаўся. «Добра папрацаваць побач з такім чалавекам!», — я памятаю гэтае сваё адчуванне...

Я падумала, чаму б не паспрабаваць, бо сысці заўсёды можна — калі ў мяне не атрымаецца ці я не апраўдаю даверу да сябе. Ужо восем гадоў у «Вясне» — і я ні хвіліны не пашкадавала, што са мной такая метамарфоза адбылася.

**— З цягам часу прыйшло ўсведамленне таго, што такое «Вясна»?**

— Праз зусім кароткі час я зразумела, што за «арганізм» такі наша «Вясна»... Вельмі спадабаліся людзі: ідэйныя, моцныя духам, яны бязмежна любяць Беларусь і родную мову. Зараз я вельмі люблю сваіх калегаў, пастаянна падтрымліваю з імі стасункі і вельмі рада таму, што ў мяне так шмат сяброў, чые меркаванні для мяне важныя, і сяброўства нашае я вельмі шаную.

Мяне перапаўняе гонар за тое, што «Вясна» — самая вядомая, самая паважаная. А гэта я бачу, калі размаўляю з простымі людзьмі. Вось калі кажаш, што ты прадстаўнік гэтай арганізацыі, то ў людзей адразу давер узнікае, прычым ва ўсіх — хто хоць крыху ведае, нешта чуў пра наш Праваабарончы цэнтр.

**— А што для Вас азначае быць праваабаронцам?**

— Праваабаронца — гэта гучыць годна... У нармальных дэмакратычных краінах да людзей, якія абараняюць правы




Падчас падарожжа ў Амстэрдаме. 2011 год.

іншых, ставяцца з вялікай павагай. У Беларусі, на жаль, нашая дзейнасць надзвычай абмежаваная. Тым не менш, асноўная мэта нашай дзейнасці — дапамагаць людзям! І не толькі юрыдычна-прававымі кансультацыямі, а ўсяляк...

**— Ці ёсць у Вашай праваабарончай практыцы выпадак, які ўзадваеце найчасцей?**

— Зараз вось узгадаўся, напэўна, адзін з першых выпадкаў, які скончыўся поспехам. Гэта было яшчэ ў самым пачатку маёй праваабарончай працы. Да нас звярнулася студэнтка, якую адлічылі з медыцынскай вучэльні (зараз гэта медкаледж), і яна вырашыла, што з гэтым пытаннем трэба разабрацца. Такая вось смелая дзяўчына была — пайшла наступам на дырэктара навучальнай установы. А канфлікт там быў у тым, што дзяўчына патрапілася на вочы дырэктару, калі курыла, а курыць у вучэльні было забаронена. Але яна рабіла гэта па-за тэрыторыяй

навучальнай установы. Аднак паколькі ў медвучэльні вялікая напружанасць з месцамі, то дырэктар, відаць, спрабавала гэтае месца для кагосьці вызваліць. Яна з вакна ўбачыла, што навучэнка курыць — і тут жа вывесіла загад пра яе адлічэнне. Даведаўшыся пра гэта, бацька дзяўчыны злёг у шпіталь, у яе маці таксама быў жудасны стрэс, таму што іх дачка толькі пару месяцаў правучылася, а паступіць туды вельмі нялёгка. І вучылася дзяўчына добра... Мы напісалі заяву на імя дырэктара, у якой прасілі пісьмова патлумачыць, на якой падставе яна прыняла рашэнне пра адлічэнне (у загадзе пра гэта фактычна не было ніводнага слова). І — загад пра адлічэнне тут жа знялі! Дзяўчына, вядома, была проста шчаслівая. Яе маці тэлефанавала і са слязьмі ў голасе выказвала падзяку за дапамогу. Я памятаю, што гэта першая нашая дапамога, хоць яна зусім мінімальная была, якая скончылася вось так паспяхова.

На жаль, у нашай працы не так шмат перамогаў... Аднак усё ж ёсць! Іх мала — але як яны радуюць...

**— А з якімі праблемамі Вам найчасцей даводзіцца працаваць?**

— Праблемы ў цэлым па краіне падобныя. Бо праваабарончыя праблемы, у аснове якіх ляжаць стасункі «ўлада-чалавек», у



Марына Статкевіч з сынам Кірылам падчас адпачынку ў Еўпаторыі. 2009 год.



Парыж, на прыступках Гранд Апера, 2011 год.

большасці сваёй «вырашаюцца» на карысць уладаў. Няма ў краіне незалежнага суда, парламента, мала незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Усё гэта трэба стварыць.

Фактычна за правы чалавека змагаюцца пераважна грамадскія актывісты. Простыя людзі, на жаль, у большасці вырашаюць свае жыццёвыя праблемы: размен кватэраў, падзел маёмасці і таму падобныя. І каб узровень прававой свядомасці ў нашым грамадстве ўзрос, грамадству неабходна спачатку страх пераадолець. «Па кроплі з сябе выціснуць раба» — гэта вельмі складана. Напісаць заяву на начальніка, які парушае твае правы, звярнуцца ў пракуратуру, каб разабраліся ў сітуацыі, — такі крок даецца вельмі цяжка, нашмат лягчэй махнуць рукой, таму як «усё роўна нічога не здолею дамагчыся». Усё ж на гэта павінен быць адпаведны ўзровень — і для разумення, што трэба змагацца за свае правы, і для пераадолення гэтага страху. Але страх пераадольны, калі сістэма зменіцца...

**— Ці заўсёды з нагоды Вашай дзейнасці знаходзіце паразуменне з тымі, хто побач — сям'я, сябры, суседзі, калегі... Ці адчуваеце ў звязку з гэтым нейкае асаблівае стаўленне да сябе з боку іншых людзей?**

— Мая сям'я і мае сябры ведаюць, чым я займаюся, падтрымліваюць і ўхваляюць мой выбар ... Мае дзеці, сын і дачка, часта кажуць «ганарымся табою»! А што тычыцца іншых — для мяне вельмі важна, каб маё сумленне было чыстае, каб мяне ўхвалялі мае блізкія ...

**— У Беларусі ў праваабароне мужчын і жанчын пароўну — не думаю, што надта памыляюся. А працаваць атрымліваецца нароўні. Ці складаней тут «слабому полу»?**

— У Беларусі ўсім несалодка прыходзіцца: і жанчынам, і мужчынам, і старым, і дзецям. Чалавечае жыццё ў Беларусі мала што вартае. Наша ўлада ставіцца да праваабаронцаў прыкладна так, як і да палітычнай апазіцыі.

**— Вы неаднаразова мелі магчымасць пазнаёміцца з працай замежных калег, праваабарончых арганізацый з розных краін. Што б хацелі пераняць у сваю працу і наколькі лічыце гэта магчымым?**

Марына Статкевіч з дачкой Марыяй. 2011 год.



— Я ўжо казала, што ў дэмакратычных краінах праваабаронцы — вельмі паважаныя людзі. Яны свабодна, бесперашкодна назіраюць за выбарамі, наведваюць турмы, вельмі шырока вядуць прыёмы грамадзянаў, выступаюць па тэлебачанні і ў розных СМІ, дапамагаюць людзям у судах і так далей. У нашай краіне пры існуючай уладзе ажыццяўляць усё пералічанае немагчыма.

**— Ці ёсць у Вас нейкая асабістая праваабарончая мара?**

— У мяне ёсць такая мара. Хачу, каб «Вясна» нарэшце была зарэгістраваная, каб на дзвярах нашага офіса з'явілася таблічка: «Праваабарончы цэнтр «Вясна». Барысаўская філія»... У мяне такая мара: у нас будзе свой офіс, дзе мы будзем працаваць (не думаючы пра тое, што вось зараз да нас прыйдуць і адбяруць усе кампутары, і не толькі адбяруць, але і нас усіх перасаджаюць проста за тое, што мы маніторым выбары), і што ў гэты офіс змогуць прыходзіць людзі... Наогул, у нас такі офіс быў, калі была рэгістрацыя, і людзі прыходзілі, ведаючы, што тут такая арганізацыя знаходзіцца. Быў пракладзены маршрут, можна было не даваць ніякіх абвестак — людзі ведалі, што ў гэтым месцы ім акажуць падтрымку. Вось я мару, што ў нас такі офіс зноў з'явіцца.

**— Марына, у праваабарончую дзейнасць Вы прыйшлі нечакана. Калі б гэтак жа нечакана надарылася магчымасць каардынальна змяніць напрамак сваёй працы, ці пагадзіліся б?**

— Не! Мне вельмі падабаецца і дапамагаць людзям, і працаваць у «Вясне». «Вясна» — гэта Каманда, я — у гэтай Камандзе! Дзякую за гэта свайму Лёсу!

**Гутарыла Ірына Пракопчык**




Дзень волі 25-га сакавіка ў Гародні. Віктар Сазонаў — адзін з арганізатараў. 2001 год.

Калі ты ў «Вясне» — ты пад пільным наглядам уладаў. І гэта таксама пэўная адзнака працы арганізацыі

**Віктар Сазонаў,** Гродна

# Віктар Сазонаў

Віктар Сазонаў нарадзіўся 18-га кастрычніка 1963-га года ў вёсцы Гальшаны Ашмянскага раёна Гарадзенскай вобласці. Там жа ў 1980-м годзе скончыў сярэднюю школу. У 1981-83-х гадах служыў у войску. З 1985-га года па сённяшні дзень пражывае ў Гародні.

Адукацыю гісторыка атрымаў у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Працоўны шлях прайшоў ад токара (на першую працу ўладкаваўся ў 16 гадоў у філіял Вільнюскага завода радыёвымяральных прыбораў у Ашмянах) да навукоўца (навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі ў Гародні).

З'яўляецца сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, публіцыстам, пісьменнікам, аналітыкам, праваабаронцам, палітыкам.

Кіруе Гарадзенскім абласным аддзяленнем Праваабарончага цэнтра «Вясна».

**— Віктар Сазонаў — асоба шматгранная. Перад гэтай гутаркай я ўвяла ў пошук Google Вашае імя — як праваабаронцы, як грамадска-палітычнага дзеяча і як пісьменніка і публіцыста. Па выніках пошуку ў якасці праваабаронцы Вы сустракаецеся ў Інтэрнэце 28 600 разоў, як лідар Гарадзенскай арганізацыі БСДГ — 426, як пісьменнік — 5 620. Цікава, як Вы асабіста расставіце прыярытэты ў сваёй дзейнасці?**

— Я б на першае месца паставіў патрыятызм і змаганне за сваю краіну, таму што з гэтага ўсё пачыналася. Пачыналася ўсё са змагання за беларускасць, за незалежнасць нашай краіны. Гэта было ў самыя маладыя гады, яшчэ ў часы Савецкага Саюза, калі мы проста былі вельмі наіўныя і думалі, што дастаткова прагнаць камуністаў — і жыццё наладзіцца само па сабе. І што толькі камуністы кепскія, а ўсе астатнія людзі добрыя. Калі высветлілася, што гэта не зусім так, што добрыя людзі сустракаюцца і сярод камуністаў, а кепскія — і сярод некамуністаў, давялося, пасталеўшы, выбіраць тыя віды дзейнасці, якія зноў жа прынясуць большую карысць той ідэі юнацтва — беларускай ідэі, незалежніцкай ідэі, пабудовы беларускай дзяржавы, у якой людзі жывуць больш-менш заможна, справядліва ў першую чаргу. Таму ў маім жыцці ёсць месца палітычнаму змаганню, грамадска актыўнай дзейнасці. І, безумоўна, праваабарончай дзейнасці — яна найбольш запатрабаваная на сённяшні дзень у грамадстве. Самае галоўнае, што аднадумцы, якія былі ў маладосці, туды таксама пайшлі змагацца — нягледзячы на тое, што ў нашай краіне гэта, на жаль, небяспечная дзейнасць.

Канечне, з аднога боку, ёсць невялічкія складанасці, альбо вялікія складанасці, па той прычыне, што падобная дзейнасць у нас не вітаецца і нават праследуецца, таму што яна замінае жыць тым людзям, у руках якіх сёння сканцэнтраваная ўлада, людзям, якія сёння прымаюць рашэнні, як палітычныя, так і іншага характару, што датычаць жыцця нашага грамадства. Але, з другога боку, гэта вельмі камфортна, таму што ты застаешся самім сабой. Ты вельмі шчаслівы тым, што табе папросту нічога




Пікет у падтрымку беларускай мовы.
Гродна, 2003 год.

не трэба выдумляць у сваім жыцці, а тое, чым ты займаешся, адпавядае твайму светагляду, адпавядае складу твайго характара. Адпавядае атачэнню вакол цябе — у цябе ёсць сапраўднае сяброўства, ёсць блізкія па інтарэсах людзі, з якімі ты можаш размаўляць, вырашаць нейкія пытанні, філасофстваваць на нейкія тэмы. І я вельмі рады, што застаюся ў гэтых шэрагах, я гэтым ганаруся.

Але я ганаруся не толькі тым, што я праваабаронца, а таксама і тым, што мне ўдаецца нешта пісаць, і людзі гэта чытаюць. Таму на сённяшні момант прыярытэты расстаўляюцца зноў жа на карысць той беларускай краіны, пра якую мы марылі, і мары юнацтва застаюцца.

**— Калі Вы ўжо пачалі казаць пра сваіх паплечнікаў і аднадумцаў, то з чаго пачалася вашая «Вясна» і што для Вас азначае сяброўства ў гэтай арганізацыі?**

— Яшчэ ў гады ранняга юнацтва я быў знаёмы са стваральнікамі «Вясны», у тым ліку і з яе кіраўніком Алесем Бяляцкім. І на пэўным этапе (не на самым раннім) мне папросту было прапанавана ўліцца ў шэрагі гэтай арганізацыі, што я з задавальненнем зрабіў. Таму што ўжо на той момант я сачыў

за дзейнасцю ўсіх арганізацый, у тым ліку і праваабарончых, і мне вельмі падабалася дзейнасць «Вясны», людзей, якія там працуюць. І я ўспрымаю за гонар для сябе, што знаходжуся са сваімі паплечнікамі і надалей, і разглядаю гэта як ацэнку з боку арганізацыі маёй дзейнасці на Гарадзеншчыне.

**— А ці адчуваеце Вы нейкія асаблівыя адносіны да сябе як да «вясноўца» з боку ўладаў, з боку насельніцтва?**

— Безумоўна. Скажам, калі ў чалавека ўзнікаюць нейкія праблемы з прадстаўнікамі ўлады розных узроўняў, то ён ідзе шукаць паратунку «ў апазіцыю». І калі ён звяртаецца ў любую



Віктар Сазонаў з Івонкай Сурвілай. З'езд беларусаў свету. Прага, 2005 год.



Чэхаславацкая Сацыялістычная Рэспубліка. Падчас службы ў савецкім войску ў дэсанце спецыяльнага прызначэння. Пасадка ў самалёт перад прыжкамі. 1983 год.



Віктар Сазонаў са Станіславам Шушкевічам.
Усебеларускі з'езд за Незалежнасць.
Мінск, 2000 год.

з партый, а там бачаць, што парушаныя яго правы, то адразу кажуць: «Ідзі ў «Вясну». То бок, людзей накіроўваюць у «Вясну» — арганізацыю, дзе «вашымі праблемамі зоймуцца». Мала таго, іншыя праваабарончыя плыні, якія бачаць сур'ёзнасць праблемы і разумеюць, што не могуць гэту праблему вырашыць, яны таксама раяць людзям звярнуцца ў «Вясну». І не глядзяць, што гэта арганізацыя, якую можна назваць канкурэнтам. Хоць, канечне, у нашай рэчаіснасці называць адзін аднаго канкурэнтамі нельга, з іншымі арганізацыямі мы паплечнікі, бо ідзем адным шляхам. Такім чынам, з боку гэтых людзей, грамадска-палітычных лідараў і актывістаў адразу адчуваецца, што ёсць арганізацыя «Вясна» і хто ты для іх, калі там працуеш. І ты разумееш, якую марку трэба трымаць.

Што тычыцца стаўлення з боку ўладаў, то тут усё зразумела: калі ты ў «Вясне» — ты пад пільным наглядам. І гэта таксама

пэўная адзнака працы арганізацыі. Таму што ўлада ведае, што гэта арганізацыя аўтарытэтная. А мы, на жаль, сёння маем уладу, якая хоча быць аўтарытэтнай толькі сама, аднак не можа зразумець, што, каб «слыць каралём, трэба быць каралём». Калі ты хочаш, каб людзі лічылі цябе аўтарытэтнай, трэба стаць аўтарытэтнай. Толькі і ўсяго...

**— Вы закранулі тэму апазіцыі. У масавай свядомасці праваабаронцы таксама апрыёры апазіцыянеры. Людзі, якія ўжо звярталіся да праваабаронцаў, пачынаюць разумець, хто гэта такія і чым яны займаюцца. Большасць жа насельніцтва трактуе дзейнасць праваабаронцаў як апазіцыйную, прычым, часам і з негатыўнай афарбоўкай...**

— Я б сказаў, што там, дзе мы працуем, гэта з'ява масавага характару не мае. Канечне, ёсць некаторыя выпадкі, калі мы прыходзім на нейкія акцыі — дзе нашым абавязкам з'яўляецца назіраць за тым, ці не парушаюцца правы грамадзянаў — і там бачым не толькі людзей з чыстымі вачыма, якія адстойваюць свае погляды, але і засланых правакатараў. І гэтыя людзі могуць паказваць пальцам і крычаць на публіку, што хтосьці прыслаў гэтых праваабаронцаў, хтосьці іх утрымлівае і іншыя падобныя рэчы. Але чым больш праходзіць часу, тым відавочней, што

З жонкай Галінай, дачкой Вольгай, сынам Уладзімірам. Поле каля вёскі Гудаўшчына, Ашмянскі раён.






Гродна. Віктар Сазонаў выступае на святкаванні 10-х угодкаў Дэкларацыі аб суверэнітэце 27-га ліпеня 2000 года.

публіка рэагуе на падобныя рэчы з разуменнем таго, што насамрэч адбываецца, і хто насамрэч гэтыя людзі. Таму негатыву з боку насельніцтва на сёння не адчуваецца.

А тое, што людзі ў адну кучу збіваюць усе арганізацыі і называюць іх «апазіцыяй», па вялікім рахунку, «заслуга» беларускага тэлебачання. Напачатку прапаганда намагалася са слова «апазіцыянер» зрабіць негатыў. Пасля хацела зрабіць, каб слова «апазіцыянер» асацыявалася з чалавекам, які хоча нешта знішчыць, некага на нешта падбухторвае, змагаецца супраць нейкага курсу, незалежна ад таго, добры гэты курс ці кепскі, але з тым, каб нешта ў краіне перавярнуць, а потым краіну ці нешта з гэтай краіны некаму аддаць-прадаць. Але — нічога страшнага!

Як бы ўлада ні старалася, не толькі слова «праваабаронца», але і слова «апазіцыя» ўспрымаецца большасцю насельніцтва ўсё з большай і большай надзеяй.

**— Яшчэ адно «агульнавядомае» меркаванне — пра аморфнасць беларусаў у справе адстойвання сваіх правоў. Як выглядае сітуацыя ў Вашым рэгіёне: ці хочуць гарадзенцы адстойваць свае правы?**

— Хачу сказаць, што хочуць. І я штодзённа цікаўлюся, якія і ў іншых рэгіёнах настроі. Магу сказаць, што там тое ж самае — хочуць гэтага і магілёўцы, і гомельцы, і ўсе астатнія беларусы. Зыходзячы з уласнага досведу, я не магу назваць беларускае насельніцтва аморфным і такім цяжкаватым да адстойвання сваіх правоў. Я магу сказаць, што беларускае грамадства не агрэсіўнае. І вось гэтую масавую неагрэсіўнасць часам успрымаюць як аморфнасць.

Калі мы паглядзім, колькі на сённяшні дзень людзей — пад неверагодна вялікім ціскам, пад неверагодна вялікай рызыкай для свайго лёсу, а часам нават для жыцця — актыўна адстойваюць свае правы, то ўбачым, што гэта даволі вялікі адсотак, якому можа пазайздросціць кожная нацыя. Не бывае такога, каб у нейкай краіне дзевяноста адсоткаў людзей пачалі змагацца за нейкую ідэю. Так, у дзень выбараў яны прыходзяць галасаваць там, дзе ёсць свабодныя выбары.

Прыкладам, мы памятаем, як узнікла ГКЧП, і колькі людзей выйшла з ім змагацца. Я б сказаў, дастаткова мала — таму што людзі баяліся і не было дазволена. Але святкаваць перамогу дэмакратыі ў Маскве выйшаў увесь горад, і ўсе людзі казалі, што якраз былі каля Белага Дома, адстойвалі і так далей. Калі няма чаго баяцца, тады людзі больш масава выходзяць.

Дык вось у нашай краіне ёсць чаго баяцца. І тое, што ў гэтай атмасферы ствараемага страху знаходзіцца так шмат людзей, якія адстойваюць свае правы, гаворыць пра вялікую смеласць нацыі, пра погляды эліты гэтай нацыі, пра іх планаванне будучыні краіны і пра тое, што яны гатовыя зрабіць краіну лепшай.

Таму я б нашую нацыю назваў дастаткова смелай, але не агрэсіўнай. Генетычна гэтая нацыя ведае і мае багаты досвед таго, што менавіта агрэсія можа прывесці да таго, што людзі пачынаюць нават з паплечнікамі тузацца. Таму людзі ідуць шляхам, які гандзізмам, можа, назваць і складана, бо гандзізм мае яскрава акрэсленую мэту, і кожны крок мае на мэце змяніць свядомасць як прыхільнікаў, так і праціўнікаў. Беларускі гандзізм — ён унутраны, яднальны: калі людзі ў пэўны час выходзяць паказаць, за што яны. Былі выбары — людзі выйшлі. Далей яны пайшлі займацца кожны сваімі справамі — і, тым не менш, яны чакаюць ад эліты чарговага кроку. Гэта ведае і ўлада, таму адбываюцца такія жорсткія рэчы.

У свой час я лічыў, што Заходняя Беларусь у сэнсе нацыянальнай ідэі, праеўрапейскіх поглядаў прасунулася больш за Усходнюю. І таксама ганарыўся тым, што я гарадзенец, я заходнік, што мы ў авангардзе. З гадамі я зразумеў, што гэта не так. З гадамі я зразумеў, што няма Заходняй і Усходняй Беларусі — уся Беларусь праеўрапейская. Гэта сядзіць у генатыпе ўсіх беларусаў. Нас можна надурыць на нейкі кароткі час, асабліва старэйшае пакаленне, якое слабейшае і не жадае пераменаў толькі таму, што папросту баіцца не выжыць у часы пераменаў. Але я б хацеў сказаць, што Беларусь — уся праеўрапейская, уся глядзіць туды ў сваім генатыпе.

**— Праваабаронцы адстойваюць правы людзей на выказванне свайго меркавання, нягледзячы на тое, падзяляюць яны гэтае меркаванне, жыццёвую пазіцыю, лад жыцця ці не. Ці ўзнікае часам жаданне пакрытыкаваць чалавека за «няправільныя» погляды?**

— Не. Калі чалавек прыйшоў да мяне са сваёй праблемай як да праваабаронцы, то пераконваць яго, што ён не правы і казаць: «слухай, калі ты настойваеш, я твае правы буду зараз адстойваць, але вось лепш, на маю думку...» — такога не бывае. Калі мяне вельмі моцна закране яго пазіцыя, то я магу сваё меркаванне ў друку выкласці, каб узмацніць свой погляд,

але старацца чалавека адгаварыць — на сённяшні дзень я гэтага не раблю. Хоць, сапраўды, прыйсці да гэтага ўдалося не ад пачатку.

Раней хацелася не пагаджацца з такімі людзьмі, але пачынаеш разумець, што чым я тады адрозніваюся ад гэтай улады. Толькі тым, што мае метады не такія жорсткія, што яны такія «трошачкі збоку» і з выразам твару мілым? То гэтае адрозненне не такое ўжо і моцнае.

**— Праваабаронцы павінны мець свабоду крытыкаваць — гэтага пункту гледжання прытрымліваецца камісар Рады Еўропы па правах чалавека Томас Хамарберг, крытыкуючы атакі на праваабарончыя няўрадавыя групы з боку ўладаў. А як лічыць Віктар Сазонаў: калі беларускія праваабаронцы такую свабоду займеюць, і што для гэтага павінна адбыцца ў нашай краіне?**

— Крытыкаваць павінен мець права кожны чалавек, прычым крытыка павінна быць прапарцыянальнай таму чалавеку, якога крытыкуюць. То бок, чым большая ўлада ў руках чалавека, тым больш у яго мажлівасцяў парушаць заканадаўства і тым больш у яго мажлівасці зрабіць нешта супраць іншых, зрабіць несправядліва. Чым больш чалавек становіцца публічным — тым большае ўзнікае права крытыкаваць гэтага чалавека за ягоныя дзеянні.

Зразумела, што ў нашай краіне мажлівасць свабодна крытыкаваць мы зможам атрымаць тады, калі зменіцца гэтая ўлада. Бо сама па сабе яна не зменіць свае погляды, у яе іншая структура. І таму свабоды на крытыку ў яе бок яна даць не можа.

Ад самога пачатку ўсталявання гэтай улады, калі яшчэ не было такіх рэпрэсіяў, якія ёсць сёння, у заканадаўства ўжо ўносіліся артыкулы, якія забараняюць крытыкаваць — спачатку галоўнага чалавека ў краіне, а пасля ўжо і іншых чыноўнікаў. Артыкулы за абразу.

Што такое абраза? Калі я выказаў свае думкі, якія не адпавядаюць думкам гэтага чалавека, то гэта ўжо і абраза

атрымліваецца? Такім чынам, я перакананы, што са зменай гэтай улады аўтаматычна адпадуць гэтыя артыкулы, і ў грамадстве аўтаматычна з'явіцца мажлівасць свабоднай крытыкі. Чаму? Таму што грамадства да гэтага саспела ўжо.

**Гутарыла Ірына Пракопчык**



Аляксей Лапіцкі.
Вільня, 2007 год.

# Асноўныя тэзісы па жыцці — за праўду і права

**Аляксей Лапіцкі,** Жодзіна

# Аляксей Лапіцкі

Аляксей Лапіцкі нарадзіўся 15 сакавіка 1963 года ў Гомелі ў сям'і настаўнікаў. Скончыў фізіка-матэматычную школу з залатым медалём і музычную школу па класе фартэп'яна. Таксама са школьных часоў займаўся настольным тэнісам, па якім з'яўляецца кандыдатам у майстры спорту. У 1985 годзе па сканчэнні Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту атрымаў спецыяльнасць «інжынер-будаўнік шляхоў зносін».

Жанаты, мае двух сыноў — 25-гадовага Алеся і 15-гадовага Янку.

Пасля аварыі на Чарнабыльскай АЭС у 1986 годзе пачаў шукаць магчымасці з сям'ёй перасяліцца з Гомеля. Праз некалькі гадоў пераехалі жыць у Смалявічы Мінскай вобласці, а пасля — у Жодзіна.

Магчымасці для самарэалізацыі знайшоў у грамадскай дзейнасці. З 2000-га года разам з жонкай Святланай Лапіцкай прадстаўляюць Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў горадзе Жодзіна.

**— Аляксей, з чаго пачыналася Ваша праца ў грамадскім сектары?**

— Я пачаў грамадскую дзейнасць у Жодзіна ў 1987 годзе. Прыглядаўся да арганізацый трэцяга сектара, заўсёды быў на плошчах. Памятаю, у часы, калі яшчэ не ўсталяваўся рэжым, на плошчах можна было адчуць паветра свабоды, патанчыць пад «Краму», NRM і выхоўваць дзяцей у гэтым духу, але не хапала беларускага асяродку. Узгадваю, дарэчы, калі пачалася беларусізацыя, мой старэйшы сын у школе першую пяцёрку атрымаў за тое, што адзіны з класа ведаў бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» і распавёў пра іх. Гэта ён запомніў назаўсёды!

З 1989 года пачаў рэальна рэалізоўвацца ў грамадскім жыцці. Мы ўтварылі ў Жодзіне цэнтр «Ліцвіны», а на яго базе — Беларускае згуртаванне моладзі «Ліцвіны». Таксама ўтварылі некалькі суполак і гарадскую арганізацыю Таварыства беларускай мовы імя Скарыны. Я быў ініцыятарам. І гэтая афіцыйная структура дала магчымасць існаваць іншым нефармальным ініцыятывам. Паралельна ў горадзе былі ўтвораны гарадская арганізацыя Партыі БНФ і грамадская арганізацыя БНФ «Адраджэньне». Яны з'явіліся да таго моманту, як Мінюст забараніў рэгістрацыю офісаў грамадскіх арганізацыяў па месцы жыхарства, і ў нас была магчымасць рэгістраваць іх па месцы жыхарства. На той час у Жодзіне, Смалявічах ды Смалявіцкім раёне грамадска-палітычнае поле адсутнічала, і ў нас была задума на падмурку беларускамоўнай пляцоўкі развіваць розныя актыўнасці. Задача была — пашыраць беларускую мову ў розных сферах, асяродках і праз розныя групы насельніцтва.

Хутка наша дзейнасць стала даволі заўважнай, і намі зацікавіліся мясцовыя ўлады і міліцыя — хацелі ведаць колькасць, канкрэтны спіс людзей, якія былі задзейнічаны ў нашых ініцыятывах. У нас узнікла вялікая колькасць праблем. Наменклатура застаецца фактычна старой загартоўкі і мысліць прыкладна такімі катэгорыямі: калі ёсць грамадская арганізацыя, то яна абавязкова павінна быць створана зверху і падкантрольная, як у Савецкім Саюзе. Грамадзянская ж




Па дарозе ў суд Смалявічаў на працэс над удзельнікамі акцыі маўклівага пратэсту. Смалявічы, 2011 год.

супольнасць, насамрэч, будуецца зусім па-іншаму — гэта ініцыятыва заўсёды знізу, гэта самаарганізацыя і арганізацыя людзей пад канкрэтныя праблемы. Цывілізаваная дэмакратычная дзяржава заўсёды ідзе насустрач такой актыўнасці і ўсяляк спрыяе яе развіццю, таму што грамадскія актывісты з меншымі выдаткамі робяць тое, што на прафесійнай аснове рабіць дзяржаве больш складана.

**— Ці памятаеце першы яскравы інцыдэнт, калі спатрэбілася прынцыпова адстойваць свае правы?**

— Быў у нас выпадак, калі хлопец з Беларускага згуравання моладзі «Ліцьвіны» Аляксей Падалякін распаўсюджваў газету «Свабода», і яго прыпынілі маладыя людзі адпаведнай знешнасці, якія тады свабодна далучалі сябе да экстрэмісцкіх

арганізацыяў кшталту РНЕ і, што цікавага, пры гэтым карысталіся лаяльнасцю сілавых установаў. Яны патэлефанавалі ў КДБ, і Аляксей быў затрыманы. Актывіста палохалі тым, што ён трапіў у КДБ, казалі, што гэты факт стане вядомы ў школе і на працы бацькоў, прымушалі яго напісаць прызнанне ў тым, што ён усё робіць за грошы. Хлопец спачатку адмаўляўся — яму пачалі пагражаць затрыманнем на трое сутак, пасля чаго ён быў вымушаны напісаць, аднак свядома «расцэнкі» пазначыў такія, што смешна было. Потым Аляксей прыйшоў да мяне і папрасіў, каб я абараняў яго інтарэсы. Мы звярнуліся ў пракуратуру, праводзілася разбіральніцтва. І я памятаю, што няёмка адчуваў тады сябе гэты кіраўнік КДБ, а пракурор — быў такі спадар Лісок з абласной пракуратуры — у выніку выклікаў бацькоў актывіста і папрасіў «замяць» гэтую справу. Натуральна, бацькі не хацелі нейкіх непрыемнасцяў у сябе на працы, таму забралі заяву. А з Аляксеем мы і зараз у добрых стасунках.

Раздача ўлётак у абарону А. Бяляцкага. Жодзіна, 22 жніўня 2011 года.






Са шведскім праваабаронцам Мацінам Углам. Вільня, Дом правоў чалавека. Кастрычнік 2011 года.



У зале Жодзінскага гарадскога суда. Абскарджанне забароны пікета ў абарону А.Бяляцкага. Кастрычнік 2011 года.




Разам з жонкай Святланай Лапіцкай падчас акцыі супраць смяротнага пакарання. Жодзіна, 2009 год.



Падчас роварнай акцыі па распаўсюдзе інфармацыйных матэрыялаў супраць смяротнага пакарання. Каля жодзінскага касцёла, 2010 год.

**— А ці шмат людзей, не заангажаваных у грамадска-палітычную дзейнасць, звяртаюцца па дапамогу да Вас як да праваабаронцы?**

— Такія выпадкі таксама ёсць. Заўважу, што гэтыя людзі хоць не належаць да партыяў, грамадскіх арганізацый, але яны таксама актыўныя. І гэта іх актыўнасць і неабыякавасць — ці то на працы, ці то падчас выбарчых кампаніяў — нараджаюць для іх праблемы. Мы працуем з парушэннямі правоў чалавека, што наўпрост звязана з уціскам альбо парушэннем канстытуцыйнага права чалавека з боку дзяржаўных структураў. Сёння далёка не ўсе разумеюць, што такое правы чалавека. У мяне асэнсаванне гэтага на больш моцным прававым падмурку адбылося, калі я прайшоў навучанне па праграме «Імплементацыя міжнародных нормаў права ў беларускае заканадаўства», якая ажыццяўлялася з дапамогай Сеткі дамоў правоў чалавека.

**— У Вашай сям'і ёсць свая праблема: вы гадамі змагаліся за магчымасць беларускамоўнага навучання для сына Янкі. Ці дасягнулі пажаданага выніку ў гэтай справе?**

— Можна сказаць, што гэта гісторыя была і застаецца станоўчым прыкладам, і мы б хацелі распаўсюджваць інфармацыю пра гэта. Я ведаю, што наш досвед скарыстоўваюць і ў Бабры Алесь Пушкін, і ў Брэсце людзі, якія ведаюць пра існаванне праграмы Міністэрства адукацыі пра тое, што мясцовыя ўлады абавязаны ствараць беларускамоўныя школы і плыні ў школах, і што гэта павінна рабіцца прыярытэтна. У нашай сітуацыі па наўпростым загадзе з Мінска быў канчаткова ліквідаваны беларускі клас, дзе навучаўся Янка. Мы апелявалі да суда, які фактычна адмовіўся вырашаць гэта ў межах зыску. Абскарджванне ў вышэйстаячых інстанцыях выніку не дало. У абласным судзе калегія суддзяў паводзіла сябе проста абразліва: замест суда па сутнасці пачала выступаць у ролі настаўніка-ідэолага і тлумачыць неразумным бацькам, што і як рабіць — варта навучаць па-беларуску ці не.

На паседжанні камісіі па справах непаўнагадовых выканкама, прадставіўшы дакументы, нам удалося патлумачыць, што мы

маем права далей навучаць сына па-беларуску, што рашэнне выканкама пра скасаванне навучання незаконнае, і дамагчыся, каб камісія абавязала аддзел адукацыі ў пяцідзённы тэрмін вярнуць навучанне для дзіцёнка. Аднак, пасля аднаўлення навучання па-беларуску, зноў-такі па тэлефанаванні з Мінска дырэктар навучальнай установы адмовіўся фізічна пускаць Янку ў школу. Гэта проста жахлівая рэч, калі дырэктар бегае і не дапускае дзіця ў памяшканне школы! Калі настаўнікі спрабавалі вучыць яго ў бібліятэцы, то і гэта ім было забаронена. А настаўніца англійскай мовы была выклікана да дырэктара і папярэджана. Яна — жанчына маладая, веруючая, беларускамоўная, цудоўны спецыяліст — вымушана была адмовіцца працаваць у гэтай школе і сышла адтуль. А перад самымі выбарамі нас выклікалі і прапаноўвалі вярнуць Янку ў школу на ўмовах, што гэта будзе нейкая праграма... Мы пагадзіліся, але папрасілі даць нам гарантыі, што ён давучыцца да канца гімназіі. Яны паабяцалі, што дадуць пісьмовыя гарантыі, але потым усё заглохла. І, як я разумею, гэта таксама быў пэўны загад, каб перад выбарамі зняць праблему, і каб нас, як праваабаронцаў, паставіць у залежнасць ад выканкама, каб мы не назіралі на выбарах. Дарэчы, была ўмова — каб мы не выстаўлялі потым гэтую інфармацыю як перамогу ў інтэрнэце. Гэта была адзіная ўмова. Я сказаў, што не магу гэтага гарантаваць, бо калі факт будзе — ён будзе, і чаму пра гэта не павінны ведаць людзі... Потым быў істэрычны выпадак, калі па нашых вокнах стралялі пасля публікацыі ў «Народнай волі» пра тое, што Янка перамог, вярнуўся да навучання. Я лічу, што ўлады вельмі балюча рэагуюць на публічную інфармацыю, ім вельмі не падабаецца, калі пра нашыя перамогі альбо неперамогі, канкрэтныя дзеянні чыноўнікаў і канкрэтную прававую ацэнку гэтых дзеянняў людзі могуць прачытаць і скарыстацца гэтай інфармацыяй.

**— З асабістага досведу скажыце: калі наперадзе стаіць сцяна чынавенства, ці варта ісці напралом?**



Сын Аляксея Лапіцкага — Янка каля прастрэленага і залітага фарбай вакна офіса «Вясны» ў Жодзіна. Кастрычнік 2005 года.

— Я б сказаў, што сцяна чынавенства заўсёды неаднародная. Ёсць спосабы адстойвання інтарэсаў, інфармацыйнага ўздзеяння, якімі трэба спрабаваць дамагацца сваіх законных мэтаў і адстойваць свае правы.

Я папросту не ўяўляю сябе прыніжаным. Маючы правы ад нараджэння, мы не можам, падаўляючы іх, адчуваць сябе шчаслівымі, не можам напоўніцу жыць камфортна ў сваёй краіне. А адчуванне, што мяне нешта прымушаюць рабіць, ставяць на ўзровень ніжэй за іншых людзей, абуджае да таго, каб, абараняючы сябе, сваіх дзяцей, блізкіх, пашыраючы гэта поле праваабароны, высвечваючы праблемы, заангажоўваючы іншых людзей — дасягаць свайго. І глядзіш — у гэтай сцяне адна-другая

цаглінка, тыя людзі, якія сімпатызуюць і разумеюць, у складаных сітуацыях падтрымаюць і паспрыяюць таму, каб перамагла праўда і права. Гэта асноўныя тэзісы па жыцці — за праўду і права, што дало б нам магчымасць жыць радасна, паважаць адзін аднаго і адчуваць сябе шчаслівымі ў сваёй краіне. Няхай мы будзем не на тым эканамічным узроўні, але мы будзем свабоднымі знутры, і ўсё астатняе прыкладзецца.

**Гутарыла Ірына Пракопчык**



Леанід Свецік.
2008 год.

# Вясноўцы годна адказваюць на выклікі

**Леанід СВЕЦІК,** Віцебск

# Леанід
# СВЕЦІК

Леанід Свецік нарадзіўся ў 1965 годзе ў горадзе Крычаве, што на Магілёўшчыне. Скончыў крычаўскую сярэднюю школу № 5. Вучыўся ў беларускіх ВНУ: Магілёўскім педагагічным інстытуце і Віцебскім тэхналагічным універсітэце, працаваў у розных навучальных установах Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай абласцей у якасці выкладчыка матэматыкі і інфарматыкі. У вольны час займаецца літаратурнай дзейнасцю. Друкаваўся як у мясцовых, так і рэспубліканскіх перыядычных выданнях. У 2006 годзе выйшаў у свет зборнік ягоных вершаў.

**— Спадар Леанід! Якія падзеі ў жыцці паўплывалі на рашэнне далучыцца да праваабарончай дзейнасці? Калі гэта здарылася?**

— Рашэнне аб тым, што я буду займацца праваабарончай дзейнасцю, паўстала не адным днём. Гэты працэс доўжыўся даволі працяглы час. Але пэўны штуршок, зразумела, быў.

У верасні 1999 года я, як і многія грамадскія актывісты нашага рэгіёна, падпісаў зварот да грамадзян краіны, у якім заклікаў не ўдзельнічаць у мясцовых выбарах, калі яны палічаць, што выбарчы працэс не адпавядае дэмакратычным нормам. Гэты зварот быў апублікаваны на старонках газеты «Народная воля». Праз некаторы час мяне выклікалі ў Крычаўскую раённую пракуратуру, дзе ўзялі тлумачэнні з нагоды майго публічнага прызыву да байкоту выбараў. На падставе матэрыялаў праверкі пастановай суда Крычаўскага раёна з мяне быў спагнаны штраф.

Чыста на інтуітыўным узроўні я зразумеў, што дзяржава пакарала мяне за тое, што я выказаў сваё меркаванне. Зыходзячы з гэтага, я паспрабаваў абараніць сваё права ў судах вышэйшых інстанцый, але так і не змог тады яго адстаяць у Беларусі. Гэта абурыла мяне і падштурхнула да таго, што ў 2000 годзе я звярнуўся ў Камітэт ААН па правах чалавека са скаргай на парушэнне маіх правоў беларускімі ўладамі. Мая скарга была прынятая Камітэтам да разгляду. З гэтага моманту я і ўсвядоміў сябе праваабаронцам.

**— Якімі якасцямі, на Вашу думку, мусяць валодаць людзі, што займаюцца праваабарончай дзейнасцю ва ўмовах таталітарнай дзяржавы?**

— Абараняць правы чалавека — вельмі адказная і грамадска значная справа. Яна патрабуе вялікіх інтэлектуальных і валявых намаганняў, мужных учынкаў. Зыходзячы з гэтых патрабаванняў, праваабаронца павінен быць разумным і валявым чалавекам, з цвёрдым характарам.

**— Але ж часам кажуць, што жаданне — гэта ўсяго толькі палова справы, яшчэ патрэбныя і адпаведныя веды? Якім чынам Вы павышалі адукацыйны ўзровень у галіне правоў чалавека?**




Леанід Свецік і Алесь Бяляцкі выходзяць з будынку суда. 2009 год.

— Я не маю юрыдычнай адукацыі. Але, як паказала праваабарончая практыка, гэтая акалічнасць не мае вызначальнага значэння ў нашай дзейнасці. Важней валодаць пачуццём права. Гэта значыць, неабходна ўмець выяўляць факт парушэння правоў чалавека, пачуццёва, а недзе нават і эмацыйна яго зафіксаваць. А ўжо калі дадзены факт знойдзены і зафіксаваны, надыходзіць час тэхналогій. Вось тут і патрэбныя спецыяльныя веды ў розных галінах права і валоданне юрыдычнымі працэдурамі. Гэтаму ўжо можна і трэба вучыцца. І найперш — шляхам самаадукацыі. Многае прыходзіць праз наведванне семінараў і трэнінгаў, а таксама ўдзел у адукацыйных праграмах.

**— Вы займаецеся праваабарончай дзейнасцю больш за дзесяць гадоў. Ці заўважылі за гэты час нейкія змены ў разуменні грамадзянамі сваіх правоў і свабод, ці сталі людзі больш дасведчанымі? І наколькі сёння грамадзяне Беларусі разумеюць ролю і функцыю праваабаронцаў у грамадстве?**

— Так, людзі паволі змяняюцца. І гэта эвалюцыянавала ў бок таго, што людзі пачалі ўсведамляць свае правы і разумець, што іх важна і патрэбна абараняць.

Беларускія праваабаронцы з'яўляюцца вельмі актыўнымі, і гэта дапамагае прасоўваць філасофію правоў чалавека шырокаму насельніцтву. Праз адну з асноўных сваіх функцый — аказанне кваліфікаванай прававой дапамогі — праваабаронцы атрымліваюць аўтарытэт у грамадстве, што дае ім магчымасці даносіць да людзей і прававыя веды.

Ужо склалася так, што людзі, якія страцілі надзею адстояць свае правы, рана ці позна прыходзяць да праваабаронцаў з апошняю надзеяй і верай, што там змогуць ім дапамагчы.

**— Ваша праваабарончая дзейнасць найбольш звязана з Віцебшчынай, і Вам добра вядома спецыфіка гэтага рэгіёну. Якія праблемы з правамі чалавека тут часцей узнікаюць?**

— Як у любым рэгіёне Беларусі, на Віцебшчыне з боку дзяржаўных органаў парушаюцца і сацыяльна-эканамічныя, і грамадзянска-палітычныя правы. Мусіць, такая прырода любой улады.

Заўважна, што апошнія пяць гадоў у Віцебскім рэгіёне назіраецца ўхіл на парушэнні грамадзянскіх і палітычных правоў. Найбольш часта з боку дзяржавы парушаюцца правы грамадзян на свабоду слова, сходаў і асацыяцый. Права на справядлівае судовае разбіральніцтва незалежным і бесстаронным судом — таксама ў ліку тых, што парушаюцца найчасцей.



Падчас раздачы праваабарончых матэрыялаў. 2009 год.




Леанід Свецік каля будынка Віцебскага абласнога суда. 2009 год.

На цяперашні час толькі з Віцебскай вобласці ў Камітэце ААН па правах чалавека зарэгістравана больш за 25 індывідуальных скаргаў віцябчан. Гэта складае 1/4 усіх скаргаў, якія паступілі ў КПЧ з Беларусі.

**— Многія праваабаронцы некалі актыўна ўдзельнічалі ў грамадскіх рухах альбо з'яўляліся сябрамі партый. Ці дапушчальна, на Вашу думку, займацца палітычнай дзейнасцю і ў той жа час — праваабаронай?**

— Зараз у нашай краіне любая грамадская дзейнасць мае палітычную афарбоўку. Таму, на мой погляд, не мае ніякага значэння, удзельнічае праваабаронца ў якой-небудзь палітычнай арганізацыі ці не, мае ён палітычныя прыхільнасці ці яны наогул адсутнічаюць. Галоўнае тут, каб палітыка не замінала праваабаронцу рабіць сваю працу — абараняць правы грамадзян.

**— Ці падтрымліваеце Вы стасункі з іншымі праваабарончымі ініцыятывамі ў Віцебску?**

— Адназначна. Праваабарончая дзейнасць будзе эфектыўнай толькі тады, калі ў ёй удзельнічае мноства арганізацый і проста праваабаронцаў-актывістаў. Таму без разнастайных кантактаў як на мясцовым узроўні, так і на ўзроўні краіны, у праваабарончай дзейнасці не абысціся. І асабліва важна падтрымліваць камунікацыі на рэгіянальным узроўні. Я — не выключэнне з гэтых правілаў. Так, у горадзе Віцебску я маю разнастайныя камунікацыі з такімі калегамі-праваабаронцамі, як Аляксандр Мікулін, Павел Левінаў, Валер Міснікаў, Аляксей Гаўруцікаў.

**— А ці можаце зараз узгадаць канкрэтныя справы, якія б сведчылі пра паспяховасць Вашай дзейнасці як праваабаронцы?**

— У 2004 годзе Камітэт ААН па правах чалавека разгледзеў маю скаргу і прыйшоў да высновы, што з боку беларускай дзяржавы было парушана маё права на свабоду выказвання меркавання. Дзякуючы гэтаму ў свой час з Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь быў прыбраны артыкул, згодна з якім прадугледжвалася пакаранне за публічныя заклікі да байкоту выбараў.

У 2009 годзе Канстытуцыйны суд Беларусі па маёй заяве прыняў рашэнне і абавязаў урад прывесці ўсю заканадаўчую базу,

Падчас суда над Леанідам Свецікам. 2009 год.



якая рэгулюе працоўныя адносіны ў краіне, у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі.

**— Чаму, на Вашу думку, дзяржава не любіць тых, хто абараняе правы чалавека?**

— Я ніколі не быў дзяржаўным чыноўнікам і не магу дакладна назваць прычыну іх «нелюбові» да праваабаронцаў. Але, аналізуючы дзеянні ўладаў у дачыненні да актывістаў праваабарончых арганізацый, а гэта найчасцей адмовы ад любога супрацоўніцтва, розныя санкцыі і рэпрэсіўныя дзеянні (адміністрацыйныя і крымінальныя пераследы,ператрусы, адмова ў рэгістрацыі праваабарончых ініцыятываў), то магу толькі казаць, што гэтая «нелюбоў» вельмі моцная.

**— Чым менавіта для Вас з'яўляецца Праваабарончы цэнтр «Вясна»?**

— Добра вядома, што гэта найстарэйшая праваабарончая арганізацыя ў нашай краіне, дзейсная і ініцыятыўная грамадская структура, якая вырашала, вырашае і — я спадзяюся — будзе вырашаць задачы па абароне правоў чалавека ў Беларусі яшчэ доўга. Упэўнены, што і ў далейшым «вясноўцы» будуць годна адказваць на сучасныя выклікі ў галіне грамадзянскіх, палітычных і сацыяльна-эканамічных правоў.

**— Ці маглі б Вы падзяліцца сваімі надзеямі і спадзяваннямі на будучае?**

— Спадзяюся, што неўзабаве прыйдзе час, калі ў Беларусі пачнуць супрацоўнічаць улады і праваабарончая супольнасць. Па сутнасці, мэты ў іх агульныя — паляпшэнне жыцця беларускіх грамадзян, пабудова справядлівай дзяржавы і адкрытага, вольнага грамадства.

**Гутарыў Сяржук Сыс**



На мітынгу каля опернага тэатра з гамельчукамі І.Адаменкам і В.Рэпніным. Мінск, сярэдзіна 90-х гадоў.

## Хочацца бачыць вольных людзей, якія б жылі без аглядкі на некага

**Анатоль Паплаўны,** Гомель

# Анатоль Паплаўны

Анатоль Паплаўны нарадзіўся ў пасёлку Асобіна Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці 21 красавіка 1958 года. Скончыў Гомельскую вучэльню №33. Пасля службы ў Савецкай Арміі 23 гады адпрацаваў на Гомельскім заводзе «Электраапаратура» рабочым. Больш за 15 гадоў займаецца праваабарончай дзейнасцю. Жанаты, мае дваіх дзяцей.

**— Спадар Анатоль, распавядзіце, калі ласка, пра сябе і Ваш шлях да праваабароны?**

— Мая маленькая Радзіма — Буда-Кашалёўшчына Гомельскай вобласці. У пасёлку Асобіна, утвораным у 1924 годзе, я скончыў пачатковую школу, а давучваўся ў мястэчку з «рамантычнай» назвай Камунар. У тыя часы звычайна бацькі раілі: бяжыце ад гэтай вёскі, ад гэтых праблем у гарады. Я не быў выключэннем, паступіў у вучэльню ў Гомелі. Перад войскам паспеў нядоўга папрацаваць. Але што рабіць далей? Заставацца дома, дзе ні працы добрай, ні перспектыў аніякіх? І таму ўладкаваўся на працу ў Гомелі. Гэта быў завод «Электраапаратура», на якім адпрацаваў 20 гадоў. Пачынаў вучнем лекальшчыка, інструментальшчыкам, а ўжо цікавасць да праваабарончай дзейнасці з'явілася пазней, у сувязі з вялікімі пераменамі ў грамадстве напачатку 90-х гадоў, калі з'явілася альтэрнатыўная інфармацыя. Былі і сустрэчы з больш дасведчанымі людзьмі. Я зразумеў, што існуюць зусім іншыя погляды на многія рэчы ў грамадстве, на сітуацыю ў постсавецкіх краінах. Тады я стаў задумвацца і пра палітыку. Можна сказаць, што свядомасць да мяне прыйшла праз Беларускі Народны Фронт.

Вось неяк здарыўся такі выпадак. Прыехалі мы з Гомеля ў Мінск разам з Уладзімірам Старчанкам, які на той час узначальваў гарадскую арганізацыю БНФ, каб прыняць удзел у акцыі. Падчас акцыі мяне затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Пасля хуткага суда — а тады затрымалі вельмі шмат народу — маладыя юнакі з «Вясны» падыходзілі да міліцэйскіх машын, дзе мы чакалі судоў, і распытвалі пра кожнага з нас. Мяне ўскалыхнуў такі клопат, што ёсць магчымасць не згубіцца недзе ў пастарунку, не прапасці, бо ёсць людзі, якія могуць дапамагчы, якія ведаюць, што трэба рабіць у такой сітуацыі. Гэта, відаць, і быў першы паварот у маёй свядомасці ў бок абароны правоў чалавека.

**— Да вас па дапамогу звяртаецца нямала людзей, якія часам не маюць уяўлення пра правы чалавека. Ці мяняецца іх пазіцыя ў дачыненні да праваабаронцаў пасля такіх зваротаў?**



Падчас распаўсюду незалежнай прэсы ў перыяд перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2006 года. Гомель.

— Са з'яўленнем у Беларусі інстытута прэзідэнства дзяржаўныя лейцы ў грамадстве яшчэ не былі моцна нацягнутыя. Ды і жаданне перамен у людзей было напачатку моцным. Людзі адчувалі сябе больш вольна і часта звярталіся з рознымі пытаннямі да праваабаронцаў, ведалі пра іх. Зараз сітуацыя больш складаная, паколькі многія сталі баяцца, каб пасля дапамогі з боку праваабаронцаў ім не стала яшчэ горш, больш асцярожнымі сталі. Па-ранейшаму актыўна звяртаюцца тыя, хто заангажаваны ў палітыцы, удзельнічае ў розных грамадскіх рухах. Шмат людзей наведвае нас падчас выбарчых кампаній, атрымлівае розныя кансультацыі. На жаль, многія непрынцыпова ставяцца да абароны сваіх грамадзянскіх і палітычных правоў, часцей адстойваюць сацыяльна-эканамічныя.

**— Якім павінен быць абаронца правоў чалавека?**

— Рэаліі сённяшняга дня патрабуюць, каб чалавек быў, безумоўна, адукаваным, дасведчаным у заканадаўстве, валодаў і

міжнароднымі прававымі інструментамі, і нацыянальнымі, ведаў інстытуты па абароне правоў чалавека. Сёння, напрыклад, юрыст нашай арганізацыі спакойна звяртаецца ў Камітэт па правах чалавека ААН, і гэта звычайная напрацаваная практыка. Ну і мужнасць у такой дзейнасці будзе нялішняй, таму што стасункі з уладай у праваабаронцаў у цяперашні час вельмі складаныя.

**— Ці змяніліся Вы самі за 15 гадоў дзейнасці ў праваабарончай сферы?**

— Калі займаешся любой грамадскай дзейнасцю працяглы час, безумоўна, гэта ўплывае і на чалавека, і на ягоны характар. Найперш ён робіцца больш свабодным, больш вопытным і адукаваным, што дазваляе цвёрда адстойваць перад уладамі сваю правату. Я тут не выключэнне.

Зразумела, што напрацоўваюцца і пэўныя веды. Праз самаадукацыю, спецыяльную літаратуру, асабліва напачатку. Калі ў нашым рэгіёне стварылася аддзяленне цэнтра «Вясна», з'явілася магчымасць праходзіць адмысловае навучанне па



Анатоль Паплаўны на Браслаўскіх азёрах. 2009 год.




У Хатыні. 2009 год.



Каля касёла ў Мосары. Манумент Божай маці, якая аплаквае знятага з крыжа Ісуса. Ліпень 2009 года.

правах чалавека. Усё гэта прыдае прафесіяналізму і ўпэўненасці ў стасунках з уладай, з праваахоўнымі органамі.

**— У другім па велічыні горадзе Беларусі дзейнічае не толькі «Вясна»?**

— Раней у Гомелі спрабавалі займацца абаронай правоў працоўных, досыць актыўна ў сярэдзіне дзевяностых дзейнічаў Свабодны прафсаюз. Напачатку прафсаюз дапамагаў адстойваць

правы прадпрымальнікаў, а затым пашыраў сваю дзейнасць. Я тады яшчэ пярвічную арганізацыю стварыў на сваім прадпрыемстве. Мы дамагліся таго, што нас прызналі афіцыйна і зарэгістравалі. А калі прыйшоў этап заключэння калектыўнай дамовы — то хутка гэта ўсё скончылася. Затым утварылася філія «Вясны», з'явіліся прадстаўнікі Беларускага Хельсінскага камітэта.



Падчас другога Форуму беларускіх праваабаронцаў. Вільня, 2010 год.



Пасля суда над палітпрызыўніком Зміцерам Жалезнічэнкам. Студзень 2008 года.

Сёння актывізаваліся моладзевыя ініцыятывы экалагічнай накіраванасці, вернікі таксама аб'ядноўваюцца, каб адстойваць свае рэлігійныя правы. З'яўляюцца людзі, якія выступаюць са сваімі больш вузкімі праваабарончымі ініцыятывамі.

**— Ці існуюць нейкія спецыфічныя адметнасці фактаў парушэння правоў чалавека ў Вашым рэгіёне?**

— Для Гомеля найбольш характэрныя праблемы, звязаныя з аховай здароўя, з постчарнобыльскім жыццём. Сродкі дзяржаўныя ўкладваюцца значныя, але станоўчага эфекту людзі не заўважаюць. Застаецца высокім узровень смяротнасці, не змяншаецца захворваемасць. А яшчэ вялікі траўматызм на прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы. Рэальныя маштабы гэтых праблем хаваюцца ад насельніцтва за лічбамі поспехаў, якія застаюцца на паперы. Усё гэта ў большасці паслячарнобыльскія праблемы, якія ўладамі старанна закамуфліраваныя.

**— Ці адчуваеце Вы задавальненне ад сваёй працы?**

— Найперш існуе разуменне, што мы робім неабходную і важную справу. Не навіна, што калі чалавек звяртаецца па дапамогу да адваката, то той, асабліва калі трэба адстойваць прынцыповыя пытанні, што закранаюць стасункі з уладай, нярэдка з вялікай неахвотай гэта робіць. Тады людзі ўспамінаюць пра нас, праваабаронцаў. Але быць цалкам задаволеным сваёй працай не выпадае, паколькі ў сённяшніх умовах у праваабаронцаў мала магчымасці дапамагчы кожнаму, хто адчувае ў гэтым патрэбу.

Я не стаміўся ад такой дзейнасці, паколькі веру, што некалі і ў праваабаронцаў усё будзе добра. Хочацца ў гэты гістарычны і складаны перыяд зрабіць хоць маленькі свой унёсак у перамены да лепшага. Хочацца бачыць вольных і свабодных людзей, каб яны жылі без аглядкі на некага.

**Гутарыў Сяржук Сыс**



Васіль Леўчанкаў і скульптурная кампазіцыя «Восень паэта». Вёска Ляўкі Аршанскага раёна, дзе размешчаны філіял музея Янкі Купалы. 2006 год.

# Ад прафсаюзнай дзейнасці да праваабароны

**Васіль Леўчанкаў,** Орша

# Васіль Леўчанкаў

Васіль Леўчанкаў нарадзіўся 1 траўня 1956 года ў вёсцы Гарадцы на Браншчыне. У 1978 годзе скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут, атрымаў спецыяльнасць інжынера-радыётэхніка. Амаль дваццаць гадоў працаваў радыёінжынерам на прадпрыемстве «Лёс» у Барані. З 1999 года актыўна працаваў у Свабодным прафсаюзе Беларускім, з 2004 — у Свабодным прафсаюзе металістаў.

**— Спадар Васіль! На Аршаншчыне раней Вас ведалі як стваральніка аднаго з першых незалежных прафсаюзаў, а цяпер Вы займаецеся абаронай правоў чалавека ў сваім рэгіёне. Што паўплывала на змену прафесійных арыенціраў?**

— Так, сапраўды, я прыйшоў да праваабарончай дзейнасці праз прафсаюз. Спачатку я звяртаў увагу на шматлікія парушэнні правоў працоўных і стварыў прафсаюз працоўных на сваім прадпрыемстве. Потым стаў глядзець на гэтыя з'явы крыху шырэй: парушаюцца ж не толькі сацыяльныя правы. У сапраўднасці, у грамадстве адсутнічаюць рэальныя магчымасці стварыць арганізацыю, немагчыма вольна распаўсюджваць інфармацыю, нават правесці пікет для выказвання сваіх меркаванняў практычна нельга. У такіх выпадках абарона ў тым ліку і сацыяльных правоў ставілася пад вялікае пытанне. Бо калі няма ўмоваў, калі табе заціснулі рот, то як іх можна бараніць? Вось прыкладна 5 год таму я і прыйшоў у праваабарончую дзейнасць праз прафсаюз.

**— Якімі, на Ваш погляд, якасцямі мусіць валодаць чалавек, каб займацца праваабарончай дзейнасцю?**

— Як сказаў некалі адзін амерыканскі палітычны дзеяч, законы выконваюцца не таму, што яны на паперы, а таму, што знаходзяцца мужныя людзі, якія прымушаюць уладу іх выконваць. Таму я лічу, што, каб абараняць правы чалавека, трэба мець найперш мужнасць. А таксама кожнаму праваабаронцу патрэбнае пачуццё звычайнай чалавечай справядлівасці.

**— Але ж для таго, каб годна займацца праваабарончай дзейнасцю, трэба яшчэ і валодаць пэўнымі ведамі? З якіх крыніцаў свае веды назапашвалі Вы?**

— Першым, пра што я даведаўся, калі пачаў цікавіцца правамі чалавека, была Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. А потым, калі стаў паглыбляцца ў тэму, даведаўся пра існаванне Міжнародных пактаў ды іншых дакументаў. Калі параўноўваць правы чалавека і правы працоўных, то Канвенцыі МАП — такія ж абавязковыя для Беларусі акты, як і, напрыклад, Міжнародны пакт аб грамадзянскіх



Орша, мітынг з удзелам кандыдата ў прэзідэнты А. Мілінкевіча. Васіль Леўчанкаў за ўдзел у акцыі быў арыштаваны на 7 сутак. 24 лютага 2006 года.



Орша. Актывісты сустракаюць мастака Алеся Пушкіна пасля адбыцця ім арышту за спробу ўдзелу ў бардаўскім фэсце «Аршанская бітва-2007». 16 верасня 2007 года.

і палітычных правах. Я вывучаў тэксты канвенцый, пактаў, чытаў спецыялізаваную літаратуру. Вядома, істотна дапамагалі і зносіны з іншымі праваабаронцамі. На праваабарончую тэматыку праходзілі адмысловыя семінары і школы, у якіх я стараўся браць удзел. Калі ж больш падрабязна вывучыў міжнародныя прававыя нормы, то пабачыў, што тыя краіны, дзе гэтыя нормы выконваюцца, — гэта зусім іншы свет! На мой погляд, нашы людзі не разумеюць гэтае адрозненне, не разумеюць, што нашмат лепей, калі такія нормы выконваюцца ў кожнай краіне, калі людзі маюць рэальныя, а не дэкларатыўныя правы і свабоды.

**— З якімі праблемамі найчасцей сутыкаюцца людзі, чые правы Вы абараняеце?**

— Мне падаецца, што ва ўсёй Беларусі яны аднолькавыя. Калі казаць пра палітычную ці грамадскую актыўнасць, то трэба адзначыць, што зарэгістраваць сёння арганізацыю, напрыклад, прафсаюзную, амаль што немагчыма. І тут першай перашкодай паўстае праблема юрыдычнага адраса. Але, скажыце, навошта прафсаюзу на канкрэтным прадпрыемстве адмысловы юрыдычны

Страсбург. Васіль Леўчанкаў каля будынку Савета Еўропы. 2008 год.





Еўрапейскі суд па правах чалавека. Страсбург, 2008 год.

адрас, калі ўсяго там у прафсаюзе агулам чалавек 15-20? Раней такіх жорсткіх патрабаванняў не было. Тое ж самае тычыцца пікетаў. Раней аніякай праблемы не было сабрацца недзе, стаць і выказваць сваю думку. Зараз права на пікет абцяжаранае рознымі бюракратычнымі рагацінамі: патрабуюць дамовы з пажарнымі, медслужбамі, камунальнікамі. А за гэта яшчэ трэба плаціць. Але навошта ўсё гэта? Я не разумею, чаму мы павінны плаціць, калі мы, як грамадзяне, і так плацім падаткі. Усе гэтыя службы і без дадатковых грошай павінны працаваць: і міліцыя, і пажарныя, і медыцынская дапамога. Многія актывісты сутыкаюцца ў нас у рэгіёне з тым, што немагчыма правесці звычайны пікет. І судзіліся мы па гэтым пытанні неаднойчы, але, на жаль, безвынікова.

Другое пытанне — гэта парушэнне правоў працоўных. Калі ўвялі кароткатэрміновыя працоўныя кантракты, людзі перасталі валодаць рэальнымі магчымасцямі адстойваць свае правы. Таму што з любым нязгодным працаўніком цяпер можна проста не працягнуць кантракт. І атрымліваецца пры гэтым, што кіраўніцтва прадпрыемства паступае законна. На мой погляд, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ўвесь час толькі пагаршаецца.

**— Вельмі часта праваабаронцаў улады запісваюць у лагер палітычнай апазіцыі. Наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці?**

— Думаю, што ўлады адмыслова падманваюць грамадзянаў. Вядома, што праваабарончая дзейнасць не з'яўляецца дзейнасцю палітычнай. Мы займаемся абаронай не толькі і не столькі палітычных, але і грамадзянскіх, сацыяльных, культурных правоў. Наша дзейнасць скіраваная на тое, каб абараніць людзей ад улады. Такая дзейнасць неабходна ў любой краіне, бо ўлада — гэта такі інстытут, які заўсёды будзе наступаць на грамадзянаў, і іх трэба абараняць.

**— Ці не застанецеся Вы без працы, калі ў краіне зменіцца ўлада ды ўсталюецца дэмакратыя?**

— Без працы мы не застанемся: пры любой уладзе будуць парушэнні правоў чалавека. Я толькі спадзяюся, што пры іншай уладзе ў людзей будзе больш магчымасцяў свае правы абараняць, асабліва на нацыянальным узроўні. Але ж парушэнні заўсёды будуць, пакуль будзе існаваць улада.




Чарнігаў, Украіна. Васіль Леўчанкаў і Сяргей Сыс. 2007 год.

**— Як Вы можаце ацаніць ролю Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў беларускім грамадстве?**

— Мне здаецца, што Праваабарончы цэнтр «Вясна» робіць надзвычай важную і неабходную для людзей працу. Гэта зразумела хаця б па тым, што калі б не было такой дзейнасці, то не было б жорсткага прэсінгу «Вясны». Спачатку яе пазбавілі рэгістрацыі, затым пры неаднаразовых спробах зноў зарэгістравацца адмаўлялі ў гэтым, выносілі яе сябрам папярэджанні за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі па артыкуле 193.1 Крымінальнага кодэкса. Вось такая ацэнка ўладамі нашай працы.

**— Як Вы ацэньваеце перспектывы сітуацыі з правамі чалавека ў нашай краіне?**

— Мне падаецца, што без змены падыходаў дзеючай улады да правоў чалавека змяненне сітуацыі ў нашай краіне немагчымае. З кожным годам робіцца толькі горш, заканадаўства становіцца больш рэпрэсіўным і нейкіх перспектываў не бачна. Абмежаванні шматлікіх правоў уводзяцца дадатковымі падзаконнымі пастановамі ці ўказамі, як, напрыклад, у выпадку з тэрміновымі кантрактамі для працоўных.

**— Дык і эфектыўнасць праваабарончай працы ў такіх стасунках, відаць, таксама не надта высокая?**

— Не зусім так. Калі мы будзем надалей рабіць сваю справу, будзем адкрыта казаць пра праблемы з правамі чалавека, інфармаваць грамадзянаў нашай краіны і міжнародную супольнасць аб іх парушэннях, сітуацыя рана ці позна палепшыцца. Людзі ўрэшце зразумеюць, што яны маюць правы. І ўлада зменіцца. Таму наша дзейнасць значным чынам уплывае на сітуацыю ў краіне.

**Гутарыў Сяржук Сыс**




Мазыр, выбарчы участак №17. Уладзімір Целяпун побач з назіральнікамі ад «Белай Русі» і БРСМ. 19 снежня 2010 года.

# Праз вырашэнне чарнобыльскіх праблем — да абароны правоў чалавека

**Уладзімір Целяпун,** Мазыр

# Уладзімір Целяпун

Уладзімір Целяпун нарадзіўся 23 студзеня 1956 года ў Мазыры. Пасля сужбы ў войску працаваў на заводзе «Мазыркабель». У 1985 годзе скончыў Ленінградскі палітэхнічны інстытут імя Калініна і вярнуўся на прадпрыемства майстрам участка. Затым быў прызначаны інжынерам-тэхнолагам, начальнікам тэхнічнага аддзела. У чэрвені 2010 года кіраўніцтва ААТ «Беларускабель» не працягнула з праваабаронцам працоўны кантракт.

Грамадскай дзейнасцю займаецца з 1989 года. З 1991 па 1996 год з'яўляўся кіраўніком Клуба шматдзетных сем'яў, з 2000 года — узначальвае рэгіянальнае аддзяленне Праваабарончага цэнтра «Вясна».

**— Спадар Уладзімір, часам кажуць, што «праваабаронцамі не нараджаюцца»... Якія жыццёвыя абставіны паўплывалі на Ваш шлях да праваабарончай дзейнасці?**

— У якасці праваабаронцы я ўсвядоміў сябе з 1990 года, калі стаў сябрам Клуба шматдзетных сем'яў у Мазыры. Праз пэўны час мяне абралі кіраўніком гэтаў грамадскай арганізацыі і, займаючыся абаронай шматдзетных сем'яў у нашым рэгіёне, улічваючы сітуацыю пачатку 90-х гадоў, калі захістаўся Савецкі Саюз, мы сталі міжволі абараняць правы і іншых сацыяльных груп.

Акрамя гэтага, наступствы чарнобыльскай катастрофы таксама вымагалі ад нас пэўных дзеянняў, паколькі дзяржава не ўсё ў гэтым плане рабіла. Ужо ў 1990 годзе мы арганізоўвалі Маршы за выжаванне ў Маскве, што дазволіла нам прабіць інфармацыйную блакаду, створаную наўмысна, і тады пра нашыя трывогі і праблемы даведаліся ў многіх краінах свету, нам сталі дасылаць лекі, пачала аказвацца гуманітарная дапамога. Нашы дзеці атрымалі магчымасць выязджаць за мяжу на аздараўленне — гэта было ў той час найважней, таму, здаралася, замест гуманітарнай дапамогі мы прасілі замежныя дабрачынныя арганізацыі вывезці з забруджанай тэрыторыі дзяцей. І для саміх дзяцей тыя паездкі сталі адкрыццём іншага свету. Чарнобыль прынёс не толькі гора, але і спрычыніўся да разбурэння той жалезнай заслоны, якая існавала паміж Савецкім Саюзам і астатнім светам. Такім вось шляхам ішоў я, а ў 2000 годзе патрапіў у Праваабарончы цэнтр «Вясна».

**— Давайце падрабязней спынімся на наступствах Чарнобыльскай аварыі. Вы займаліся гэтымі праблемамі ўсур'ёз, шмат дапамагалі простым людзям. Менавіта за гэтую дзейнасць у 2010 годзе Вы атрымалі ўкраінскую ўзнагароду «Чарнобыльскі Крыж: Мужнасць. Годнасць. Гуманнасць». А што дзяржава, яна ж таксама не стаяла ўбаку? Чаму ўзнікала патрэба яшчэ і ў ініцыятывах грамадзян?**

— Па-першае, тады было недастаткова інфармацыі пра аварыю, яе наступствы, зусім мала было заканадаўчых актаў



Уладзімір Целяпун і Юрый Чаранкоў падчас ушанавання памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Помнік каля вёскі Міхалкаўская. 2 лістапада 2009 года.

як на мясцовым, так і на нацыянальным узроўні па абароне пацярпелых грамадзян. І мы актыўна прабівалі гэта. Спачатку нас не ўспрымалі ўсур'ёз, не пускалі нікуды, нават запалохвалі. Калі мы арганізоўвалі Маршы за выжыванне і збіраліся ехаць у Маскву, нам пагражалі, што там усіх арыштуюць. Аднак мы прабіліся ў Крэмль, і якраз тады, калі праходзіў апошні з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, нас у Крамлі прыняў Мікалаў Рыжкоў, на той час — старшыня Савета Міністраў СССР. Нашы прапановы ўважліва выслухалі, і потым кіраўнікі нашай рэспублікі і Гомельскай вобласці атрымалі сродкі на ліквідацыю наступстваў Чарнобыля, на дапамогу людзям — гэтак званыя «грабавыя» грошы. Пачалі прымацца грунтоўныя меры па дапамозе людзям, якія жылі на забруджаных тэрыторыях.

Затым, з выбарамі ў Беларусі першага прэзідэнта, усе нашыя заваёвы паступова былі знішчаны. Не стала дэмакратычных дэпутатаў ні ў мясцовых Саветах, ні ў вышэйшых органах

улады. У незалежнай Беларусі пачалася паступовая ліквідацыя заканадаўчых актаў і тых ільготаў, якія так цяжка намі даліся. На сёння мы практычна нічога гэтага не маем. У хворых людзей нават здымаюцца групы па інваліднасці. І ніхто з дактароў не хоча браць на сябе адказнасць і даказваць, што менавіта Чарнобыль спрычыніўся да росту захворванняў. Прафесар медыцыны Юрый Бандажэўскі, які грунтоўна даследваў постчарнобыльскія праблемы ў Гомелі, быў асуджаны і зараз вымушаны жыць у эміграцыі.

**— Людзі, якія паслядоўна і мэтанакіравана, з года ў год, адстойваюць правы людзей, мусіць, валодаюць нейкімі асаблівымі якасцямі. Ці сапраўды гэта так?**

— Відаць, сапраўды, ёсць такія «белыя вароны» з абвостраным пачуццём справядлівасці. Магчыма, што адзін з іх і я сам. Бо



Уладзімір Целяпун з унучкай Варварай. 2011 год.



Мазыр. Каля помніка беларускім габрэям, якія 31 жніўня 1941 года ўчынілі акт самаспалення. Справа ад Уладзіміра Целепуна — Аляксандр Кавальчук і Якаў Гутман, у другім шэрагу — Рыгор Крывіцкі. 31 жніўня 2011 года.




Мазыр. Сустрэча з выбаршчыкамі кандыдатаў у дэпутаты Францішка Вячоркі і Уладзіміра Целепуна. Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. 2010 год.




Ліквідатары аварыі на ЧАЭС. Злева ад Уладзіміра Целепуна — Аляксандр Валчанін, справа — Васіль Сіліверст. Мінск, 2010 год.

немагчыма глядзець раўнадушна, як парушаюцца не толькі твае асабістыя правы, але і правы іншых. Нават у той час, калі я з'яўляўся кіраўніком Клуба шматдзетных сем'яў, сутыкаўся з праблемамі не толькі гэтай катэгорыі грамадзян, але і інвалідаў. Была ў нас група сацыяльнай дапамогі інвалідам і састарэлым. Тады мне ўдалося наладзіць кантакты з нямецкімі ініцыятывамі, якія і дагэтуль прыязджаюць у Мазыр, практычна дапамагаюць інвалідам. І такое адчуванне датычнасці да раэльнай дапамогі, асабліва калі бачыш вынікі сваёй працы — дае імпульс для праваабарончай дзейнасці. Важна, што многія людзі ведаюць: знойдзецца нехта, хто выслухае праблемы і нават калі не ў кожнай сітуацыі дапаможа, але ж маральную падтрымку, якая таксама важная, акажа заўсёды.

**— Ці ўдалося Вам за даволі працяглы час, які займаецеся праваабарончай дзейнасцю, змяніць стаўленне звычайных людзей, Вашых землякоў, да абароны сваіх правоў?**

— З аднаго боку, мазыране сталі больш цікавіцца сваімі правамі, але, шчыра кажучы, здараецца, што карыстацца нашай дапамогай баяцца. Перашкаджае гэтаму вірус страху, які зарадзіўся ў грамадстве, у тым ліку і па прычыне стаўлення ўладаў да нас, праваабаронцаў. Нас выклікаюць на допыты, часам арыштоўваюць, звальняюць з працы, дыскрэдытуюць. Людзі глядзяць на такі пераслед і нават пры жаданні звярнуцца да нас — часам пабойваюцца. Не ўсе вераць, што наша дапамога абыдзецца для іх без наступстваў. Аднак, калі ўсе афіцыйныя магчымасці ў адстойванні правоў вычарпаныя, тады ідуць да праваабаронцаў — як да апошняй надзеі.

**— А ці магло б змяніцца стаўленне грамадства да адстойвання правоў і свабод, да саміх праваабаронцаў, калі б людзі былі ў гэтых адносінах больш дасведчаныя, інфармаваныя?**

— Калі весці гаворку пра адукацыю ў галіне правоў чалавека, дык я ведаю, што ў ВНУ існуе такі прадмет, як

«правы чалавека». Калі да нас у Мазыр прыехаў на семінар дацэнт Гомельскага дзяржуніверсітэта, ён заявіў літаральна наступнае: «Я выкладаю дысцыпліну «правы чалавека», якіх у нас у рэспубліцы няма». Гэтыя словы тлумачаць многае. І Канстытуцыя ў нас ёсць, і адпаведныя законы, а на практыцы часцей працуе каманда зверху, альбо гэтак званае тэлефоннае права. Для мяне, напрыклад, галоўная крыніца ведаў — гэта найперш самаадукацыя. А яна ўжо падмацоўваецца тымі ведамі і практычнымі навыкамі, якія можна атрымаць ад аўтарытэтных прафесіяналаў, больш адукаваных калег.

**— Што Вам найбольш імпануе ў праваабарончай дзейнасці, якія накірункі ў працы?**



Каля капліцы «Ахвярам Чарнобылю». Мазыр, 26 красавіка 2010 года.

— Існуе сацыяльная палітыка, існуюць сацыяльныя правы, якія нярэдка парушаюцца . Тут дзейнічаць прасцей. І пры наяўнасці фактаў парушэння ды яшчэ пры жаданні ўладаў усё можна выправіць.

А што тычыцца грамадзянска-палітычных правоў — тут значна складаней. У дзяржавы склалася пэўная сістэма: не станавіся супраць дзейснай улады, не крытыкуй, і табе няма чаго асабліва баяцца. Напрыклад, падчас майго вылучэння кандыдатам у дэпутаты мясцовага Савета адмовіліся друкаваць маю выбарчую праграму. Я звяртаўся і ў дзяржаўную друкарню, і ў прыватную, але па тэлефоне ім зверху загадалі проста не браць у мяне гэтую замову. І на ўвесь час выбарчай кампаніі я застаўся без агітацыйных матэрыялаў, без праграмы. І нават Мазырскі раённы суд, куды я звяртаўся з адпаведнай скаргай, вырашыў, што гэтая справа ім непадсудная і адмовіўся ад разгляду. Таму законна праз суды дабіцца аднаўлення сваіх грамадзянска-палітычных правоў надзвычай складана. Калі ты не ў сістэме.

Яшчэ адзін доказ. Цягам мінулага года я прайшоў шмат інстанцый і некалькі судоў, каб дамагчыся элементарнага права — правесці ў Мазыры пікет. Чыноўнікі за гэты час спісалі стос папераў, прыдумляючы адмовы, якія не маюць пад сабой аніякага юрыдычнага абгрунтавання.

**— Няўжо не існуе прыкладаў канструктыўнай працы з дзяржаўнымі ўстановамі ў Мазыры, калі б паміж праваабаронцамі і чыноўнікамі знаходзілася хоць нейкае паразуменне ці хаця б кампраміс?**

— Раней, калі я займаўся Клубам шматдзетных сем'яў, мы намерыліся стварыць цэнтр для дзяцей, якія хворыя на АДЦБ. Два гады дзейнічалі самастойна, я сам адшукаў памяшканне, хадзіў да кіраўнікоў раённай улады. Мне не перашкаджалі, і калі спатрэбілася канкрэтная дапамога, я прыйшоў у выканкам з фундатарамі, якія гатовыя былі аказаць дапамогу. Нам тады выдзелілі дзіцячы садок, які не выкарыстоўваўся па прызначэнні, і Цэнтр гэты мы арганізавалі. Праўда, улады не ведалі, як гэта

дакументальна аформіць. Мне давялося накіраваць сябра ў Гродна, да намесніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Мілінкевіча. Там падобны Цэнтр быў створаны раней, і нам прадставілі ўзоры папераў, па якіх можна было гэты цэнтр зарэгістраваць у Мазыры. Гэта адзіны такі выпадак.

Прыкра, але пачынаючы з 1996 года, да каго б я не звяртаўся ў Мазыры з пэўнымі прапановамі, нават пры наяўнасці паразумення з іх боку, прыняць самастойнае рашэнне чыноўнікі не могуць.

**— Чаму мясцовая ўлада так негатыўна ставіцца да Вашых ініцыятываў і, у прыватнасці, да праваабарончай дзейнасці?**

— Таму што ад выканаўчай улады на месцах любыя грамадскія ініцыятывы вымагаюць пэўных дзеянняў і высілкаў пры прыняцці рашэння. А самае галоўнае — няма палітычнай волі ў чыноўнікаў, таму што яны ўсе залежаць ад волі аднаго чалавека. І калі зверху не паступіць каманды ці ўзгаднення, то сам чыноўнік ніякага рашэння не прыме, нават у межах існуючых законаў. Так працуе сістэма, створаная гадамі. А праваабаронцы аніяк не ўкладаюцца ў гэтае вузкае рэчышча таталітарнай улады.

**— «Вясна» прыйшла ў Вашае жыццё ў 2000 годзе. Чым яна стала для Вас за гэты час?**

— Найперш, «Вясна» — гэта арганізацыя аднадумцаў. Мы дзелімся сваім досведам, як выкарыстоўваць тую ці іншую сітуацыю пры абароне правоў чалавека. Лічу, што кіраўніцтву «Вясны» ўдалося стварыць трывалы падмурак, на якім мацуецца не толькі сама арганізацыя, але і многія супольныя з іншымі арганізацыямі ініцыятывы. «Вясна» — гэта рэальная дапамога не толькі адзін аднаму, але і многім сотням грамадзянаў. І нашае агульнае дасягненне — той аўтарытэт, які арганізацыя мае не толькі ў Беларусі, але і на міжнародным узроўні.

**Гутарыў Сяржук Сыс**



Падчас сустрэчы з дэпутатам Сейму Літвы Вацлавам Станкевічам. Алесь Капуцкі перадае нумары маладэчанскага часопіса «Куфэрак Віленшчыны». У цэнтры — Аляксандр Стральцоў-Карвацкі. Літва, 2002 год.

# Мы павінны рабіць ўсё магчымае, каб не расчараваць чалавека

**Алесь Капуцкі,** Маладэчна

# Алесь Капуцкі

Алесь Капуцкі нарадзіўся ў Маладэчне ў 1962 годзе, там жа скончыў сярэднюю школу, затым — Беларускі тэхналагічны інстытут па спецыяльнасці інжынер-механік. У 2010 годзе дадаткова атрымаў дыплом юрыста. Актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю, з'яўляецца сябрам Рады гісторыка-краязнаўчага часопіса «Куфэрак Віленшчыны». Жанаты, мае траіх дзяцей.

**— Спадар Алесь! У Вашым родным краі, на гістарычнай Віленшчыне, дзе здаўна Вас ведаюць як абаронцу гістарычнай спадчыны, арганізатара шматлікіх культурніцкіх ініцыятыў, Вы заявілі пра сябе яшчэ і як аўтарытэтны праваабаронца. Што паклала пачатак такому жыццёваму выбару ?**

— Найбольшае ўражанне на мяне пакінулі незабыўныя падзеі, што адбываліся ў 1995-96 гадах, калі ў Беларусі ўвабраліся ў сілу масавыя рэпрэсіі. Памятаю, як у 1999 годзе ў нас у Маладэчне было створанае міжраённае грамадскае аб'яднанне «Рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятыў». Ад імя гэтай арганізацыі быў напісаны праект у фонд «Еўразія», які меў знакавую назву: «Прававая асвета насельніцтва і юрыдычная абарона правоў чалавека». На той час гэта яшчэ магчыма было рабіць афіцыйна, сама арганізацыя была зарэгістраваная, меўся банкаўскі рахунак, плаціліся падаткі. Неўзабаве разам з аднадумцам, юрыстам Аляксеем Хвосцікам мы пачалі з імпэтам ажыццяўляць гэты праект, які, на жаль, застаўся няскончаным, паколькі фонд «Еўразія» загадаў, як кажуць, доўга жыць. Тым не менш, дзейнасць у гэтым накірунку мы цвёрда вырашылі працягваць. І вось тут не абыйшлося без праваабаронцаў. Перамовіўшыся з кіраўніком тагачаснай «Вясны-96» Алесем Бяляцкім, мы вырашылі разам стварыць у Маладэчне рэгіянальнае аддзяленне гэтай арганізацыі, і як вясноўцы дзейнічаем да гэтага часу.

**— Выходзіць, што ў Маладэчне Вы былі першапраходцамі, пачыналі з чыстага ліста займацца праваабарончай дзейнасцю?**

— Так, сапраўды, у нас папярэднікаў не было, але дзесьці ў тыя ж часы ў нас была створаная таксама і філія Беларускага Хельсінскага камітэта. Фактычна дзве арганізацыі пачалі паралельна займацца ў рэгіёне праваабарончай дзейнасцю.

**— Як даводзілася працаваць напачатку, ці бачылі ў вас абаронцаў правоў?**



У скаўцкім летніку на рацэ Нарачанка. Першы шэраг: Алесь Капуцкі і бард Андрэй Мельнікаў; другі шэраг: журналіст Севярын Квяткоўскі і бард Зміцер Бартосік; у трэцім шэрагу скаўцкія актывісты з Воршы. 1999 або 2000 год.

— Спачатку не хапала спецыяльных ведаў. Але выручаў наш дастаткова вопытны юрыст Аляксей Хвосцік, а недзе ў пачатку 2000 года я сам прайшоў навучанне ў Варшаве. Гэта і быў першапачатковы запас ведаў, на які я абапіраюся ў сваёй дзейнасці. Шмат новага даведваюся на розных тэматычных семінарах. Зараз жа дадалася і юрыдычная адукацыя, якую атрымаў зусім нядаўна.

Увогуле, я лічу, што праваабаронца павінен быць перш за ўсё адказным чалавекам, таму што да яго звяртаюцца людзі, часам пакрыўджаныя іншымі, якія спадзяюцца атрымаць дапамогу, і мы павінны зрабіць усё магчымае, каб не расчараваць чалавека.

**— Ці заўважаеце Вы нейкія змены ў стаўленні да праваабарончай дзейнасці з боку звычайных людзей?**

— Пэўная эвалюцыя заўважная. Грамадзяне пачынаюць усведамляць, што толькі ведаючы пра свае правы, можна іх годна абараняць. З іншага боку, наша дзейнасць часта не вельмі разрэкламаваная, і таму шмат хто не ведае пра існаванне праваабаронцаў. Звяртаюцца часцей актывісты розных грамадскіх аб'яднанняў, палітычных партый, рухаў. Яны добра ведаюць нас і пры неабходнасці шукаюць абароны і дапамогі. А ўжо праз іх і іншыя людзі таксама знаходзяць праваабаронцаў, мы аказваем ім




Пікет у Дзень Канстытуцыі каля памятнага камяня «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». Маладэчна, 2000 год.



Міжнародная летняя школа па правах чалавека. Алесь Капуцкі разам з Валянцінам Стэфановічам (справа) і Віктарам Ярашуком (злева). Варшава, 2001 год.



Алесь Капуцкі — удзельнік семінара па пытанннях выбарчага заканадаўства. Вільня, 2004 год.



Падчас удзелу ў назіранні за выбарамі ва Украіне з Алесем Бяляцкім. Кіеў, 2004 год.

дапамогу, колькасць такіх зваротаў у нас застаецца прыкладна на адным узроўні. Калі адбываюцца ўсплёскі палітычнай актыўнасці ў грамадстве, за імі адчуваецца і ўсплёск пераследу.

Улады таксама за апошнія гады змянілі сваё стаўленне да нас. Прыгадваю, як напачатку праваабарончай дзейнасці, калі чыноўнікі нас яшчэ не шугаліся, у Маладэчне ладзіліся супольныя семінары з дзяржаўнымі ўстановамі. Напрыклад, я памятаю, як быў арганізаваны семінар па кандамінімумах (сумесных домаўладаннях) з прадстаўнікамі гарадскіх улад. Тады было значана прасцей, а зараз мы сутыкаемся ўсё больш у судах.

**— З якімі праблемамі да Вас найчасцей звяртаюцца людзі?**

— Гэта залежыць ад часу. Калі праходзіць нейкая выбарчая кампанія, дык узрастае колькасць зваротаў, звязаных з парушэннямі выбарчага права, грамадзянска-палітычнымі правамі. Многія маладэчанцы звяртаюцца па пытаннях, датычных працоўнага заканадаўства, частка з іх — гэта прадпрымальнікі, але і звычайныя працоўныя прыходзяць. Скардзяцца на працадаўцаў, якія самі часам не ведаюць заканадаўства і парушаюць яго.

Міжнародная летняя школа па правах чалавека. Справа — Марэк Навіцкі. Варшава, 2000 год.



Мы зусім нядаўна абаранялі помнік «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». Раней ён знаходзіўся ў скверы каля Цэнтральнай плошчы Маладэчна. Затым, рыхтуючыся да «Дажынак», на гэтым месцы ўсталявалі скульптуру з фантанам «Папараць-кветка». А праблема ўзнікла з-за таго, што мясцовыя ўлады нават не параіліся на гэтую тэму з жыхарамі горада. Я накіраваў зварот да старшыні мясцовага райвыканкама з пытаннем пра далейшы лёс помніка, быў арганізаваны збор подпісаў у ягоную абарону.

Яшчэ адна балючая праблема — планы будаўніцтва Астравецкай атамнай станцыі. Разам з грамадзянскай ініцыятывай «Астравецкая атамная — гэта злачынства» мы правялі круглыя сталы па праблеме яе будаўніцтва, запрасілі на іх прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і палітычных партый, прафесара Георгія Лепіна. Правялі гэтыя сустрэчы не толькі ў Маладэчне, але і ў суседніх гарадах: Вілейцы, Смаргоні і Мядзелі.

**— Ці сутыкаліся Вы з фактамі пераследу асабіста?**

— Такія факты таксама, на жаль, здараюцца. Вось, напрыклад, 25 снежня 2010 года, якраз пасля выбараў, у мяне ў кватэры, дзе я пражываю, і на офісе, дзе зарэгістраваны, прайшлі ператрусы, звязаныя з крымінальнай справай па масавых беспарадках у Мінску, хаця я ніякага дачынення да гэтых падзеяў не меў. Я займаўся маніторынгам выбараў і ў той дзень знаходзіўся ў Маладэчне. Гэта было вельмі нечакана для мяне. Забралі тэхніку, некаторыя праваабарончыя матэрыялы. У тым жа годзе, крыху раней, 31 лістапада, кіраўніцтва прыватнага прадпрыемства не працягнула працоўны кантракт, і я застаўся без працы. Затым мясцовая інспекцыя па падатках і зборах запатрабавала падатковыя дэкларацыі, каб знайсці нейкую новую зачэпку для пераследу.

Такое стаўленне да нас таму, што праваабаронцы не даюць спакойна жыць прадстаўнікам улады, чыноўнікам. Улады часта парушаюць заканадаўства ў адносінах да простых грамадзян, а мы намагаемся гэтаму перашкодзіць. Яшчэ іх непакоіць і вельмі

не падабаецца актыўнае назіранне за выбарчымі працэсамі, якое мы рэгулярна ажыццяўляем, пры гэтым выкрываючы вельмі сур'ёзныя парушэнні.

**— Вашыя спадзяванні на будучае?**

— Нават калі ў нашай краіне зменіцца сітуацыя, я не думаю, што я альбо яшчэ нехта з праваабаронцаў застанецца без працы. Справа ў тым, што народ наш яшчэ слаба адукаваны ў плане ведання сваіх правоў, механізмаў іх абароны, і гэта, на маю думку, будзе працягвацца доўга. У перспектыве патрэбна будзе праводзіць доўгатэрміновую грунтоўную прававую асвету насельніцтва. Бо нават у тых краінах, якія не так даўно ўступілі ў Еўразвяз, у нашых суседзяў, далёка да таго, каб людзі годна абараналі свае правы. А беларусаў жа апошнімі гадамі ўлада проста абалваньвала.

Увогуле, з прыходам у Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў мяне з'явілася шмат сяброў і аднадумцаў па ўсёй Беларусі. Я шмат даведаўся за гэты час і ў плане абароны правоў чалавека, і ў плане арганізацыі грамадскай дзейнасці. Спадзяюся, што неўзабаве ўсё ў нас зменіцца да лепшага: запануе Закон, будзе дынамічна развівацца грамадзянская супольнасць, а ўсе мы будзем жыць у нармальнай цывілізаванай еўрапейскай краіне.

**Гутарыў Сяржук Сыс**




# Апошняе слова
# Алеся Бяляцкага на судзе
# 23 лістапада 2011 года

Я згодны з кожным словам адваката. Лічу, што тыя аргументы, якія ён прывёў, маюць дастатковае юрыдычнае абгрунтаванне і дастаткова падставаў для сур'ёзных адносінаў да іх. У той жа ж час я знаходжуся ў складанай сітуацыі, бо выдатна разумею, што гэтая справа ад пачатку да канца мае палітычны падтэкст, і выступленне адваката, і маё апошняе слова, на жаль, нагадваюць крык чалавека ў пустыні, і якому вельмі цяжка дакрычацца. І я сябе адчуваю зараз тым, які крычыць у пустыні, спрабуючы дакрычацца да сонца. Тым не менш, я маю, што сказаць.

## Пра палітычны кантэкст пераследу за праваабарончую дзейнасць

Пачну, мабыць з таго, што літаральна перад тым, як я патрапіў у зняволенне, мой сябра даў мне пачытаць старую савецкую кніжку пра супрацьдзеянне КДБ праваабаронцам у Савецкім Саюзе. Кніжка напісаная ў 80-я гады. Яна была дастаткова цікавая, таму што вельмі шмат з таго, што апісваецца там, перагукаецца з тым, што адбываецца ў Беларусі ў апошнія гады. І я вызначыў бы асноўныя задачы, якія ставілі тады спецслужбы перад сабою. Першая — дыскрэдытаваць праваабаронцаў, абвясціць іх тунеядцамі, як гэта было ў выпадку з паэтам Іосіфам Бродскім. Ці абліць брудам, паказаць іх несамастойнасць, як гэта было ў выпадку з Андрэем Сахаравым. Ці абвінаваціць у фінансавых махінацыях, што тычылася пісьменніка Васіля Аксёнава. Ці проста зрабіць вар'ятамі, як было ў дачыненні да беларускага праваабаронцы Міхася Кукабакі, які сядзеў у «псіхушцы» шэсць гадоў за тое, што распаўсюджваў Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў Беларусі. Сорак гадоў прайшло — і неверагодна, але сітуацыя паўтараецца. Я адчуваю сябе гэтыя апошнія тры з паловай месяцы, як быццам бы я вярнуўся ў Савецкі Саюз. І проста на нейкім іншым узроўні адбылася рэінкарнацыя ўсяго таго, што было раней.

Калі 17-га студзеня 2011 года праводзіўся вобшук у Ракаве, дзе ў нас хата знаходзіцца, ехалі мы на машыне з супрацоўнікамі КДБ (маладыя хлопцы гадоў па 35), дарога туды займала дзесьці гадзіну, і я спрабаваў іх разгаварыць. Пытаюся: «А што вы ўсё працуеце нейкімі старымі метадамі — шантажуеце, вярбуеце людзей, вобшукі гэтыя праводзіце? Няўжо недастаткова вам той інфармацыі, якая зараз ёсць у інтэрнэце, якую мы гаворым?» Як праваабаронцы мы дастаткова адкрытыя. Дастаткова зайсці на сайт «Вясны» (вось і шаноўны грамадзянін пракурор гэта пацвердзіў), там хапае інфармацыі пра нашую дзейнасць — чым мы займаемся, якія нашыя задачы, якія метады. За гэты год толькі я даў чатыры вялікія інтэрв'ю, дзясяткі розных каментароў у СМІ, у тым ліку ў інтэрнэце, якія складаюць дастаткова поўную карціну. Прааналізуйце — і вы будзеце ведаць, чым займаюцца праваабаронцы». Ну, яны сумеліся, і кажуць, маўляў, старыя метады таксама добрыя, так што мы працуем так, як нас вучылі. Ну, я не веру ў тое, што КДБ і іншыя дзяржаўныя службы, якія цікавіліся і цікавяцца дзейнасцю «Вясны», не ведаюць, чым займаецца «Вясна» і, у прыватнасці, я — як старшыня арганізацыі. Калі яны сапраўды бачаць у праваабаронцах, у прыватнасці ў «Вясне», канал для перапраўкі ў Беларусь фінансавых сродкаў для «фінансавання радыкальнай апазіцыі», як пісаў у сваім лісце генерал Вягера... Цікава толькі, дзе яны знайшлі гэтую радыкальную апазіцыю ў Беларусі, няхай бы паказалі! У гэтым выпадку я лічу, што гэта іх недапрацоўка, непрафесіяналізм і ўваходзіць у серыю такіх казак-страшылак, якія мы чулі ў 2006-м годзе, калі старшыня КДБ Сухарэнка распавядаў пра радыкальную апазіцыю, якая збіралася труціць мінскі водазабор express кактэйлем з настоеных на вадзе дохлых пацукоў. Я мяркую, што КДБ добра ведае і ўсведамляе, чым на самой справе займаюцца праваабронцы ў Беларусі, і я ў прыватнасці, і свядома і мэтанакіравана працуе супраць праваабаронцаў, выкарыстоўваючы любыя метады для іх пераследу. Гэтая траўля добра арганізавана ў межах выбудаванага рэжыму.

І дастаткова паглядзець: у 1998-99-м годзе была першая перарэгістрацыя няўрадавых арганізацый, калі сотні арганізацый не былі зарэгістраваныя. У тым ліку і «Вясна-96» не прайшла перарэгістрацыю, і «заслуга» ў гэтым Міністэрства юстыцыі. Грамадзянская супольнасць, якая толькі пачала станавіцца на ногі ў 90-х гадах, неяк структуравацца, афармляцца — яна адчула моцны прэсінг з боку дзяржавы. І тады ж былі выкінутыя з Беларусі дабрачынныя фонды, рэзка была абмежаваная магчымасць легальнага фінансавання няўрадавых арганізацый. Руку да гэтага прыклала і Адміністрацыя прэзідэнта. У 2003-2004-х гадах была праведзена цэлая кампанія па закрыцці няўрадавых арганізацый: каля 400 арганізацый былі ліквідаваныя, у тым ліку і Праваабарончы цэнтр «Вясна» і яшчэ некалькі праваабарончых арганізацый. І, нягледзячы на тое, што ў 2007-м годзе было прынята рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН аб аднаўленні рэгістрацыі «Вясны», яно было праігнаравана. І руку да гэтага прыклалі і Міністэрства замежных спраў, і Міністэрства юстыцыі. Спроба рэгістрацыі ў наступныя гады была адхілена — Мінюст зноў жа не бачыў патрэбы ў існаванні праваабарончых арганізацый у Беларусі. А ў 2006-м годзе быў уведзены 193-1 — крымінальны артыкул, які пераследуе дзейнасць незарэгістраваных арганізацый, што з'яўляецца абсалютным нонсэнсам [кажа гэта, гледзячы на суддзю — рэд.]. Нагадаю, што гэтыя змены ў крымінальнае заканадаўства былі прадстаўленыя зноў жа старшынёй Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Дарэчы, літаральна пару тыдняў таму Венецыянская камісія вынесла рашэнне аб тым, што гэтыя змены ў Крымінальным кодэксе Беларусі не адпавядаюць міжнародным пагадненням [на гэтых словах суддзя, ці то з інтарэсам, ці то са здзіўленнем прыпадымае бровы, нібыта чуе ўпершыню — рэд.], падпісаным Беларуссю, якія адносяцца да грамадзянскіх і палітычных правоў. 2011 год асаблівы, калі была арганізавана сапраўдная кампанія траўлі і Праваабарончага цэнтра «Вясна», і мяне як старшыні. Хацелі таксама, каб за кратамі апынуўся і Валянцін Стэфановіч, але гэта не атрымалася.

Усё гэта, канечне, складае палітычны кантэкст пераследу мяне за маю праваабарончую дзейнасць.

## Пра адносіны ўладаў да праваабаронцаў

Не сакрэт, што ў Беларусі склалася аўтарытарная ўлада, якая не бачыць месца для праваабаронцаў у краіне. Нерэгістрацыя праваабарончых арганізацый звязаная менавіта з гэтым. Шмат маіх сяброў, калег былі выкінутыя з афіцыйных месцаў працы за гэтыя гады, яны пераследваліся ў адміністрацыйным парадку і іншым чынам. На жаль, улада не церпіць канкурэнцыі — пераследуе палітычных апанентаў, абмяжоўвае грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды — права на сходы, мітынгі, аб'яднанні, атрыманне і распаўсюд інфармацыі, свабодныя і справядлівыя выбары. Улада не дазваляе развівацца грамадзянскай супольнасці, разбурае яе. Грамадская воля паралізаваная апошнім часам. І людзі, большасць з якіх знаходзіцца на працоўным кантракце, жывуць пад прэсінгам, страхам. Улада не церпіць крытыкі — пераследуе журналістаў і праваабаронцаў. І сёлетнія судовыя працэсы — над Андрэем Пачобутам, нада мною — якраз з'яўляюцца пацверджаннем гэтаму. Гэта працэсы з адной абоймы, хаця яны маюць быццам бы фармальна розныя крыніцы. І галоўная супярэчнасць, інтрыга, бачыцца мне ў тым, што ўсе гэтыя дзеянні ўлады ні ў чым не адпавядаюць ні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ні міжнародным пагадненням, якія заключыла дзяржава Беларусь, ужо будучы самастойнай, і ўзяўшы на сябе па спадчыне тыя абавязкі, якія ў свой час яшчэ браў Савецкі Саюз. І я, і мае калегі пра гэта гаварылі, мы пра гэта гаворым і будзем гаварыць, таму што гэта ёсць ісціна.

Я нагадаю, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, артыкул 36, гарантуе права на свабоду аб'яднанняў, якое парушаецца,

артыкул 34 гарантуе права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі, артыкул 33 — на свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне, артыкул 59 — абавязвае дзяржаўныя органы ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення абароны правоў і свабодаў асоб. Таксама артыкул 21 гаворыць пра тое, што дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзянаў, замацаваныя Канстытуцыяй, законам і прадугледжаныя міжнароднымі абавязкамі дзяржавы. Гэтыя міжнародныя абавязкі — Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека, артыкул 19, які гаворыць пра тое, што кожны чалавека мае права на свабоду перакананняў, на свабоднае выказванне іх, на свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць, распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі. А таксама артыкул 20, які сцвярджае, што кожны чалавека мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый. Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах (які Беларусь падпісала і мусіць выконваць): артыкулы 19 і 22 сцвярджаюць практычна тое самае. Існуе дакумент, пра які я казаў раней — Дэкларацыя ААН пра праваабаронцаў, якая датычыцца непасрэдна працы праваабаронцаў, і якая сцвярджае, што кожны чалавек мае права індывідуальна і сумесна з іншымі заахвочваць і імкнуцца абараняць і ажыццяўляць правы чалавека і асноўныя свабоды. Гэта значыць — праводзіць мірныя сустрэчы і сходы, ствараць няўрадавыя арганізацыі, асацыяцыі, групы, уступаць у іх і ўдзельнічаць у іх дзейнасці. Мае права ведаць, шукаць, здабываць, атрымліваць, мець у сваім распараджэнні інфармацыю пра ўсе правы чалавека. Мае права свабодна публікаваць, перадаваць, распаўсюджваць меркаванні, інфармацыю і веды пра ўсе правы чалавека і асноўныя свабоды. Мае права мець рэальны доступ да ўдзелу ў кіраванні сваёй краінай праз права прадастаўлення ва ўрадавыя органы, установы заўвагаў, прапановаў адносна паляпшэння іх дзейнасці, прыцягваць увагу да любога аспекту іх працы. Мае права прапаноўваць і прадастаўляць прафесійную і кваліфікаваную прававую дапамогу ў справе абароны правоў

чалавека. Мае права на бесперашкодны доступ да міжнародных органаў, якія валодаюць кампетэнцыяй атрымліваць, разглядаць паведамленні па пытаннях правоў чалавека. Кожны чалавек мае права ўдзельнічаць у мірнай дзейнасці, накіраванай супраць парушэнняў правоў чалавека. А пункт 13 сведчыць пра тое, што кожны мае права індывідуальна і сумесна з іншымі запрошваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы спецыяльна для мэтаў заахвочвання абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў мірнымі сродкамі.

Дык навошта ж вы з гэтай Дэкларацыяй пагаджаліся? Я да вас звяртаюся як да дзяржаўнага чыноўніка, які прадстаўляе дзяржаву [кажа гэта пракурору Сайкоўскаму — рэд.]. Не падтрымлівалі б! Выйдзіце з ААН, выйдзіце з АБСЕ! Усё будзе нармальна тады, будзе зразумела, дзе мы знаходзімся. Згодна абавязкаў, узятых у рамках АБСЕ, Беларусь бралася паважаць правы сваіх грамадзянаў, самастойна ці сумесна з іншымі ўносіць актыўны ўклад у развіццё абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў і ўжываць неабходныя меры для эфектыўнага забеспячэння гэтага права. Гэта Венская, Мадрыдская сустрэчы, прысвечаныя пытанням, якія адносяцца да бяспекі Еўропы. Згодна Капенгагенскай канферэнцыі па чалавечым вымярэнні, дзяржавы-удзельніцы АБСЕ пагадзіліся прадастаўляць розныя магчымасці праваабаронцам і грамадзянскай супольнасці для ўдзелу ў заахвочванні і абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў. Відавочна, што дзяржава парушае гэтыя правы грамадзянаў. Відавочна, што працэсы такога кшталту, як нада мной, маюць палітычны характар.

Адносіны ўладаў да праваабаронцаў у розных краінах без выключэнняў — гэта лакмусавая паперка, па якой можна даволі дакладна вызначыць узровень дэмакратычнасці грамадства. І як правіла, у аўтарытарных рэжымах дзейнасць праваабаронцаў выклікае незадавальненне. У гэтым шэрагу Беларусь не з'яўляецца выключэннем. Ёсць такія постсавецкія краіны, як Узбекістан, дзе дзясяткі праваабаронцаў сядзяць у турме, асуджаныя па артыкулах, якія выглядаюць значна горш за мой.

Падкідваюць два патроны, падкідваюць пяць грамаў наркотыкаў — і садзяць на дзесяць гадоў. Восем чалавек з узбекскай арганізацыі, якая ўваходзіць у Міжнародную федэрацыю правоў чалавека, віцэ-прэзідэнтам якой я з'яўляюся, зараз знаходзяцца ў зняволенні. У Расіі ёсць Паўночны Каўказ, дзе праваабаронцаў проста забіваюць. Так у Чачні застрэлілі нашую добрую знаёмую Наталлю Эстэміраву. Ёсць Кіргізія, дзе праваабаронцаў пераследуюць незразумелыя ваенізіраваныя групоўкі. І ёсць Беларусь — з «праўдападобнасцю» гэтага пераследу. Таму я сцвярджаю, што гэтае абвінавачанне ў нейкіх там фінансавых парушэннях, парушэннях падаткавага заканадаўства — гэта поўная лухта, і мая справа не з'яўляецца звыклай і звычайнай справаю. Бо інакш бы гэтае абвінавачанне не падтрымліваў цэлы начальнік аддзела гарадской пракуратуры. І следчая група не складалася б з чатырох афіцэраў Дэпартамента фінансавых расследванняў, якія, дарэчы, сябе вельмі няўтульна адчувалі, ведучы гэтую справу, і відавочна было, што ім гэтая справа сто гадоў была непатрэбная. Таксама не было б такога ажыятажу вакол будынка суда, што мы назіраем падчас усяго гэтага працэса. І не было б машыны ДАІ, якая суправаджае мяне кожны раз з Валадаркі. Я выходжу — і ўсе, каго вязуць на суд, смяюцца: «Што, сёння зноў з мігалкай паедзем!»

## Пра кампанію ў афіцыйных СМІ

Асобна трэба сказаць пра афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія таксама шмат увагі надаюць гэтаму працэсу і непасрэдна мне. «Беларусь сегодня», афіцыйная дзяржаўная газета, якая выдаецца на сродкі ўсіх падаткаплацельшчыкаў, піша 6 жніўня: «Специализирующиеся на финансовых расследованиях офицеры уже давно располагали информацией, что господин Беляцкий уверенно самостоятельно распоряжается крупными финансовыми средствами. Говорят о миллионах евро. Не исключено, выяснится, что нынешние пылкие правозащитники

получали от этой борьбы неплохие личные дивиденды». Інфармацыя ад 10 жніўня: «Беляцкий имеет на счетах в Вильнюсе большие суммы, которые перевозит в Минск, скорее всего, по карточкам. Беляцкий официально числится безработным, не имеющим официально ни копейки дохода. Официально Беляцкий не имеет ни кола ни двора... Он имеет в резерве еще и неплохой земельный участок, тоже в красивом месте». Гэты зямельны ўчастак з'яўляецца заліўным лугам, на якім нельга нічога будаваць, таму што ён ахоўваецца як прыродная зона і знаходзіцца проста каля маёй хаты. Там мой сусед каня пасе, можна яшчэ ў валейбол пагуляць — вось як бы і ўсе выгоды з гэтага участка. 17 лістапада: «Ему нужно объяснить, как удалось приобрести столько дорогой недвижимости и как это соотносится с правозащитной деятельностью». А якая гэта «дорогая недвижимость», мы слухаем па беларускім тэлебачанні. Канал «Беларусь 1» перадае: «Сітраен» за восем тысяч даляраў», які рэальна каштаваў 2 300 еўра плюс мыта, гэта 3 000 еўра, і быў увезены сюды пабіты. «Рамонт кватэры за 60 тысяч даляраў» . Што гэта за кватэра, на якую трэба такія грошы патраціць? Кватэра, у якой мы з жонкай жывем, мае плошчу ў 61 метр. «Адпачывае штогод за мяжой, ходзіць у дарагія рэстараны» — гэта ўсё гавораць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Я не магу не расцэньваць гэтую інфармацыю як прамы ціск на суд і на прыняцце рашэння па гэтай справе, што яшчэ раз падкрэслівае, што гэтая справа мае палітычны кантэкст.

## Пра Праваабарончы цэнтр «Вясна»

Падчас гэтага працэсу шмат гаварылася пра Праваабарончы цэнтр «Вясна». Я рады гэтаму і хацеў бы яшчэ трошкі дадаць пра гэтую арганізацыю, бо без разумення працы праваабаронцаў у Беларусі, без разумення тых умоваў, у якіх мы працуем, можа быць, Высокаму Суду будуць недастаткова зразумелыя тыя матывы і эпізоды дзейнасці, якія разглядаліся падчас судовага працэсу. У Статуце «Вясны» (які ўжо не працуе, бо арганізацыя

зачынена) напісана, што ў сваёй дзейнасці арганізцыя кіруецца дзеючай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, міжнароднымі дамовамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь. Фактычна, гэта так і застаецца. І, як мы бачым, міжнародныя пагадненні, якія падпісала Беларусь, даюць магчымасць любому грамадзяніну Беларусі выконваць праваабарончыя абавязкі і быць праваабаронцам. Мы працуем у гэтых легальных рамках.

І сёлета ўжо 15 гадоў як існуе Праваабарончы цэнтр «Вясна», які працуе ў вельмі няпростых умовах, асабліва пасля 2006-га года. Я нагадаю, што арганізацыя была створана вясною 1996-га года, зарэгістраваная ў лютым 1998-га года як гарадская арганізацыя, затым у чэрвені 1999-га года — як рэспубліканская арганізацыя. І дзейнасць, якой займалася «Вясна», яе асноўны накірунак — гэта правядзенне маніторынга выканання беларускімі ўладамі канстытуцыйных і міжнародных абавязкаў у галіне грамадзянскіх правоў і свабодаў. Гэта ўключае ў сябе разнастайныя віды дзейнасці — правядзенне маніторынга заканадаўства і практыкі — якім чынам гэтае заканадаўства, гэтыя правы і свабоды ў Беларусі выконваюцца. І, натуральна, што адной з асноўных задачаў, чым мы займаліся на працягу ўсіх гэтых гадоў, была дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў. Першыя палітвязні ў нас з'явіліся ў 1996-м годзе, фактычна гэта і паслужыла штуршком для стварэння Праваабарончага цэнтра «Вясна». За гэты час мы дапамаглі тысячам людзей. Тысячам! Часам гэта была дробная дапамога, часам большая. Гэта дапамога рознага кшталту — збор інфармацыі, распаўсюд інфармацыі. І гэта тая праца, якую больш ніякая арганізацыя не рабіла. Таксама мы займаліся адукацыяй і асветай, у тым ліку і ў рамках сумесных праектаў з іншымі праваабарончымі арганізацыямі. Гэта і стварэнне Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні, і праца па адукацыі найперш моладзі, і аналітычная праца па напісанні дакладаў па сітуацыі з правамі чалавека, па сітуацыі з умовамі ўтрымання ў месцах зняволення (я зараз маю шмат новай інфармацыі і думаю, што гэты даклад у нас адновіцца калі-небудзь), і правядзенне назірання за выбарамі.

Ліквідацыя ў 2003-м годзе Праваабарончага цэнтра «Вясна» якраз і звязаная з правядзеннем назірання за выбарамі ў 2001-м годзе. Тым не менш, з 2004-га года Праваабарончы цэнтр «Вясна» стаў сябрам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека. З 2007-га года я з'яўляюся віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека — і гэта ёсць сведчанне эфектыўнасці працы як праваабаронцаў у «Вясне», так і ўвогуле беларускіх праваабаронцаў. Мы маем дастаткова высокі аўтарытэт. І ўсе прэміі і званні, якія тут пералічаліся, гэта не ёсць персанальная заслуга Бяляцкага ці «Вясны». Гэта падкрэслівае тую драматычную сітуацыю, якая склалася з правамі чалавека ў краіне, міжнародная супольнасць такім чынам звяртае ўвагу беларускага ўрада на тое, што трэба тут штосьці мяняць. Беларускі ўрад прымае нейкія іншыя рашэнні, і мы бачым, якім чынам — і шляхам гэтага працэсу — рэагуе на падобныя заўвагі.

Тройчы мы спрабавалі зарэгістравацца: у 2007-м і двойчы ў 2009-м гадах. Кожны раз працэс рэгістрацыі для нас — дастаткова складаная працэдура. Гэта падрыхтоўка Статута, гэта прыезд людзей, калі мусяць прыехаць як мінімум 60 чалавек з рэгіёнаў. І вось падчас апошняй рэгістрацыі на ўстаноўчы сход прыязджае больш за 80 чалавек (можаце прыкінуць, што толькі на праезд гэтыя людзі трацяць грошай у агульнай суме каля тысячы даляраў), арэнда памяшкання — асобнае пытанне. Мы збіраемся, праводзім гэты сход. Міністэрства юстыцыі чытае дакументы: «Ага, у вас памылкі. Вось недакладныя дадзеныя: адзін з вашых заснавальнікаў указаў, што ён з'яўляецца супрацоўнікам сярэдняй школы, а трэба было указаць — сярэдне-адукацыйнай школы; яшчэ адзін напісаў, што ён кіраўнік гуртка, а трэба было напісаць, што ён кіраўнік секцыі, бо так указана ў штатным раскладзе...» І гэта ёсць падставы! Вярхоўны суд пагаджаецца — фармальная падстава ёсць. Калі мы просім у Міністэрства юстыцыі, каб далі нам час выправіць гэтыя заўвагі, міністэрства кажа: «А мы не абавязаныя, мы маем права не даваць гэты час». Гэта ёсць стаўленне беларускай дзяржавы да сітуацыі з рэгістрацыяй няўрадавых арганізацый.

Усе гэтыя гады, асабліва апошнія, мы праводзілі грамадзянскія кампаніі — гэта і кампанія супраць смяротнага пакарання, гэта і кампанія «Стоп 193-1», у якой мы бралі ўдзел разам з іншымі праваабарончымі арганізацыямі, гэта і кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Мы назіралі за выбарамі ў 2008-м, 2010-м гадах. Мы рыхтавалі даклады, выступы, агляды, бралі ўдзел у міжнародных канферэнцыях. Асобна трэба адзначыць міжнародную дзейнасць Праваабарончага цэнтра «Вясна». Мы ўдзельнічалі ў праваабарончых місіях па даследванні сітуацыі з правамі чалавека ў іншых краінах. Мы неаднойчы бралі ўдзел у міжнародным назіранні за выбарамі, сябры арганізацыі маюць сур'ёзны вопыт па правядзенні выбараў, ведаюць, як праводзяцца выбары ў іншых краінах — ва Украіне, Кіргізіі, Таджыкістане, Расіі, еўрапейскіх краінах. Мы бралі ўдзел у канферэнцыях, арганізаваных АБСЕ, Радай Еўропы, Еўрапейскім Саюзам, Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, розных форумах і фестывалях, дзе, як я мяркую, дастаткова годна прадстаўлялі Беларусь. І значэнне праваабаронцаў у гэтай сітуацыі, калі рэпутацыя Беларусі за мяжой, у цывілізаваных краінах, гранічна кепская, яно дастаткова вялікае. Таму што мы паказваем, што ў Беларусі ёсць нармальныя людзі, людзі, якія разумеюць, што такое правы чалавека, што такое дэмакратыя. І ў будучыні, я думаю, ніхто не зможа сказаць, што ў гэтыя складаныя для Беларусі часы ніхто ў краіне нічога не рабіў. Я мяркую, што мы шмат у чым ратуем гонар беларусаў на сённяшні дзень і надалей будзем рабіць гэта ў любых умовах, дзе б мы ні знаходзіліся — на волі ці ў турме.

## Пра 2010 год як год «палявання» на «Вясну»

Можна меркаваць, што ўвесь 2010-ты год праходзіла незаконнае патаемнае адсочванне дзейнасці Праваабарончага

цэнтра «Вясна». Пра гэта сведчаць так званыя дакументы, прадстаўленыя КДБ, якія леглі ў аснову праверкі дзейнасці мяне і Стэфановіча. Ну і папярэднія гады. Гэта пацвярджае праца Дома правоў чалавека. У нас ёсць як мінімум некалькі прызнанняў пра тое, што спецслужбамі туды засылаліся маладыя людзі, студэнты, якія потым прызнаваліся ў тым, што яны давалі звесткі пра гэтыя навучальныя школы па правах чалавека, якія мы праводзілі. І невядома, якія высновы з гэтага зрабілі зноў жа органы КДБ, але такія факты мелі месца.

Прадстаўленыя ананімныя дакументы, якія з'явіліся напачатку ўсяго гэтага расследвання, яны былі, як выглядае, здабытыя напачатку 2010-га года. Пра гэта сведчаць даты дакументаў, канец 2009-га — пачатак 2010-га года. Але ходу ім далі толькі ў канцы кастрычніка 2010-га года. Чаму? Я, канечне, відавочна гэта звязваю з выбарамі. Таму што ў верасні былі абвешчаныя прэзідэнцкія выбары 2010-га года, і мы, прадстаўнікі розных праваабарончых арганізацый, абвясцілі правядзенне кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Гэтая кампанія ставіла за мэту маніторынг усіх этапаў выбараў на адпаведнасць міжнародным выбарчым нормам і ўнутранаму выбарчаму заканадаўству. Была праведзена адкрытая прэс-канферэнцыя, дзе была дастаткова падрабязна апісана структура гэтага назірання, расказана пра тое, колькі людзей будзе ўдзельнічаць, якім чынам будзе адбывацца гэта назіранне. Мы былі максімальна і гранічна адкрытыя — бясконца ішлі інтэрв'ю, каментары, ішоў вал інфармацыі пра тое, што бачылі нашыя назіральнікі падчас гэтых выбараў. Трэба сказаць, што склалася ўнікальная сітуацыя, таму што Цэнтральная выбарчая камісія, а таксама тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі рэагавалі на гэтую нашую інфармацыю. Мы маем дзясяткі пацверджанняў такіх рэагаванняў. Яны выпраўлялі тыя недахопы, на якія ўказвалі нашыя назіральнікі. Але, тым не менш, актыўнасць праваабаронцаў, як я мяркую, відавочна выклікала вось гэтую праверку, і 03.11.2010 года, а гэта яшчэ разгар выбарчай кампаніі і разгар нашага назірання, з'явіўся гэты ліст генерал-маёра Вягеры Шведу. І я нагадаю гэтую перапіску, яна дастаткова цікавая.

У гэтым лісце намеснік старшыні КДБ звярнуўся да намесніка Генеральнага пракурора Шведа з тым, што «паступіла ананімная заява... прадстаўнікамі незарэгістраванай арганізацыі ПЦ «Вясна» ў мэтах фінансавання радыкальнай апазіцыі выкарыстоўваюцца грашовыя сродкі, якія паступаюць з-за мяжы... яны выкарыстоўваюцца ў супрацьпраўных мэтах, а таксама на асабістыя патрэбы Бяляцкага і Стэфановіча...» Была просьба аформіць міжнароднае следчае даручэнне і накіраваць яго ў кампетэнтныя органы Літвы для праверкі гэтай інфармацыі. У сваю чаргу 15.11.2010 намеснік Генеральнага пракурора Швед звярнуўся да намесніка старшыні Камітэта дзяржаўнага кантроля Вяромкі, перанакіраваўшы гэты зварот Камітэта дзяржаўнай бяспекі, з даручэннем «правесці праверку ў дачыненні кіраўнікоў ПЦ «Вясна» сумесна з супрацоўнікамі КДБ». Што такое «сумесна з супрацоўнікамі КГБ» — дагэтуль для мяне з'яўляецца вялікай таямніцай. Што там было — ці яны нас на праслушку паставілі, ці яшчэ што — незразумела. Ну і падзеі 19-га снежня, канечне, яшчэ больш інтэнсіфікавалі гэтую сітуацыю. Я нагадаю, што ў ноч з 19-га на 20-га снежня супрацоўнікамі Першамайскага РУУС быў праведзены агляд у маёй кватэры, імі было канфіскавана 17 камп'ютараў, затрымана 12 чалавек, якія займаліся правядзеннем назірання на выбарах. І цікава, што ні паперы, ні дакументы, ні інфармацыя з гэтых камп'ютараў у гэтай справе так і не ўзнікла, хаця старшыня КДБ Зайцаў звяртаўся да Зянона Ломаця з тым, што «ў выніку канфіскавана аргтэхніка, дакументацыя, якая мае дачыненне да матэрыялаў праверкі, праведзенай у дачыненні да кіраўнікоў ПЦ «Вясна», і агляд канфіскаваных прадметаў будзе з'яўляцца легалізаванай доказнай базай у дачыненні да ўказаных асобаў. Аргтэхніка знаходзіцца ў Першамайскім РУУС горада Мінска. Інфармуем для вырашэння пытання пра ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць функцыянераў ПЦ «Вясна».

Пасля сітуацыя была нярвовая, зразумела. Цікавым у гэтым плане з'яўляецца наступны дакумент, які прасвятляе — што ж рабілася далей. 24.12.2010 — даклад старэйшага інспектара маёра Кулака, які паведамляе, што «23.11.2010 ім была праведзена

працоўная нарада з прадстаўнікамі КДБ Сінягубам і Мацкевічам» — гэта, я падазраю, куратары «Вясны» — «па выніках якой выпрацаваны напрамкі дзейнасці па ўказаных матэрыялах праверкі». Значыць, адбылася гэтая нарада з супрацоўнікамі КДБ, а потым яны пайшлі ў пракуратуру. 25.11.2010 — «у пракуратуры горада Мінска была праведзена працоўная нарада з начальнікам аддзела па наглядзе за выкананнем падаткавага заканадаўства грамадзянінам Сайкоўскім». [Наступнае пытанне Алесь Бяляцкі адрасуе пракурору Сайкоўскаму — рэд.] Вось цікава было б, каб вы распавялі, пра што вы там размаўлялі падчас той нарады [тут пракурор, заёрзаўшы на сваім месцы, з ухмылкай усімі спосабамі — жэстамі, позіркам і словамі пачаў перанакіроўваць увагу Бяляцкага ад сябе «да суда» — рэд.]. Грамадзянін Сайкоўскі спецыялізуецца на падатках. У яго ў адной руцэ 233-ці, а ў другой — 243-ці, ён адной падразае, а другой — па галаве. Адной падразае, а другой — па галаве. Я так мяркую. І гэтыя падыходы, якія выкарыстоўваліся ў дачыненні да бізнэсмэнаў, былі выкарыстаныя і ў дачыненні да «Вясны». Маёр Кулак піша, што «падчас гэтай нарады з грамадзянінам Сайкоўскім у дзеяннях Бяляцкага і Стэфановіча не ўгледжаны склад злачынства, прадугледжанага артыкулам 233, паколькі адсутнічае факт здзяйснення прадпрымальніцкай дзейнасці і атрымання дахода ад гэтай дзейнасці . Але кваліфікаваць дзеянні апошніх па артыкуле 243 у частцы атрымання даходаў магчыма пасля атрымання інфармацыі ад падраздзялення фінансавай выведкі Літвы, устанаўлення фактаў аб няспаце падаходнага падатку па выніках падаткавай праверкі ў буйным памеры». Фактычна, 25.11.2010 была вырашана ўся парадыгма і ўсе наступныя дзеянні ДФР, следства на працягу ўсіх гэтых месяцаў. Таму што па 233-м артыкуле далей праверка праводзілася за ўвесь гэты месяц, і ў дакладзе Кулака пра гэта пішацца, што «падчас працы па матэрыялу ў Дэпартаменце фінансавага маніторынга выпатрабавана інфармацыя ў дачыненні Бяляцкага, Стэфановіча і іх сваякоў, дзейнасці ПЦ «Вясна» і фінансавых аперацыяў, якія маглі б быць звязаныя з атрыманнем злачынных даходаў ад ажыццяўляемай

ПЦ «Вясна» дзейнасці. Згодна рэсурсаў, гэтая дзейнасць не ўстаноўленая. Выпатрабаванне дэкларацыі пра даходы і маёмасць Бяляцкага і Стэфановіча, а таксама праверка дакладнасці ўказаных там звестак у цяперашні час праводзіцца падаткавымі органамі ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі КДБ...» Зноў супрацоўнікі КДБ — яны ўзаемадзейнічалі з ДФР, з падаткавымі органамі. Вось чаму я сцвярджаю яшчэ раз, што справа гэтая ад пачатку да канца курыравалася КДБ. Праверка па 233-м артыкуле нічога не дала. Адпаведна, пайшла праверка праз Міністэрства падаткаў і збораў. Гэтая праверка працягвалася да атрымання як быццам бы звестак з Літвы і з Польшчы, што адбылося толькі ў красавіку.

Паралельна, я хацеў бы заўважыць, праходзілі іншыя дзеянні, якія сведчаць пра пераслед праваабаронцаў у Беларусі. 17.01.2011 — вобшук, праведзены КДБ ва ўсіх маіх памяшканнях (у кватэрах і ў доме ў Ракаве), падчас якога былі канфіскаваны пэўныя паперы, ноўтбук. Дзе інфармацыя з гэтых папераў? Там, дарэчы, былі нейкія фінансавыя паперы, якія маглі б быць цікавымі падчас гэтага следства. Супрацоўнікі КДБ, мабыць, вырашылі іх не прадстаўляць, таму што, магчыма, яны сведчылі б якраз супраць той версіі, якую афіцыйна на сённяшні дзень выкладае спадар Сайкоўскі. 16.02.2011 Генпракуратурай было вынесена папярэджанне мне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. І з чым яно звязана, як не з праваабарончай дзейнасцю — патлумачыць немагчыма.

Паралельна праводзілася дыскрэдытацыя ў сродках масавай інфармацыі. Асобна я хачу звярнуць увагу на матэрыял, які быў змешчаны ў газеце «Беларусь сегодня» адразу пасля выбараў, дзе фігуруюць фактычна тыя самыя дакументы, якія былі прадстаўленыя ананімна КДБ для праверкі ў ДФР. Якім чынам «Беларусь сегодня» атрымала гэтыя дакументы? Можа быць, яна з'яўляецца органам Камітэта дзяржаўнай бяспекі? Няхай шаноўны, так сказаць, Якубовіч тады падпіша «Беларусь сегодня. Орган КДБ» і друкуе тады гэтыя дакументы. Тым не менш, гэтыя дакументы фактычна з'явіліся напачатку студзеня. Там былі яшчэ фотаздымкі іншых дакументаў. Бачна, што дыскрэдытацыя дзейнасці праваабаронцаў ішла фактычна паралельна.

## Пра абвінавачанне

Калі паглядзець тыя «банкаўскія раздрукоўкі», якія былі прадстаўлены падчас следства, хачу толькі паўтарыць, што яны не выклікаюць у мяне ніякага даверу. Я лічу, што яны несапраўдныя. І нават з улікам гэтага, у гэтых радках няма ніводнага пераводу сродкаў без пазнакаў, і ўсе пазнакі сведчаць пра тое, што існаваў кантроль за сродкамі з боку партнёраў «Вясны», указваліся мэты расходу гэтых сродкаў. Таксама відавочна, што я не распараджаўся гэтымі сродкамі, гэтыя сродкі прызначаліся не для мяне, а для «Вясны». Што датычыцца актаў падаткавай інспекцыі, я лічу іх незаконнымі. Гэтыя акты грунтуюцца на несапраўдных звестках, на поўным неразуменні сэнсу гэтых звестак супрацоўнікамі Міністэрства па падатках і зборах, якія складалі гэтыя акты.

З 16-га чэрвеня, калі такі акт быў прадстаўлены мне, па 4-га жніўня, дня майго арышту, я выязджаў з Беларусі і вяртаўся ў Беларусь як мінімум шэсць разоў. Таму ўсе меркаванні, што я магу знікнуць падчас расследвання гэтай справы, застацца за мяжой, яны не маюць ніякіх падставаў. Я адчуваю сябе абсалютна невінаватым. І мяркую, што наадварот, гэтыя ўмовы свабоднага выезду і ўезду былі прадастаўлены мне для таго, каб, магчыма, я з'ехаў і такім чынам ускосна пацвердзіў сваю віну ва ўтойванні так званых падаткаў.

Праваабарончай дзейнасцю і ўвогуле грамадскай дзейнасцю я займаюся практычна ўсё маё жыццё. У гэтым годзе — 30 гадоў, як я займаюся грамадскай дзейнасцю. І перыяд, калі я адчуваў сябе больш-менш спакойна і свабодна — гэта з 1991-га па 1995-ты год. Пры такой кепскай сітуацыі, якая склалася ў краіне перманентна на працягу апошніх гадоў, натуральна, што крымінальны пераслед мог пачацца ў кожную хвіліну, у кожны год. І тое, што магло адбыцца — адбылося. Таму я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у плане абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў свядома».

**Паводле дыктафоннага запісу з судовага паседжання 23 лістапада.**

**НАША ВЯСНА.**
**Гісторыя ў асобах**

Зборнік інтэрв'ю з сябрамі Праваабарончага цэнтра «Вясна»

Інфармацыйна-публіцыстычнае выданне

***Аўтары-складальнікі:***
**Ірына Пракопчык**
**Таццяна Снітко**
**Сяргей Сыс**

Рэдактар: Таццяна Рэвяка
Дызайн і вокладка: Артур Вакараў
Камп'ютарная вёрстка: Марына Пятровіч
Карэктура:Наталля Карнеека